«ХАЛЕРА ЯСНАЯ!»
@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 7 (12) – 2019
ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ЧАМУ Ў БЕЛАРУСІ ПІЛІ МЕНШ, ЧЫМ У РАСІІ



ВАМПІР ПАД ЛЕПЕЛЕМ



СУПЕРБЕЛАРУСЬ. ЧАСТКА 2

# АНДРЭЙ ГРАМЫКА

## САМЫ ЎПЛЫВОВЫ БЕЛАРУС СССР

16+




Стваральнікі валошкавага марозіва падзяліліся яго складам: вяршкі, валошкі, жыта, ільнянное насенне, вада, згушчанка, сухое малако, масла, глюкозны сіроп і любоў да радзімы.

*Фотапраект, як робіцца валошкавае марозіва, глядзіце на NN.by*

Наша **Гісторыя**
7/2019

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.



На першай старонцы вокладкі — фота Андрэя Грамыкі, gp.by.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.07.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0543/2019.
Наклад 5400 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

У сусветнай гісторыі рэгулярна ўзнікаюць пераломныя моманты, калі грамадства, дасягнуўшы піку развіцця ў рамках адной сістэмы адносін, мусіць пераходзіць да іншай. Бо прагрэс навукі і тэхналогій выклікае настолькі глыбокія сацыяльныя змены, што пакідаць усё па-ранейшаму проста немагчыма.

Акурат у такой сітуацыі свет апынуўся ў XIX стагоддзі. Імклівае развіццё капіталістычных адносін, якое пранікала нават у колішнія «мядзведжыя куты», разбурала старую сацыяльную структуру грамадства, якая да гэтага існавала без істотных зменаў стагоддзямі.

Адначасова з гэтым папулярнымі рабіліся і ідэі нацыянальнага вызвалення. На гістарычную сцэну выходзілі ўсё новыя і новыя народы, якія дагэтуль «адвеку спалі». Спачатку яны гучна заяўлялі пра само сваё існаванне, а неўзабаве пачыналі ўсё больш настойліва патрабаваць змены на сваю карысць наяўнага стану рэчаў. Гэта падкладала міну запаволенага дзеяння пад шматнацыянальныя і шматканфесійныя імперыі, якія існавалі на ўсходзе і поўдні Еўропы.

Старыя сістэмы адносін шмат дзе доўга трымаліся па інерцыі, але чым далей, то ўсё больш давалі трэшчыны. І мыслячым людзям рабілася зразумела: свет ужо ніколі не будзе ранейшым. А вось якім ён будзе і якім мусіць быць — тут была вялікая прастора для ўяўленняў.

У такіх умовах з'яўляўся моцны запыт на сацыяльныя тэорыі, якія маглі б максімальна проста растлумачыць людзям, што адбываецца цяпер і чаго належыць чакаць у будучыні. Менавіта XIX стагоддзе нарадзіла ці, прынамсі, заклала падмурак для ўзнікнення сярод іншага і канцэпцый, якія, цалкам ці часткова прынятыя і адаптаваныя пад бягучыя патрэбы палітыкамі-практыкамі, ужо ў наступным, XX стагоддзі прывялі да беспрэцэдэнтных паводле размаху генацыдаў. Маюцца на ўвазе камуністычная ідэя ў сваіх крайніх формах і фашысцкая ў крайняй форме нямецкага нацызму.

Але няма ніякіх падстаў лічыць людзей, чыста тэарэтычныя распрацоўкі якіх былі пакладзеныя пасля ў аснову ідэалогій таталітарных рэжымаў, амаральнымі і злачыннымі. Яны проста заўважалі той крызіс, у якім апынулася грамадства, і спрабавалі інтэлектуальна адказаць на яго выклікі, паказаць грамадству шлях да наступнага прагрэсу. Як гэта рабілі сотні і тысячы інтэлектуалаў да іх. А да чаго прыводзяць такія ідэі, калі іх паспрабаваць некрытычна ўвасобіць на практыцы, добра відаць пастфактум, але прадбачыць наперад не заўсёды і не кожнаму магчыма. Дарога ў пекла нярэдка выкладзеная самымі добрымі намерамі.

Беларускія інтэлектуалы таго часу не былі ні лепшымі, ні горшымі за іншых. Яны жылі ў тым самым свеце, сутыкаліся з тымі ж самымі праблемамі, назіралі за тым, што адбываецца ў суседзяў, і спрабавалі прыкінуць, як гэта будзе глядзецца на роднай глебе. Адпаведна, усе модныя ў той час у свеце тэорыі не абыходзілі іх бокам. Плёны тых пошукаў засталіся ў старых выданнях і архіўных дакументах. Іх няслушнасць даведзена самім жыццём, але ведаць сваю гісторыю трэба ва ўсіх праявах (**старонкі 40–43**).


4


20


48




40


11


NEW YORK TIMES BESTSELLER
FRANCIS FUKUYAMA
The ORIGINS of POLITICAL ORDER
37


70




МЕНСКІ МАЛОЧНЫ КАМБІНАТ
ДА XX ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА
значна расшырае АСАРТЫМЕНТ
МАРОЖАНАГА
ВЫПУСКАЕЦЦА
эскімо, сняжынка, бомбы
арктыка, брыкеты, тарты,
шакаладнае,
цукатнае,
міндальнае
52


65


77


60




86


92

**Ён супрацьстаяў ЗША і быў хросным бацькам Гарбачова. Ён быў настолькі верны «генеральнай лініі», што проста зліўся з ёю. Ён нават стаў рускім, хоць нарадзіўся беларусам. Ён быў адным з самых уплывовых людзей ХХ стагоддзя — наколькі магчыма быць уплывовым у сістэме, у якой усе людзі — вінцікі. Піша Андрэй Скурко.**



Па прызнанні самога Грамыкі, самымі цяжкімі ў яго кар'еры былі перамовы з Кенэдзі падчас Карыбскага крызісу. Свет стаяў на мяжы атамнай вайны.

WIKIMEDIA COMMONS

# Андрэй Грамыка:
## самы ўплывовы беларус СССР

**Вёскі Старыя і Новыя Грамыкі стаялі абапал апетай Аркадзем Куляшовым ракі Бесядзь. Цяпер гэта ўрочышчы. Сасоннік сціскаецца над шчарбатай асфальтавай дарогай, чапляючы лапкамі лабавое шкло машыны. У падлеску бачныя рэшткі бетонных канструкцый, зарослыя кустоўем дарожкі. Гэтыя мясціны — радзіма шматгадовага міністра замежных спраў СССР Андрэя Грамыкі. Яго непранікальны пахмурны твар дзесяцігоддзямі ўспрымаўся за мяжой як аблічча Савецкага Саюза. За ўпартасць і дагматызм яго ахрысцілі на Захадзе «Містарам Не».**

Увогуле, усходняя Гомельшчына — радовішча кіраўнічых кадраў. Пад Гомелем, у Рудні Прыбыткоўскай, нарадзіўся паваенны кіраўнік БССР Кірыла Мазураў, побач з Добрушам — яшчэ адзін, Ціхан Кісялёў.

Гэты беларускі рэгіён да 1926 года, да апошняга ўзбуйнення БССР, быў у складзе РСФСР. Таму Андрэй Грамыка, якому на момант узбуйнення было 17 год, нарадзіўся і вырас нібыта і ў Беларусі, але ў Расіі. Ва ўспамінах пра школьныя гады ён прыгадвае Пушкіна, Ганчарова, Тургенева, Гогаля, Жукоўскага — і нічога з беларускай класікі. Гэта кантрастуе, напрыклад, са школьнымі спогадамі маладзейшага на 12 гадоў ягонага земляка Івана Шамякіна, якога сфармавала ўжо «Новая зямля» Якуба Коласа. Для Грамыкі беларуская мова была мовай сям'і, вуліцы, але не мовай школы, не мовай дзяржаўных устаноў.

У музеі Міністэрства замежных спраў Беларусі захоўваюцца анкеты, у якіх Грамыка пазначаў сваю нацыянальнасць як «беларус». Але ў многіх анкетах пазнейшага перыяду Грамыка пісаўся ўжо «рускім».

**«Ах ты, дэмакрат!»**

Такімі словамі сварылася на малога Андрэя за свавольствы яго добрая бабуля. З царскіх часоў у яе памяці адклалася, што «дэмакрат» — гэта фармазон, той, хто парушае ўсталяваны парадак. Бабуліна навука дала плён: дэмакратызмам Грамыка пасля не вылучаўся.

Першыя палітычныя дыскусіі малы Андрэйка слухаў у родных Грамыках. У вёсцы мужчыны любілі гаварыць пра палітыку. То было першае пакаленне, якое вялікая палітыка зачапіла крылом, — удзельнікі Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, а таксама «амерыканцы» ды «парагвайцы», што ездзілі ў свет на заробкі. Ім было што ўспомніць і з чым параўнаць. І іх «канферэнцыі» на прызбе малыя слухалі навастрыўшы вушы.

**«Даведка бедняка»**

Грамыкі, як і ўсе суседзі, мала таго што былі беларусамі — яны былі шляхтай. Пра гэта сведчаць інвентары Ігуменскага павета XVIII стагоддзя. «Шляхецкія» і «мужыцкія» вёскі адрозніваюць на ўсходзе Гомельшчыны дагэтуль. Праўда, пазней тутэйшую шляхту, якая не змагла пацвердзіць сваё паходжанне, перапісалі ў панцырныя баяры, панізіўшы статус.

## Грамыкі былі са шляхты

Але асцярожны Грамыка, які цікавіўся гісторыяй свайго роду, ні паўсловам пра гэта не згадаў у мемуарах. Ён шукаў продкаў сярод казацкіх палкоўнікаў, а сям'ю сваю называў беднай і сялянскай. Хоць аднавяскоўцы пераказвалі, што Грамыкі не былі асабліва беднымі: Андрэя праз гэта нават не хацелі браць вучыцца ў Гомель на рабфак. Але потым старшыня мясцовага камітэта беднаты пашкадаваў хлопца, выпісаўшы яму «даведку бедняка».

**«Андруша»**

«Перыяд маёй вучобы пасля сямігадовай школы працягваўся дванаццаць гадоў: прафтэхшкола (Гомель), сельгастэхнікум (вёска Стара-Барысаў), інстытут (Мінск), аспірантура (Мінск — Масква)», — пісаў Грамыка. Яшчэ ў тэхнікуме ён уступіў у Камуністычную партыю. Грамадская дзейнасць падабалася: ён агітаваў, удзельнічаў у выездах актывістаў на «мерапрыемствы па калектывізацыі». Успамінаў, як у падмаскоўнай вёсцы начаваў у свірне, дзе папярэдняга такога агітатара забілі. ▶



Родная хата Грамыкаў.

## Два браты загінулі на вайне

**Аляксей Грамыка загінуў у Балтыі** падчас адступлення ў 1941-м, **Хведар — артылерыст, камандзір батарэі — каля Бабруйска**, падчас вызвалення Беларусі. Для Грамыкі гэта было асабістым матывам цвёрда адстойваць непарушнасць пасляваенных межаў Еўропы, успамінае яго сын.




ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Так выглядае сёння помнік жыхарам Грамык,** якія загінулі на вайне. Фота 2018 года.

▶ У тэхнікуме Грамыка пазнаёміўся і з будучай жонкай — Лідзіяй Грыневіч, якую ў мемуарах ахарактарызаваў як «дачку беларускіх сялян» з вёскі Каменка, што ў цяперашнім Дзяржынскім раёне. Рэмарка пра беларускасць не выглядае выпадковай: у 1930-я Дзяржынскі раён быў польскай аўтаноміяй. Каменка знаходзіцца побач са Станькавам, сядзібай графаў Чапскіх. І Лідзія Грамыка ўспамінала, як у іх вёсцы мужчыны пры сустрэчы цалавалі жанчынам рукі — такі сабе звычайны сялянскі звычай.

«Звярнуў я на яе ўвагу выпадкова, а пасля ўжо не думаць пра яе не мог. Мы блукалі ночы напралёт», — прарываецца лірыка праз сухія мемуары «Містара Не».

Лідзія ўсё жыццё называла мужа «Андруша» — з цвёрдым беларускім «р». А ён яе — «Лідунчык».

**Лідзія Грамыка ўспамінала, як у іх вёсцы мужчыны пры сустрэчы цалавалі жанчынам рукі**

### Рэпрэсіі як лесвіца

Ажаніўшыся, Грамыка з палёгкай пакінуў студэнцкую нішчымніцу, перавёўся на завочнае аддзяленне і стаў дырэктарам вясковай школы на радзіме жонкі. Лідзія ўладкавалася заатэхнікам, нарадзіўся сын Анатоль.
І тут як гром з яснага неба з'явіўся спецпрадстаўнік ЦК КПБ і прапанаваў пастурпаць у наваствораную аспірантуру Дзяржінстытута народнай гаспадаркі (цяпер Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт). Прычым характарыстыкі на Грамыку ў прыёмную камісію ўжо былі пададзеныя і па працоўнай, і па партыйнай лініі. Выпускныя інстытуцкія экзамены Грамыка здаваў ужо пасля залічэння ў аспірантуру. Гэтая сітуацыя добра ілюструе бязладдзе ў камандлай эканоміцы, якой тэрмінова патрабаваліся гаспадарчыя кадры. Старых

спецыялістаў выкасілі рэпрэсіі ў канцы 20-х і пачатку 30-х.

У той самы год мінскіх аспірантаў Інстытута народнай гаспадаркі перакінулі ў Маскву — у НДІ эканомікі сельскай гаспадаркі. Ішла калектывізацыя, цалкам перабудоўвалася аграрная сістэма. І Грамыку адразу пасля выпуску сваціла месца вучонага сакратара Далёкаўсходняга філіяла Акадэміі навук.

Але ва Уладзівасток ехаць не давялося.

### Выпадковы дыпламат

Хаос — гэта лесвіца, казаў адзін з персанажаў «Гульні тронаў», сучаснага фэнтэзі-серыяла пра вялікую палітыку. Хаос сталінскіх рэпрэсій зрынаў у нябыт адных і даваў магчымасці іншым. Гэта быў час галавакружных кар'ер.

**Цягам 1936–1939 гадоў рэпрэсавалі 62% кіраўнічых кадраў Наркамата замежных спраў**

Прычым — і выпадак Грамыкі тут характэрны — чалавек не сам прабіваў сабе дарогу: яго, нібыта вінцік у патрэбнае месца, укручвалі кадравыя аддзелы, што тасавалі камсамольскія, партыйныя і працоўныя характарыстыкі.

У 1939-м Грамыку нечакана выклікалі ў камісію Наркамата замежных спраў. Партыя паклікала свайго байца з гаспадарніка перакваліфікавацца ў дыпламаты. Прычына была тая самая: цягам 1936–1939 гадоў была рэпрэсаваная траціна дыпламатычнага персаналу Наркамата — больш за сто чалавек — і 62% кіраўнічых кадраў. Са 157 чалавек, што займалі кіроўныя пасады ў Наркамаце ў 1940–1946 гадах, 85% пачалі працаваць тут пасля 1936-га.

У складзе камісіі на тым сумоўі Грамыка запомніў Молатава і Малянкова. Плюсамі Грамыкі была неблагая англійская мова і эканамічнае мысленне, гэтым ён запомніўся. Хоць Вячаслаў Молатаў, кіраўнік савецкай дыпламатыі, у кадравых пытаннях рабіў стаўку больш не на талент, а на лаяльнасць, «вернасць». Вялікую ролю ігралі партыйныя анкеты і характарыстыкі, якімі паступова «абрастаў» кожны член КПСС. Анкета Грамыкі была бездакорная. ▶

### Аднакашнікі

Міністр Грамыка быў прыхільны да дыпламатаў, пакліканых на службу ў 1939–1940 гадах. Гусеў, Малік, Собалеў, Новікаў, Сямёнаў, Царапкін — асобы рознага калібру — заставаліся для Грамыкі сатаварышамі. Ён іх апякаў, трываў іх дзівацтвы, клапаціўся, каб ветэранаў «не ўціскалі па частцы дабротаў».



Андрэй Грамыка ў пасольстве СССР у ЗША. Вашынгтон, 23 жніўня 1943 года.

AP PHOTO

Фінальнае сумоўе з будучымі дыпламатамі праводзіў кіраўнік дзяржавы Іосіф Сталін. Ён сказаў Грамыку, што збіраецца паслаць яго ў ЗША «не на месяц і не на год», і спытаў, як у таго з англійскай мовай. «Вяду з ёй барацьбу і, здаецца, перамагаю», — пажартаваў Грамыка. Сталін даў дзіўную параду: заходзіць часам у ЗША ў храмы і слухаць хрысціянскіх пастараў. Цяжка зразумець, што гэта магло значыць. Магчыма, хацеў паглядзець на рэакцыю, прачытаўшы ў дасье, што жонка Грамыкі з рэлігійнай сям'і? А можа, як былы семінарыст, ведаў, як добра ставяць рыторыку ў прапаведнікаў?



AP PHOTO, BY JOHN LINDSAY

**Грамыка недалюбліваў Хрушчова**, але, калі Хрушчоў зняў чаравік і пачаў ім ляпаць па стале ў ААН, Грамыка, які сядзеў побач, хоць і скрывіўшыся, але мусіў пляскаць у такт.

## Таблеткі ад віцэ-прэзідэнта

Сталін пасля хваліў Грамыку за яго працу на пасадзе пасла ў ЗША, асабліва падчас вайны. Тады СССР атрымаў па ленд-лізе амерыканскай дапамогі на астранамічную суму 10,8 мільярда даляраў — у цяперашніх цэнах гэта прыкладна 190 мільярдаў. Сталін прыраўніваў дзейнасць пасла Грамыкі да камандуючага фронтам.

Першыя згадкі пра Амерыку Грамыка чуў яшчэ ў дзяцінстве, ад свайго бацькі, які ў царскія часы быў у ЗША на заробках. Праўда, скалечыў нагу і вярнуўся дахаты, нічога не зарабіўшы.

Тады савецкія дыпламаты не жылі ў Вашынгтоне як у абложанай крэпасці. Былі нефармальныя кантакты, была прыязнасць. Напрыклад, віцэ-прэзідэнт ЗША Генры Эгард Уолес мог заехаць перад працай у савецкае пасольства, каб перадаць жонцы Грамыкі дэфіцытныя таблеткі для пахудання, пра якія ў іх заходзіла гаворка напярэдадні.

У часе працы ў ЗША Грамыка сустракаўся не толькі з палітыкамі, але і з зоркамі шоу-бізнэсу. Гутарыў з «прывабным маладым чалавекам» Фрэнкам Сінатрам, разважаў пра рускую літаратуру з Чарлі Чаплінам, перакінуўся парай словаў з Мерылін Манро. Былі сярод візіцёраў і «былыя рускія». Пасол нечакана займеў сімпатыю да эмігранта Давыда Бурлюка — паэта-футурыста, сябра Уладзіміра Маякоўскага ды Аляксандра Блока. Ён таксама адкрыў для сябе філосафа Піцірыма Сарокіна, але наадрэз адмовіўся прымаць «айца рускай дэмакратыі» Аляксандра Керанскага.

### Рэпетыцыя перамоваў

Перад перамовамі з дэлегацыяй ФРГ па нармалізацыі адносін Грамыка прапанаваў Фаліну пераўвасобіцца ў Алардата, кіраўніка дэлегацыі, і нават загаварыць ягоным голасам. «Спадзяюся, з рэальным Алардатам будзе прасцей», — іранізаваў ён пасля. У добрым настроі быў здатны жартаваць.

## Самыя цяжкія перамовы

Міністрам замежных спраў Грамыка стаў пасля выкрыцця «антыпартыйнай групы». Сталінскія сокалы — Вячаслаў Молатаў, Георгій Малянкоў, Лазар Кагановіч і «прымкнуўшы да іх» Дзмітрый Шапілаў — хацелі адхіліць ад улады Мікіту Хрушчова. Пераварот не ўдаўся: яны самі паляцелі з пасадаў — і Грамыка заняў месца Шапілава. Ад 1957-га да 1985-га ён будзе тварам замежнай палітыкі СССР. 28 гадоў на пасадзе — гэта рэкорд.

На хрушчоўскія часы прыпалі і самыя складаныя, паводле Грамыкі, перамовы — з прэзідэнтам ЗША Джонам Кенэдзі. Ядзерныя супердзяржавы гулялі мускуламі: у адказ на размяшчэнне ядзернай зброі на базах ЗША ў Турцыі, недалёка ад савецкай мяжы, СССР паставіў ракеты на рэвалюцыйнай

Кубе. Праўда, адмаўляўся гэта прызнаць. Тады амерыканцы паказалі фота ракет, зробленыя самалётам-шпіёнам.

У сваіх успамінах Грамыка адмаўляе, што Кенэдзі паказваў яму тыя здымкі. «Каля Кенэдзі на стале ляжала нейкая папка... Але цягам усёй нашай размовы прэзідэнт гэтую папку не разгортваў... Так што я ніякіх здымкаў у яго кабінеце не бачыў».

Амерыканцы патрабавалі прыбраць ракеты з Кубы, Савецкі Саюз упарціўся. Размова ішла на павышаных танах. «Ці будзе вайна?» — гадалі людзі.

«Наш напад на амерыканцаў выключаны, і яны на вялікую вайну таксама не пойдуць... Калі асядзе пыл, мы зноў будзем шукаць кампрамісы», — казаў Грамыка сыну. І дадаваў: «Не я той кухар, што заварыў гэту кашу».

Хоць Хрушчоў успамінаў, што Грамыка быў у складзе вузкай групы, якая вырашала пытанне пра пастаўку ракет на Кубу, аднак падчас перамоў з Кенэдзі савецкі міністр замежных спраў упарта адмаўляў іх наяўнасць на Востраве свабоды.

Многія мяркуюць, што менавіта асцярожнасць Грамыкі была вырашальным фактарам, які не дазволіў свету скаціцца да абмену атамнымі ўдарамі падчас Карыбскага крызісу.

## «СССР нічога не парушыў, бо нічога не абяцаў»

«Часам у друку праслізгвае паведамленне, быццам Савецкі Саюз, вырашыўшы размясціць на Кубе ядзерныя ракеты, парушыў нейкія абяцанні аб неразмяшчэнні сваёй ядзернай зброі на Кубе. Гэта выдумка. Ніякага абяцання ён не даваў і, такім чынам, не парушаў», — пісаў Грамыка ў мемуарах. Там багата такой дыпламатычнай казуістыкі, адточанай на франтах халоднай вайны.



SPUTNIK, РУНОЎ

**Андрэй Грамыка і малады, яшчэ нядаўна капітан, Кадафі.**

### «Баяўся Хрушчова да непрыстойнасці»

Экстравагантнасць палітыка Хрушчова, «сілу якога нельга было аддзяляць ад яго чалавечых недасканаласцяў», не падабалася стрыманаму, сухому аж да скаванасці — фактычна, шляхціч па прыродзе — Грамыку. Калі Хрушчоў зняў чаравік і пачаў ім ляпаць па стале ў ААН, Грамыка, які сядзеў побач, хоць і скрывіўшыся, але мусіў пляскаць у такт.

Мікіта Сяргеевіч мог, успамінаў Грамыка, падчас дыпламатычнага прыёму выкрыкнуць у бок замежных журналістаў і аташэ: «Мы вас пахаваем!»

У 1960-м у Парыжы Хрушчоў сарваў міжнародную канферэнцыю, дабіваючыся ад прэзідэнта ЗША выбачэнняў за шпіянаж (напярэдадні над СССР збілі амерыканскі самалёт-разведчык U-2). Не атрымаўшы выбачэнняў, Хрушчоў, увесь пунсовы, выскачыў з залы пасяджэнняў і больш не вярнуўся. «А як было мне?» — наракаў Грамыка, які гады паклаў на падрыхтоўку канферэнцыі ды візіту Дуайта Эйзенхаўэра ў СССР, які мусіў быць следам.

Магчыма, Грамыка не шкадаваў для Хрушчова цёмных фарбаў, бо яго «баяўся да непрыстойнасці», як успамінаў савецкі дыпламат Валянцін Фалін. «Калі Хрушчоў павышаў тон, у міністра адымала мову. У адказ на тырады кіраўніка партыі чулася дробнае Грамыкава “да-да-да”, “зразумеў”, “будзе выканана”». А пад канец свайго кіравання Хрушчоў проста трэціраваў Грамыку. Магчыма, хацеў пасадзіць на яго месца свайго зяця Аляксея Аджубея.

У адказ Грамыка адрываўся на падначаленых. Яго рэзкасць і несправядлівасць, адзначае Фалін, каштавала МЗС многіх каштоўных супрацоўнікаў. ▶



SPUTNIK, МАРЫЯ АМЕЛІНА

**Так выглядаў кабінет Андрэя Грамыкі.**

### Настрой міністра

можна было вызначыць па яго першым пытанні. Калі «Ну як у нас?» — у гуморы, калі «Што там у вас?» — раздражнёны. Аднойчы ў Нью-Ёрку, едучы ў аўто, Грамыка запатрабаваў злавіць па радыё навіны пра выбары ў Бундэстаг. Гэта не ўдавалася, і ён ледзь не высадзіў памочнікаў: «На што вы годныя, калі перадачу злавіць не можаце!»

Не толькі апаненты па перамовах, але і супрацоўнікі, і калегі лічылі Андрэя Андрэевіча цяжкім чалавекам. Яго прыдзірлівасць, дробязнасць, рэзкасць не нараджалі сімпатыі.

Такіх людзей называюць «зашпіленыя на ўсе гузікі». Дзеці Грамыкі ўспаміналі, што ніколі не бачылі бацькі без гальштука. Нават на сняданак ён прыходзіў ужо адзетым у абавязкова цёмны афіцыйны пінжак, светлую кашулю і гальштук.

## Ноч у кабінеце

Уварванне савецкіх войскаў у Чэхаславакію ў 1968-м Грамыка ў мемуарах дыпламатычна абыходзіць. Затое пад 1968-м успамінаецца забойства ў ЗША Марціна Лютэра Кінга — «нязмыўная ганьба для Амерыкі».

Чэхаславацкія лідары ў канцы 1960-х пад ціскам грамадства схіляліся да дэмакратызацыі краіны. Вярнулі свабоду слова, гучалі заклікі дазволіць афіцыйную палітычную апазіцыю. На Прагу з надзеяй глядзела варшаўская, маскоўская і мінская інтэлігенцыя.

Чэхаславакаў доўга накручвалі, угаворвалі змяніць курс і ісці ў фарватары СССР, але беспаспяхова. Канчатковае рашэнне пра ўварванне было прынята 20 жніўня, праз паўгадзіны пасля таго, як Прага абарвала кабель наўпроставай сувязі з Крамлём. Палітычнае кіраванне аперацыяй ажыццяўляў, дарэчы, «таварыш Трафімаў» — беларус і зямляк Грамыкі Кірыла Мазураў.

У ноч уварвання ў Чэхаславакію Грамыка начаваў у сваім кабінеце

### Адпачынкам Грамыкі

было паляванне і плаванне. Калі ён плаваў у моры, да яго не мог дазваніцца нават Брэжнеў — тэлефон заставаўся на беразе, хоць на пляжы і дзяжурыў увесь час супрацоўнік КГБ.



KP.RU

**Андрэй Грамыка з сынамі і ўнукам.**

## Захоп Чэхаславакіі

У ноч на 21 жніўня 1968-га ў пражскім аэрапорце Рузыне, спаслаўшыся на пашкоджанне, запытаў аварыйную пасадку савецкі самалёт Ан-24. З самалёта выскачылі дэсантнікі і захапілі аэрапорт, у якім пачалі адразу ж прызямляцца транспарты з салдатамі і тэхнікай. Адначасова 18 вайсковых калонаў з тэрыторый СССР, ГДР, Польшчы і Венгрыі ўвайшлі ў Чэхаславакію. Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Дубчэк толькі і змог, што параіць грамадзянам захоўваць спакой, каб не паўтарыліся крывавыя венгерскія падзеі 1956-га. Раніцай урад арыштавалі, а кіраваць Чэхаславакіяй пасадзілі стаўленікаў Масквы, якія прасядзяць да «аксамітнай рэвалюцыі» 1989-га.



SPUTNIK, УЛАДЗІМІР АКІМАЎ

**Следам за мясам у крамах большасці абласцей Расіі знікла і масла, а верныя ленінцы ўручалі адзін аднаму зорку за зоркай.** На фота: віншаванне Леаніду Брэжневу зачытвае Міхаіл Суслаў.

на працы. Не падобна, каб міністр быў у захапленні ад сілавога сцэнару. Ён разумеў, што гэта выкліча новы віток халоднай вайны, пахавае надзеі на разрадку ў адносінах з Захадам. Хоць, як акуратны выканаўца, аспрэчыць рашэнне ён не мог.

### «Нахал»

У брэжнеўскія гады пазіцыі Андрэя Грамыкі ўмацаваліся. Асабліва калі ў генсака пачаліся праблемы са здароўем і ён з актыўнага, энергічнага лідара пачаўператварацца ў марыянетку, якой на міжнародных сустрэчах трэба было кіраваць уручную.

Цэкоўскія функцыянеры той пары называлі Грамыку — за вочы, вядома, — «нахалом». Ён гаварыў з Брэжневым на «ты» і выступаў так, нібыта быў другой асобай у дзяржаве. Усясільным апаратчыкам тое не падабалася.

Урэшце Грамыка зрабіўся ледзь не распарадчыкам пры хворым генсаку. Роля Брэжнева, які імкліва губляў сувязь з рэчаіснасцю, звялася да таго, каб «прыняць або не прыняць» кагосьці. А каго прымаць і што зачытваць падчас сустрэчы — вызначалі Грамыка і памочнікі. Генсак зрабіўся «толькі вялікай фігурай, якая рухаецца па інерцыі ў правільным кірунку», адзначалі замежныя назіральнікі.

Так, выйшаўшы да прэсы пасля сустрэчы з канцлерам ФРГ, Брэжнеў забыў шпаргалку з трох фраз, складзеную памочнікамі, і проста бездапаможна развёў рукамі. ▶

## Менш канкрэтыкі

і пабольш выклічнікаў — гэта быў яго заўсёдны дэвіз. Гэты метад вылегчаў не адзін дакумент, што не мог мінуць сіняга алоўка Грамыкі.



SHUTTERSTOCK, O.BELLINI

## Arrow і Borsalino

«У штодзённым жыцці бацька быў сціплы. Ён аддаваў перавагу цёмным і шэрым касцюмам, амерыканскім кашулям фірмы *Arrow*, любіў сінія гальштукі, зімой насіў шэрыя каракулевыя шапкі, у мароз апранаў цёплую парку. Увесну пераходзіў на фетравыя і на адпачынку на саламяныя капелюшы італьянскай фірмы *Borsalino*. Касцюмы і паліто зазвычай шыў з англійскай тканіны», — успамінаў сын Грамыкі Анатоль.

▶ «Грамыка з генераламі падсоўвае генсаку ўсякую лухту. Галоўны ўжо не ў стане адрозніць істотнае ад мітусні, а хаўруснікі і памочнікі ўжо не насмельваюцца сказаць», — наракаў у дзённіку Георгій Шахназараў, які ў тыя часы працаваў намеснікам загадчыка міжнароднага аддзела ЦК КПСС.

Ліберальныя чыноўнікі-дарадцы недалюблівалі Грамыку за яго «цвердалобасць». Маладзейшае пакаленне ўжо прагнула перамен, а Грамыка на зменлівых вятрах Сталіна, Хрушчова і Брэжнева настолькі звык трымацца «генеральнай лініі», што зліўся з ёй і стаў яе жывым увасабленнем.

## Адзін з чатырох

Рашэнне пра ўвод войскаў у Афганістан прымалі чацвёра: Брэжнеў — які на той час ужо слаба разумеў рэчаіснасць і кепска гаварыў, — кіраўнік дыпламатыі Грамыка, кіраўнік спецслужбы Андропаў і кіраўнік арміі Усцінаў. Яны сабраліся ў Арэхавай вітальні Крамля, што прымыкала да прыёмнай генсака. Тут звычайна па самых важных пытаннях раілася «найбліжэйшае кола» Палітбюро.

Пра тое, што менавіта Грамыка быў ініцыятарам уводу войскаў, гаварыў у кулуарах яго намеснік Георгій Карніенка. Грамыку падтрымаў міністр абароны Дзмітрый Усцінаў. Старшыня КГБ Юрый Андропаў, калі абмяркоўвалі пытанне, перш чым ісці з ім да Брэжнева, меў сумневы. Рашуча пярэчылі ўводу войскаў генералы: яны шкадавалі салдат, але Усцінаў паставіў іх на месца і загадаў даць яму план аперацыі.

Вынікам аперацыі былі дзесяцігадовая вайна, санкцыі і міжнародная ізаляцыя СССР, каля 15 тысяч забітых савецкіх салдат і сотні тысяч ахвяр сярод афганцаў. Выраз «афганскі сіндром» стаў афарызмам.

Калі ў 1985-м новы генсак Гарбачоў ініцыяваў вывад войскаў, Грамыка на пасяджэнні Палітбюро дзелавіта рабіў папраўкі да рэкамендацый. Але на яго ўжо глядзелі з ироніяй: не было сакрэтам, хто «ўцягнуў краіну ў такую справу».

### Прыхаваная амбітнасць

Працоўныя нататкі Грамыка пісаў размашыстым почыркам і наўскасяк аркуша.




**Шаўчэнка, пратэжэ Грамыкі,** стаў самым высокапастаўленым савецкім перабежчыкам на Захад.

## Пракол з Шаўчэнкам

У красавіку 1978-га Аркадзь Шаўчэнка, надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР, намеснік Генеральнага сакратара ААН, раптам адмовіўся вяртацца з ЗША. Блізкі знаёмы сям'і Грамыкаў (разам елі шашлыкі на дачы, іх сыны сябравалі, а жонак аб'ядноўвала любоў да золата), Шаўчэнка быў дыпламатам самага высокага рангу з усіх перабежчыкаў часоў халоднай вайны.

Потым высветлілася, што ён ужо не адзін год працаваў на ЦРУ, паведамляючы далікатную інфармацыю — у тым ліку і пачутую ад Грамыкі. Інфармацыя пра тое, што ў Нью-Ёрку ёсць «крот», трапляла савецкім спецслужбам і раней, у тым ліку з амерыканскага боку. Але Грамыка нязменна казаў: «Шаўчэнка па-за ўсякімі падазрэннямі». Калі скончыўся тэрмін Шаўчэнкі ў Нью-Ёрку, Грамыка спецыяльна для яго «прабіў» у Брэжнева пасаду намесніка міністра па раззбраенні.

Шаўчэнка на службе ў ААН паводзіў сябе вольна: злоўжываў алкаголем (праз 20 гадоў ён памрэ ад цырозу), не абмінаў маладых сакратарак і перакладчыц і быў пэўны, што яму ўсё сыдзе з рук, «пакуль Андрэй на месцы».

Калі Шаўчэнка перабег, Грамыка ў размове з Андропавым «не змог успомніць», ці быў у яго памочнік з такім прозвішчам. «Эх, Андрэй Андрэевіч!» — толькі і мог пасля сказаць Андропаў, пабачыўшы знойдзеныя падчасператрусу сумесныя фота Грамыкаў і Шаўчэнкаў на дачы. Але рэзюмаваў: «Грамыку здымаць не будзем».

## Брыльянты жонкі

Кар'ернаму ўзлёту, паводле словаў сына, Шаўчэнка быў абавязаны сваёй жонцы Леангіне, якая «падарыла жонцы А. А. Грамыкі брошку з 56 брыльянтамі». Гэтае «сяброўства» працягвалася і пасля: у 1976-м, калі Шаўчэнка ўжо працаваў на ЦРУ, яго жонка вадзіла Лідзію Грамыка па магазінах Нью-Ёрка і купляла ёй дарагія падарункі.

AP PHOTO



**Наколькі строга апранаўся Андрэй Грамыка, настолькі спецыфічны густ мела яго жонка Лідзія. На фота зверху:** Андрэй Грамыка з жонкай суправаджае пасла СССР у ЗША Максіма Літвінава (у цэнтры з партфелем). Прычал гідрасамалётаў у Сан-Францыска, 6 снежня 1941 года. Лідзія Грамыка даволі рана пачала паўнець, і віцэ-прэзідэнт ЗША Генры Эгард Уолес па просьбе Грамыкі мог заехаць перад працай у савецкае пасольства, каб перадаць ёй дэфіцытныя таблеткі для пахудання. **На фота знізу:** з Нікалае і Аленай Чаўшэску.



ФОТА ЮРЫЯ АБРАМАЧКІНА

Лідзія Грамыка, «па сведчанні відавочцаў, многія дзесяцігоддзі сур’ёзна ўплывала на расстаноўку дыпламатычных кадраў у міністэрстве свайго мужа. Да таго ж яна была вялікай аматаркай прымаць рознага роду дары, асабліва пры паездках за мяжу», — адзначаў намеснік начальніка службы бяспекі МЗС, палкоўнік контрразведкі Ігар Пературухін. Тыя падарункі яна не везла дамоў сама: перададзеныя ў Маскву праз трэціх асобаў, яны перапрадаваліся па вышэйшай цане.

Практыка «паднашэнняў» у той час была пашыраная. Нават Брэжнеў не адмовіўся прыняць брыльянты, якія ў Баку паднёс яму гаспадар Азербайджана Гейдар Аліеў.

«Не мог Леанід Ільіч не ведаць пра даніну, якую збірала Вікторыя Пятроўна (жонка Брэжнева — **Рэд.**) пасля кожнай сваёй паездкі ў Карлавы Вары, аб авантурных выхадках сваёй дачкі, якая мела хваравітую жарсць да дыяментаў. І, вядома, да яго даходзілі звесткі пра карысталюбства найбліжэйшых сяброў: Шчолакава, Цвігуна, Медунова», — адзначаў Шахназараў.

Андропаў, прыйшоўшы да ўлады, забараніў прымаць падарункі ад замежнікаў, даражэйшыя за 50 рублёў. Усё астатняе было загадана здаваць у казну. Тое ж рабіў і Гарбачоў.

Ці слухаў Грамыка жонку ў кадравых пытаннях — невядома. Але факт, што на добрых пасадах у МЗС знаходзілася месца сваякам уплывовых людзей. Так, у савецкім прадстаўніцтве ў Лондане працавалі ўнук Міхаіла Суслава, зяць самога Грамыкі і сыны трох наменікаў загадчыкаў аддзелаў ЦК — Кісялёва, Салаўёва і Шчарбакова. ▶

SHUTTERSTOCK, BY MARK REINSTEIN

### Што пачытаць пра Грамыку і яго эпоху

Андрей Громыко. «Памятное»
Анатолий Громыко. «Андрей Громыко. Полет его стрелы. Воспоминания и размышления сына»
Анатолий Черняев. «Дневники»
Георгий Шахназаров. «С вождями и без них»
Юрий Дроздов. «Записки начальника нелегальной разведки»
Валентин Фалин. «Без скидок на обстоятельства»
Андрей Грачев. «Горбачев. Человек, который хотел, как лучше»

**Андрэй Грамыка называў прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана** прыемным у асабістай камунікацыі чалавекам.

## Вяршыня магутнасці

Аўтарытэт Грамыкі скандал з Шаўчэнкам не пахіснуў. «Непрыемна, але перажывём». Наадварот, яго магутнасць набліжалася да піку. Асабліва ягоныя пазіцыі ўмацаваліся пасля смерці шматгадовага шэрага кардынала Суслава.

Але самага піку Грамыка дасягнуў пасля смерці Андропава, калі Генеральным сакратаром ЦК КПСС стаў блізкі сябар нябожчыка Брэжнева Канстанцін Чарненка. «Бездапаможны, абмежаваны, славалюбны», — характарызавалі яго памочнікі ў кулуарах і мемуарах. «Нудны, шэры, не вельмі разумны і ўпэўнены ў сабе чалавек», — пісаў пра яго Шахназараў. Грамыка ж разразіўся ў «Праўдзе» дыфірамбамі пра «ўнутраную і знешнюю веліч цяперашняга генсака». Вакол задумаліся: ці не разлічвае ён на месца наступніка цяжкахворага Чарненкі?

## Грамыка і Гарбачоў дамаўляліся праз сына

Што перашкодзіла Грамыку пасля смерці Чарненкі прэтэндаваць на ролю генсака? Сыну ён казаў, што «стаміўся»: «Пасля “лёгкага інфаркту”, ды яшчэ пры анеўрызме, ды яшчэ аперацыі на прастаце, думаць пра такую ношу, як сакратарства, было б вар’яцтвам». Але, магчыма, Грамыка проста ўлічваў сваю не вельмі высокую папулярнасць сярод калег.

У прызначэнні на пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова Грамыка сыграў адну з галоўных роляў. Гэтаму папярэднічала размова Аляксандра Якаўлева, на той час дырэктара

### Бурлацтва

«Грамыка быў сам вінаваты, што ператварыў сваё жыццё ў пастаяннае бурлацтва. Ад світанку да гадзіны-другой ночы ён чытаў, пісаў, правіў тэксты. Калі кіпа папер вычэрпвалася, Грамыка выпіваў залпам шклянку наймацнейшай гарбаты і засынаў як забіты, каб назаўтра ўсё паўтарылася зноў. Намеснікам ён давяраў дробязі і не цярпеў, калі хтосьці, апроч яго, неасцярожна казаў слова ад “імя МЗС”», — успамінаў Фалін.

Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносін, з сынам Грамыкі Анатолем.

Гутарыць у кабінеце Якаўлеў з Грамыкам-малодшым не наважыліся, Якаўлеў папрасіў Анатоля падкінуць яго да цэнтра сваёй машынай. Яны дамовіліся, што сын пагутарыць з бацькам, а Якаўлеў — з Гарбачовым. Анатоль адправіўся на дзяржаўную дачу. Для гутаркі яны з бацькам выйшлі прайсціся па тэрыторыі. За Грамыкамі воддаль крочылі апранутыя ў цывільнае афіцэры Дзявятага ўпраўлення КГБ, што адказвала за бяспеку членаў урада.

Грамыка сказаў, што гатовы не проста падтрымаць, але і асабіста вылучыць Гарбачова. Гарбачоў, дазнаўшыся пра гэта, перадаў праз Якаўлева падзяку, а ў адказ паабяцаў вылучыць Грамыку на пасаду старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР — фармальна найвышэйшую ў краіне.

Выбары генсака прайшлі гладка. Як толькі адкрылася пасяджэнне, Грамыка першы ўстаў, прапанаваў Гарбачова і адзначыў, што іншай кандыдатуры проста няма. У той сістэме шмат залежала ад таго, хто ў выніку апаратных гульняў атрымае права першым устаць. Калі кандыдатура Гарбачова прагучала, прапанаваць іншую азначала рызыкнуць кар'ерай, а то і свабодай. Дыскусіі не было, Палітбюро адзінагалосна прагаласавала «за».

Праз некалькі месяцаў, на Пленуме ЦК, які доўжыўся ўсяго паўгадзіны, Гарбачоў, выконваючы абяцанне, прапанаваў прызначыць Грамыку старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Ён займаў гэтую пасаду два гады, пакуль Гарбачоў, як і папярэднія генсакі, не ўзмацніў сваю ўладу, абраўшыся на яе сам.

## Сакрэтнасць

Сын Грамыкі адзначаў, што ўсе важныя размовы бацька вёў па-за памяшканнямі, падчас прагулак. Тое самае рабілі і іншыя кіраўнікі партыі і ўрада СССР. Тое самае, згадваў Арсень Ліс, заўжды рабіў, напрыклад, пісьменнік з вялікім адміністратыўным досведам Максім Танк. Праслухоўванне ў СССР было татальным. І не толькі ў СССР: Грамыка згадваў, як з амерыканскім дзяржсакратаром Раскам у верасні 1963-га яны размаўлялі, шпацыруючы па ўзбочыне дарогі, папярэдне выехаўшы паасобку за межы Нью-Ёрка.

## Сістэма ўлады ў СССР

У СССР былі тры найвышэйшыя пасады. Кіраўнік адзінай у краіне Камуністычнай партыі — Генеральны сакратар ЦК КПСС, кіраўнік выканаўчай улады — Старшыня Савета міністраў і кіраўнік парламента — старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Апошні фармальна лічыўся кіраўніком дзяржавы, але ў рэальнасці найвышэйшая ўлада належала Генеральнаму сакратару. Найважнейшыя пытанні вырашала Палітбюро, кіруючы орган Камуністычнай партыі, яно ж выбірала генсака. Усе члены Палітбюро мелі асабістую ахову і прывілеі. Такая сістэма стварала часам канкурэнцыю ў ніжэйшых ведамствах, як паміж МЗС Грамыкі і Палітычным аддзелам ЦК Барыса Панамарова. Яны «не маглі разабрацца, хто галоўнейшы, ад чаго нацярпелася справа».


SPUTNIK, СЯРГЕЙ ГУНЕЕЎ

**Грамыка сказаў, што гатовы не проста падтрымаць, але і асабіста вылучыць Гарбачова.** Гарбачоў, дазнаўшыся пра гэта, перадаў праз Якаўлева падзяку, а ў адказ паабяцаў вылучыць Грамыку на пасаду старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

## «Ветліва і ганарова выперлі»

Але надта радавацца новай пасадзе Грамыку не даводзілася. Гэта была пенсіянерская сінекура. Займаючы яе, ён фактычна страчваў рэальныя ўплывы на бягучую палітыку. Бо міністрам замежных спраў на тым самым пленуме Гарбачоў прапанаваў абраць першага сакратара ▸


Падчас апошняга візіту ў Беларусь. Люты 1988 года

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

▶ кампартыі Грузіі Эдуарда Шэварднадзэ. У Грамыкі быў шок: гэта быў канец яго звыклага ладу жыцця. Прызначэнне адбылося без яго згоды і не з ліку выхаваных ім намеснікаў. Бо перад МЗС стаялі цяпер цалкам іншыя задачы.

План Гарбачова па стрымліванні сілавікоў, накіданы ў нататніку, меў тры першачарговыя пункты: скончыць гонку ўзбраенняў, сысці з Афганістана і наладзіць адносіны з Кітаем. Нармалізацыя адносін з Захадам пазбавіла б «ястрабаў» іх галоўнага козыра — халоднай вайны.

Гарбачоў, як і Андропаў раней, разумеў, што далей «так жыць нельга». Савецкі Саюз стаяў на мяжы сацыяльнага выбуху, у краіны больш не было рэсурсаў на процістаянне з Захадам. Як піша дарадца Міхаіла Гарбачова Андрэй Грачоў, 70% савецкай прамысловасці ў той ці іншай ступені працавала на «абаронку». І новы генсак хацеў не столькі ўратаваць свет ад ядзернай пагрозы, колькі ўратаваць СССР ад уласнага вайскова-прамысловага комплексу.

Сутыкненне Грамыкі з Гарбачовым было непазбежнае, бо яны мелі рознае бачанне далейшага развіцця СССР. Грамыка быў скіраваны на кансерваванне сітуацыі, якая ўтварылася пасля Ялцінскай канферэнцыі 1945-га і гарантавала СССР становішча звышдзяржавы. Гарбачоў жа спадзяваўся канкураваць з Захадам за кошт пазітыўных момантаў, закладзеных у сацыялістычнай ідэі.

Таму ў новай палітычнай сітуацыі 50-гадовы досвед Грамыкі і выгадаваных ім дыпламатычных кадраў проста не быў патрэбны. Грамыку «ветліва і ганарова выперлі з рэальнай палітыкі — не таму, што стары, а таму, што збанкрутавала яго палітыка, дзе ён амаль аднаасобна гаспадарыў», — канстатаваў супрацоўнік міжнароднага аддзела ЦК КПСС Анатоль Чарняеў.

Што да ВПК і арміі, то вялікім ударам па іх іміджы стала



Бюст Грамыкі ў парку яго імя ў Гомелі.

WIKIMEDIA COMMONS


ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Усё, што засталося ад Грамык пасля Чарнобыля.** Гэта было скрыжаванне вуліц сяла Новыя Грамыкі.




прызямленне маладога немца Маціяса Руста на Краснай плошчы ў 1987-м.

### Апошняя місія

Але быў адзін неэканамічны момант, які не ўлічылі ратавальнікі Савецкага Саюза Гарбачоў і Шэварднадзэ. Масква не чакала, што з паслабленнем пут так востра паўстане «нацыянальнае пытанне» на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, а краіны Балтыі, а за імі і Украіна, і беларуская інтэлігенцыя адчуюць гістарычны шанц на незалежнасць... Грамыка ведаў ад гэтага сродак. «З'явіцца на вуліцах войска — будзе парадак», — казаў ён.

У 1987-м у скверы перад будынкам ЦК з транспарантамі «Радзіма або смерць!» сабраліся крымскія татары. Яны патрабавалі дазволу жыць у Крыме, адкуль Сталін дэпартаваў іх у Сярэднюю Азію пасля вайны. Да татараў дэлегавалі самага дасведчанага перагаворшчыка СССР — Андрэя Грамыку. Гэта была адна з апошніх яго дыпламатычных місій. Перад Грамыкам, звыклым аперавац абстракцыямі ды фармулёвачнай казуістыкай, стаяла само народнае гора. Дамовіцца ні да чаго не ўдалося.

Яшчэ год пасля таго Грамыка заставаўся фармальным кіраўніком дзяржавы.

Пайшоўшы ж у кастрычніку 1988-га на пенсію, ён пражыў зусім нядоўга — усяго дзевяць месяцаў.

Дарэчы, акурат у час ягонага фармальнага кіраўніцтва выбухнуў Чарнобыль. Родныя Старыя Грамыкі, заражаныя радыяцыяй, былі адселены ды закапаныя ў зямлю. І такі апакаліптычны помнік эпосе Андрэя Грамыкі гаворыць нашмат больш за яго невыразны бюст у гомельскім парку. ◆

# «Раскажыце пра Беразвечча»

Я з'яўляюся пастаянным падпісчыкам вашага часопіса. Дзякуй вам, што вы з'явіліся, і поспехаў вам у гэтай справе. Пажаданне: усё ў часопісе павінна быць толькі на беларускай мове.

У №5 часопіса за 2019 год звярнуў асаблівую ўвагу на фотаздымак (старонка 68) «Беразвецкі кляштар пад Глыбокім». Нарадзіўся я ў Докшыцах у 1935-м, за 30 вёрстаў ад Глыбокага, і Беразвечча добра ведаю. Ведаю, што ў 1939-м камуністы-энкавэдзісты з Беразвецкага манастыра зрабілі турму, якая дзейнічае і сёння. У сваім жыцці даводзілася бываць і каля Беразвецкай турмы. На ўзгаданым фотаздымку ўразіла культавая будыніна — па архітэктуры гэта каталіцкі касцёл. Ужо пасля вайны, будучы каля Беразвецкай турмы, касцёла я не ўбачыў, касцёл знік — значыцца, у 1939 годзе чэкісты яго ўзарвалі. Прыйшлося чуць і тое, што ў 1941-м, калі падыходзіў немец, камуністы-энкавэдзісты ўцякалі, а пасля сябе ў Беразвецкай турме пакінулі «плады» сваёй працы: вёдры адрэзаных чалавечых языкоў і закапаныя чалавечыя целы. А за возерам, якое абмывае саму турму, у блізкім лесе, ужо ў 1939–1941 гадах камуністы-энкавэдзісты расстрэльвалі варожых ім людзей — жыхароў найбліжэйшых ад турмы раёнаў. Усё гэта я чуў ад сваёй цёткі, Любачэўскай Ганны, 1922 года нараджэння, ураджэнкі Глыбокага. Распавядаў мне аб гэтым і мой сябра Віктар Скурко (пляменнік Максіма Танка) — таксама ўраджэнец Глыбокага.

Ужо пасля вайны, у 1945-м, у Беразвецкай турме сядзеў і мой дзядзька Пашкоўскі Мікалай (1904 года нараджэння) — настаўнік матэматыкі ў школе Глыбокага. Пасля Глыбокага дзядзьку адправілі ў ГУЛАГ — горад Ухта Комі АССР. Такім чынам, Беразвецкі кляштар, Беразвецкая турма — гэта знакамітае месца.

Дык вось, паглядзеў на фотаздымак на старонцы 68 — і ў маёй галаве ўзнікла мноства пытанняў: хто будаваў кляштар і калі? хто там жыў і што там тварылася да 1939 года? хто архітэктар? Мабыць, дзесьці захаваліся здымкі інтэр'ера і вонкавы выгляд касцёла зблізку.

Беразвечча — гэта наша гісторыя, наш боль і нашы слёзы. Хацелася б, каб разумны гісторык узяўся за гэту тэму і апісаў усю гісторыю кляштара — ад забудовы да знішчэння. Шукайце і друкуйце нашу гісторыю. І адкрывайце нам вочы, бо мы стагоддзямі былі сляпыя, як краты, і дурныя, як вароны.

З павагай і любоўю,
**Старыкевіч Барыс Уладзіміравіч,**
**84 гады (Мінск)**



**Ад Рэдакцыі.** Шаноўны Барыс Уладзіміравіч! Дзякуй Вам вялікі за цікавасць да нашага часопіса і за добрыя словы. Пастараемся не расчароўваць Вас і надалей. А на зададзеныя Вамі пытанні мы папрасілі коратка адказаць мясцовага краязнаўца, Вашага земляка **Кастуся Шыталя** з Параф'янава Докшыцкага раёна. Вось што ён распавёў пра гісторыю Беразвецкага кляштара:

«У Беразвечы на працягу трохсот гадоў існаваў кляштар грэка-каталіцкага (уніяцкага) ордэна базыльянаў. У 1638 годзе мсціслаўскі ваявода Язэп Корсак, помнік якому стаіць сёння на адной з галоўных плошчаў Глыбокага, напісаў тастамент, у якім перадаваў свой маёнтак Беразвечча базыльянам. Ён загадваў манахам заснаваць пры мясцовай царкве, дзе былі пахаваныя бацькі Язэпа Корсака, кляштар, маліцца за супакой душаў фундатара і яго бацькоў, а таксама навучаць праўдам веры мясцовае насельніцтва. Царква і кляштар напачатку былі драўляныя, а ў 1756–1763 гадах на іх месцы была пабудаваная мураваная царква ў стылі віленскага барока. Даследчыкі лічаць царкву ў Беразвечы найбольш дасканалым творам віленскага барока. У 1773-м базыльяне заснавалі пры ёй шасцікласную школу, дзе выкладалі права, фізіку, матэматыку, рыторыку, нямецкую, французскую, царкоўнаславянскую і лацінскую мовы.

У 1839 годзе, разам са скасаваннем Берасцейскай царкоўнай уніі, царква і кляштар былі далучаныя да Праваслаўнай царквы. Кляштар быў зачынены ў 1874-м. У 1915 годзе, калі пачалася Першая сусветная вайна, у кляштары размясцілася войска. У 1919-м царква была забраная ў праваслаўных і перададзена каталікам. Ксёндз Антоні Зянкевіч, глыбоцкі дэкан, рабіў захады, каб заснаваць у Беразвечы грэка-каталіцкую парафію, аднак гэтая ідэя не мела поспеху. Тым часам ад 1924 года ў кляштарных будынках побач з храмам пасялілі польскіх пагранічнікаў.

У 1939 годзе савецкія ўлады зрабілі ў будынках царквы і кляштара следчую турму НКВД. У чэрвені 1941 года чэкісты расстралялі частку вязняў на падворку турмы, а большасць астатніх — каля мястэчка Мікалаёва на Дзвіне, куды іх пагналі пешай калонай. Нацысты зрабілі ў Беразвечы лагер для савецкіх ваеннапалонных, дзе, паводле прыблізных ацэнак, памерлі ад нялюдскіх умоваў утрымання каля 27 тысяч чалавек.

Пасля вызвалення БССР ад нацыстаў савецкія ўлады зноў зрабілі ў Беразвечы турму.

У 1949 годзе Глыбоцкі райвыканкам прызнаў будынак царквы аварыйным і прыняў рашэнне аб яго разборцы. Да 1955 года вязні паступова разабралі старажытны будынак на цэглу, з якой збудавалі агароджу і дапаможныя будынкі турмы», расказаў Кастусь Шыталь.

ФОТА ЕЖЫ ДУЛЕВІЧА

## «Ёсць толькі два магістральныя шляхі»

Артыкул Максіма Маханькова «Як і чаму Захад перамог Усход» пра кнігу Ніла Фергюсана «Цывілізацыя. Захад і рэшта свету» (№3, 2019) зацікавіў мяне. У 2018 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшла мая кніга «Человек и мир, в котором он живёт», у якой ёсць нарыс на аналагічную тэму. Там ён называецца «Западный и восточный типы общества и государства».

На маю думку, канкурэнцыя, больш паспяховае развіццё навукі, сістэма ўласнасці, развіццё медыцыны, спажыванне, адносна высокая працоўная этыка, якія, мяркуючы па артыкуле, у кнізе Фергюсана прадстаўленыя ў якасці крыніцаў больш паспяховага развіцця Захаду ў параўнанні з Усходам, самі з'яўляюцца толькі наступствам сістэмы каштоўнасцяў і заснаванага на іх светапогляду, які фармуецца там, у заходніх цывілізацыях. Сістэмы каштоўнасцяў і светапогляду, пры якіх правы і свабода членаў грамадства з'яўляюцца аднымі з галоўных яго прыярытэтаў. І ўжо такі, надзелены большымі правамі і свабодамі, чым гэта мае месца на Усходзе, чалавек з'яўляецца крыніцай больш паспяховага развіцця заходняга грамадства ў параўнанні з усходнім ва ўсіх галінах дзейнасці. Гэта тычыцца таксама і адукацыі, выхавання, сістэмы ўзаемаадносін паміж членамі грамадства, вертыкальнай мабільнасці ў ім, ініцыятыўнасці грамадзян.

Чаму так здарылася, што ў сістэме каштоўнасцяў, у светапоглядзе заходніх грамадстваў правы і свабоды яго членаў з'яўляюцца адным з яго прыярытэтаў? Магчыма, адной з прычын гэтага ёсць тое, што заходнім элітам, у сілу нейкіх абставін, хапіла ўзроўню развіцця свядомасці, каб зразумець, што найлепшы спосаб абараніць асабістыя правы і свабоды — не спрабаваць іх адняць у іншых. Зразумеўшы гэта, яны сталі фармаваць усё больш дасканалыя механізмы абароны гэтых правоў і свабод (калі хочаце — больш дасканалыя формы дэмакратыі).

Як мне ўяўляецца, толькі зразумеўшы гэта, грамадства і краіна могуць паспяхова развівацца ў сучасным свеце. Інакш яны асуджаныя на заняпад і дэградацыю ў параўнанні з дэмакратычнымі суседзямі. Асуджаныя таму, што ёсць толькі два магістральныя шляхі развіцця грамадства: заходні і ўсходні. І калі мы з якіх-небудзь прычынаў не ў стане ісці па першым, то немінуча ідзём па другім.

Падсумоўваючы, мне б хацелася адзначыць, што ў спасціжэнні гэтай простай «ісціны», у здатнасці за знешняй мішурой бачыць сутнасць з'яў і працэсаў, на мой погляд, і заключаецца сэнс вывучэння гісторыі, у тым ліку і нашай.

**Георгій Шэўмер, Мінск**

*«Што тут, думаю, за ліха? Зусім п'яных не відаць»*

# Чаму ў Беларусі пілі менш, чым у Расіі?

**Асноўнай тэмай №4 «Нашай гісторыі» за 2019 год былі традыцыі спажывання беларусамі алкагольных напояў і перамена пасьпяховая на тутэйшых абшарах барацьба з п'янствам. Пры гэтым па-за ўвагай аўтараў застаўся самы пазітыўны прыклад такой барацьбы. Пра падзабыты эпізод сярэдзіны XIX стагоддзя піша гісторык Сяргей Астанковіч.**

## Крыжовы паход супраць алкаголю

У сістэмнай барацьбе з п'янствам першую скрыпку раней іграла царква: каму, як не святарам, клапаціцца пра збавенне грэшных душ? У 1838 годзе ірландскаму манаху-капуцыну Тэабальду Мэцью прыйшла ідэя стварэння царкоўных брацтваў, якія б заняліся прапагандай цвярозасці.

Поспех гэтых брацтваў у Ірландыі пераўзышоў усе чаканні, тым больш што антыалкагольная кампанія арганічна ўлілася ў агульны трэнд барацьбы за нацыянальнае вызваленне. Як вядома, у XIX стагоддзі Ірландыя знаходзілася пад панаваннем Вялікабрытаніі, і дзейнасць у гэтым рэгіёне абстыненцкіх таварыстваў набыла характар не проста барацьбы супраць п'янства, але і барацьбы супраць англійскай палітыкі і ўплываў (дзяржава нажывалася на акцызах).

Прыклад ірландцаў стаў натхняльным і для іншых народаў. Праз нейкі час падобныя арганізацыі з'явіліся і ў іншых каталіцкіх рэгіёнах Еўропы. Асабліва працэс паскорыўся пасля таго, як у 1851 годзе папа Пій IX выдаў адмысловую булу.




**Манах-капуцын Тэабальд Мэцью**, аўтар ідэі антыалкагольных брацтваў.

Узніклі брацтвы цвярозасці і ў падрасійскім Царстве Польскім, а адтуль ідэя пранікла і на іншыя тэрыторыі Расійскай імперыі з перавагай каталіцкага насельніцтва.

## Літва — край цвярозасці

Літва і Беларусь на той час таксама ўжо моцна падселі на гарэлку. Вяселлі, хрэсьбіны, пахаванні, паездкі на рынак, адпусты, асвячэнні крыжоў — усё гэта давала нагоду выпіць. П'янства для мясцовага селяніна стала працягам касцельнай абраднасці, без яго немагчыма было ўявіць ніводную са згаданых урачыстасцяў. А паноўны клас — буйныя абшарнікі і шляхта — актыўна карыстаўся правам прапінацыі, стварыўшы мноства вінакурняў і сотні корчмаў, каб выцягваць апошнюю капейку ў мужыка. Ды і ўрад стымуляваў выраб гарэлкі, бо гэта было яму выгадна.

Брацтвы цвярозасці разгарнулі шырокую дзейнасць у Літве дзякуючы энергіі і настойлівасці жамойцкага біскупа Матэюса Валанчуса (Мацея Валанчэўскага). Першая падобная арганізацыя з'явілася ў маі 1858 года ў Скапішскай парафіі ля Панявежа

# Роля чалавека ў гісторыі




Гэты чалавек з валявым тварам — **Матэюс Валанчус, біскуп жамойцкі** (1850–1875), першы іерарх, які паходзіў з простых сялян. За пару гадоў сваёй кампаніі за цвярозасць ён дабіўся такога эфекту, які адчуваецца да сёння.



Кадр з фільма «Кнiганоша» (*«Knygnešys»*) рэжысёра Ёнаса Труканаса, 2011. **Пад уплывам біскупа Матэюса Валанчуса кантрабандыст алкагольных напояў Юргіс вырашае стаць кнiганошам.**

(Панявежыса). Заснаваў яе мясцовы ксёндз Дамінік Сакалоўскі. Хутка ягоную парафію збіраўся наведаць сам біскуп разам з рэктарам семінарыі. Апошні і падгаварыў Валанчуса скарыстацца спрыяльнай палітычнай сітуацыяй — на змену імператару-рэакцыянеру Мікалаю I прыйшоў ліберал Аляксандр II — і арганізаваць ва ўсёй Жамойці брацтвы, падобныя да тых, што ўжо існавалі ў Польшчы.

Першыя брацтвы ствараліся хоць і адкрыта, але неафіцыйна. Улады проста не мелі адпаведных заканадаўчых актаў, на падставе якіх маглі гэтую справу забараніць. Апытаныя чыноўнікамі ксяндзы адказвалі, што толькі выконваюць свае абавязкі, ні пра якія брацтвы нічога не ведаюць і інструкцый ад біскупа ў гэтай справе не атрымлівалі.

Дзейнасць Валанчуса і яго паплечнікаў мела фенаменальныя вынікі. 25 ліпеня 1860 года, усяго праз два гады пасля пачатку руху, віленскаму, ковенскаму і гродзенскаму генерал-губернатару Уладзіміру Назімаву падалі статыстыку, якая не магла не ўразіць. Сярод 835 243 каталікоў з Ковенскай губерні (199 парафій) каля 692 000 належалі да брацтваў цвярозасці. Такім чынам, іх члены складалі каля 83,2 % усіх жыхароў краю каталіцкага веравызнання. Пры гэтым у гарадах і мястэчках да брацтваў далучылася «толькі» каля 30% жыхароў — там жыло шмат яўрэяў і расейскіх чыноўнікаў, затое ў вёсках — да 90 і больш працэнтаў людзей.

### Адступнікам — ніякай літасці

Заснаванне брацтва і прыняцце ў яго члены адбывалася ва ўрачыстай абстаноўцы. Людзі, што туды ўступалі, складалі перад алтаром у прысутнасці ксяндза абяцанне адмовіцца ад гарэлкі на ўсё жыццё. Братчыкі мелі адмысловыя патэнты, уласныя алтары, святыя імшы, спецыяльныя малітвы і адпусты, жалобныя набажэнствы за душы памерлых членаў і іх пахаванні. Усё гэта пераўтварала іх у адну духоўную сям'ю.

Парафіяльнае духавенства, заахвочанае біскупам, рабіла ўсё, каб дасягнуць у гэтай справе найлепшых паказчыкаў. Праціўнікі брацтваў з ліку чыноўнікаў сцвярджалі, што ксяндзы часам карысталіся радыкальнымі і не надта законнымі сродкамі. У асноўным гэта тычылася пакаранняў тых, хто парушаў прысягу. Выканаўцамі накладзеных караў звычайна былі ахвочыя да гэтага «касцельныя маршалкі». Адступнікаў білі розгамі, бізунамі, вымазвалі дзёгцем, прывязвалі да крыжоў.

У 1858 годзе ў Шавельскім павеце 16-гадовую дзяўчыну, якая лыкнула кілішак наліўкі на вяселлі сваёй сястры, высеклі перад касцёлам і пакінулі ляжаць, а людзі, што выходзілі з храма, пераступалі цераз яе і аплёўвалі.

У мястэчку Расені жандармерыя выявіла двух вязняў у касцельным сутарэнні, ▶



**Францішак Кастшэўскі. Малы разнімае.**
Гравюра XIX стагоддзя.

а ксёндз адгаворваўся, што не ведае, хто іх туды змясціў.

Да гэтага ўрадавага кампрамату, які няспынна збіраўся супраць каталіцкага духавенства, вядома, трэба ставіцца крытычна. Але нейкая доля праўды ў ім была. Бо і сам біскуп Валанчус, адказваючы генерал-губернатару 12 ліпеня 1860 года, згаджаўся, што асобныя ксяндзы, сапраўды, для дасягнення «добрай мэты» ўжываюць «сродкі не зусім прыстойныя». Ён толькі катэгарычна адмаўляў, што мелі месца адмовы ксяндзоў ад хросту дзяцей пітушчых бацькоў ці ад удзелу ў пахаванні пітушчага чалавека.

## Беларусы далучаюцца

Тым часам рух за цвярозасць ахопліваў усё новыя тэрыторыі, перакінуўшыся на Віленскую, Гродзенскую, Віцебскую і Мінскую губерні. Віленскі біскуп Адам Станіслаў Красінскі адразу пасля свайго прызначэння на пасаду ў 1859 годзе ў сваім пастырскім пасланні заклікаў вернікаў дыяцэзіі да ўстрымання ад гарэлкі. Прыдатную глебу для гэтага кроку падрыхтавалі польскія брашуры з Галіцыі, да якіх далучыліся і мясцовыя віленскія выданні.

Размах руху ў Беларусі быў не такі ўсёахопны, як у Літве, але таксама дастаткова шырокі. У 1860 годзе у Віленскай губерні членамі брацтваў цвярозасці былі 51,9% каталікоў, а ў Гродзенскай (без Кобрынскага і Сакольскага паветаў) — 59%. Увогуле ж, па няпоўных звестках, у 17-ці з 24 беларускіх паветаў Віленшчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны каля паўмільёна чалавек распачалі барацьбу за цвярозы лад жыцця.

Як і ў Літве, братчыкамі тут рабіліся не толькі сяляне, але і мяшчане. Так, у Ашмянах з 1 725 жыхароў увайшлі ў арганізацыю аж 900. І на нашых землях таксама ўжывалі жорсткія сродкі, каб стрымаць аматараў парушыць забарону. У мястэчку Крамяніца Ваўкавыскага павета маладых мужа і жонку за ўжыванне алкаголю прымусілі піць мыльную ваду. А ў некаторых мясцінах парушальніку зароку вешалі на спіну дошку з надпісам «П’яніца» і з барабанным боем вадзілі вакол вёскі.

Усе прынятыя меры прывялі да вялікіх зрухаў як у літоўскіх, так і ў беларускіх губернях. Нават на Магілёўшчыне, па якой не знойдзена дакументаў, якія б пацвярджалі дзейнасць брацтваў, у 1859 годзе даход ад продажу алкаголю ўпаў на 8%. У Мінскай губерні, дзе рух ахапіў да 19% жыхароў, у 1859-м было спажыта 110 179 вёдраў гарэлкі, а ў наступным годзе — толькі 75 818. Але рэкорды білі, канешне ж, Віленская і Ковенская губерні. У 1858 годзе на Віленшчыне ўрад атрымаў акцызных збораў за 1 072 733 вядры, а ў наступным — толькі за 662 841. У Ковенскай губерні адпаведныя паказчыкі былі: 934 475 у 1858 годзе і 304 970 — у 1859-м. Толькі за адзін год колькасць спажытай гарэлкі зменшылася на 38 і 67% адпаведна. Выключны прыклад

## Два д’яблы

Гэтыя падзеі настолькі моцна паўплывалі на людзей таго часу, што нават знайшлі адлюстраванне ў маладой беларускай літаратуры. У 1860 годзе Канстанцін Вераніцын напісаў паэму «Два д’яблы». У ёй супрацьпастаўляюцца праваслаўны ўсход Беларусі (Віцебшчына) і каталіцкі захад (Гродзеншчына), дзе антыалкагольная кампанія развівалася ў розных умовах. Паводле сюжэта, сатана паслаў з пекла «душы п’яніц самушчаць» двух д’яблаў, адзін з якіх мусіў гэта рабіць на Віцебшчыне, а другі — на Гродзеншчыне. Віцебскі знайшоў настолькі ўдзячную глебу для сваёй дзейнасці, што з усіх ног бег у пекла, каб прасіць сабе памочнікаў — аднаму пры такой колькасці п’яніц няўпраўка. А па дарозе сустракае свайго гродзенскага калегу ў жалю годным стане:

Абшарпаны, абадраны,
Без рагоў і без хваста,
У юсе морда, ўсюды раны —
Бес кульгае з-за куста.

«А, здароў, адкуль? як маеш?
Ай, авохці мне, сваяк,
Гэта ж ты зусім кульгаеш,
Хто цябе змяжджуліў так?

Лупіў нехта, знаць, сярдзіты,
Калі йдзеш ты без хваста», —
Гаманіў так бес нябіты
Проці бітага чарта.

Як завые тут калека,
Слёзы градам так і йдуць:
«Во, сваяк, дажыць мне веку
Злыя людзі не дадуць.

Сатане было заўгодна
З пекла нас дваіх пасласць:
Цябе — ў Віцебск, мяне — ў Гродна
Душы п’яніц самушчаць.

…

Першы год было і што-та:
То апоіш, то разбой.
Досыць будзе тут работы,
Меркаваў я сам з сабой.

Стаў я лазіць па ўсіх рандах,
Як за чарку хто — я тут
Тыц к яму з бясоўскай радай:
Чуць паслухаў — і капут.

То абкрадзе, то загубіць,
Іншы цэркву абкрадзець,
А хто й сам сябе пагубіць —
Люба-радасна глядзець!

Раз прыйшоў я нешта ў ранду
(Страх успомніць — аж дрыжу!),
Мужыкоў сабралась банда,
Я ж пад печку і сяджу.

За сталом сядзіць шынкарка,
Смутна нешта, слёзы лье.
Па руках не ходзіць чарка,
Ніхто песень не пяе,

Што тут, думаю, за ліха?
Зусім п’яных не відаць,
І у рандзе стала ціха,
Паўляглися слоўна спаць.

…

Адракліся, закляліся
Піць гарэлку мужыкі.
Як у іх не адняліся,
У шайтанаў, языкі!

…

Проста, брацітка, сшалелі —
Хоць адзін хто б зробіў грэх,
Чыста ранды апусцелі —
Чарку б выпіў хто на смех.

Мала ж гэтага няшчасця —
Як праняў мяне тут страх,
Млосна стала мне з напасці —
Я на землю чубурах!

Як прыцямілі ж тут гады,
Што зваліўся я на пол,
І нявесь як сталі рады —
Хвацъ хто цёрла, а хто кол.

А адзін, штоб ён апохнуў,
Цуп такі за самы хвост.
Худа мне, я толькі вохнуў,
Як урэзаўся аб мост.

Хто ганцінай, хто дубінай —
Знай што валюць ды пяруць.
Разламалі чыста спіну,
Ані вохнуць, ні дыхнуць.

…

Добра йшчэ, што дагадаўся,
Зірнуў — блізка да дзвярэй.
Я рвануўся — хвост астаўся,
Сам наўцёкі паскарэй».



**Беларускія сяляне ў карчме.** Ілюстрацыя да паэмы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Гапон».

▶ дае нам Шавельскі павет Ковенскай губерні, дзе ўсяго за пяць месяцаў антыалкагольнай кампаніі ў 1858 годзе даход бюджэту ад «п'яных» грошай упаў з больш чым 35 000 рублёў да 500.

### Пагроза асновам

Паноўны ў краі клас па-рознаму паставіўся да брацтваў. Тыя дваране, якія прыхільна ставіліся да рэформаў у сваіх уладаннях, самі ліквідавалі ў сябе вінакурні і корчмы. Сярод такіх былі, напрыклад, Ірэней Агінскі, які меў вялізныя ўладанні ў Расенскім павеце Ковенскай губерні і праславіўся тым, што яшчэ ў 1835 годзе ліквідаваў у сябе паншчыну, замяніўшы яе фіксаваным чыншам, Адольф і Мар'ян Гутэн-Чапскія і некаторыя іншыя. Тыя ж паны, якія не жадалі мадэрнізаваць свае гаспадаркі, пратэставалі супраць дзейнасці духавенства.

А вось дзяржаўныя ўлады былі актыўна незадаволеныя. Ім не маглі падабацца ні празмерная актыўнасць каталіцкага духавенства, якое засведчыла сваю сілу і маральны ўплыў, ні дзейнасць касцельных брацтваў, якія фактычна ўяўлялі сабой яўныя структуры нізавой народнай самаарганізацыі, ні каласальныя страты дзяржаўнага бюджэту, які ў той час дзесьці напалову складаўся з даходаў ад продажу алкаголю.

Распачаўшыся ў Польшчы і перакінуўшыся на Літву і Беларусь, антыалкагольны рух пачаў распаўсюджвацца ўжо і па велікарускіх абшарах, што магло прывесці да зусім непажаданых наступстваў. Ідэя цвярозасці затое спадабалася рускім апазіцыйным інтэлігентам накшталт Аляксандра Герцэна і Мікалая Дабралюбава. І ўсё гэта адбывалася ў складанай сітуацыі,

Літоўска-беларускія губерні нават у 1913 годзе спажывалі значна менш алкаголю, чым насельніцтва імперыі ў сярэднім.

На Ковеншчыне выпівалі тады за год **1,62** літра абсалютнага алкаголю, на Віленшчыне — **1,77**, на Віцебшчыне, Гродзеншчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне — ад **2,16** да **2,31**, **а ў сярэднім у імперыі гэтая лічба складала 3,25 літра**.

падчас адмены прыгоннага права. Таму было вырашана ўжыць усе даступныя сродкі, каб спыніць рух за цвярозасць.

Ужо ў 1860 годзе ў міністэрства ўнутраных спраў з'явіўся намер выслаць біскупа Валанчуса з краю, але таго нечакана падтрымаў цар Аляксандр II на сустрэчы 3 снежня таго ж года ў Вільні. Манархава міласць дазволіла іерарху на нейкі час нават узмацніць свае пазіцыі. Але ўжо ў 1862 годзе брацтвы пачалі занепадаць. Асобныя парафіі вярталіся да спажывання алкаголю.

Канчатковы ўдар па іх нанеслі падзеі, звязаныя з паўстаннем 1863 года. Яшчэ 7 лютага, адразу пасля яго пачатку, было забаронена ствараць брацтвы ў Царстве Польскім. А рэпрэсіі, якія неўзабаве пасыпаліся на каталіцкае насельніцтва Літвы і Беларусі пасля прызначэння віленскім генерал-губернатарам Міхаіла Мураўёва, не абмінулі і антыалкагольных таварыстваў. 19 мая 1864 года біскуп Матэюс Валанчус разаслаў усім дэканам спецыяльнае пасланне, у якім паведамляў, што з красавіка гэтага года дзейнасць такіх арганізацый была забаронена. Пакаранні за непадпарадкаванне прадугледжваліся строгія. Першы раз прызнаны вінаватым ксёндз атрымаў бы пакаранне ў каласальную на той час суму — 100 рублёў, а на другі — 200 рублёў штрафу або мог быць адданы пад юрысдыкцыю вайсковага суда. Такі быў страх уладаў імперыі перад цвярозым селянінам.

Тым не менш нават за такі кароткі час антыалкагольныя брацтвы адыгралі ў гісторыі Польшчы, Літвы і заходняга рэгіёна Беларусі важную ролю. Нідзе ў тагачаснай Еўропе, апрача Ірландыі, яны не атрымалі такога распаўсюджання і не аказалі такога ўплыву. Поўная абстыненцыя ў Жамойці не была рэдкай з'явай нават напрыканцы стагоддзя. А калі зірнуць ва ўрадавую статыстыку, то добра бачна, што літоўска-беларускія губерні нават у 1913 годзе спажывалі значна менш алкаголю, чым насельніцтва імперыі ў сярэднім. На Ковеншчыне выпівалі тады за год 1,62 літра абсалютнага алкаголю, на Віленшчыне — 1,77, на Віцебшчыне, Гродзеншчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне — ад 2,16 да 2,31, а ў сярэднім у імперыі гэтая лічба складала 3,25 літра. ◆



**«Банапарт на перавале Сен-Бернар»** пэндзля Жака-Луі Давіда, 1801 год. Адна з першых карцін у стылі рамантызму. Менавіта гэтым вобразам Напалеона натхняліся тысячы яго прыхільнікаў па ўсім свеце.

# Як у Беларусі ўзнікла мода на імя НАПАЛЕОН

**15 жніўня 2019 года спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння Напалеона Банапарта — чалавека, які пакінуў велізарны след у сусветнай гісторыі. Нашы продкі з дапамогай Напалеона спадзяваліся адрадзіць сваю нядаўна захопленую суседзямі дзяржаву, таму ў XIX стагоддзі асоба французскага імператара была надзвычай папулярнай на землях былой Рэчы Паспалітай. Пра незвычайныя наступствы тагачаснай напалеонаманіі піша кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў.**

### Раўненне на Францыю

Шляхта былой Рэчы Паспалітай на працягу ўсяго XIX стагоддзя не траціла надзеі на адраджэнне сваёй былой дзяржавы, спадзеючыся і на дапамогу замежных саюзнікаў. Найбольш перспектыўнай у гэтым плане лічылася Францыя, якая і сама нямала рабіла, каб заваяваць сэрцы польска-літоўскай шляхты. Стварэнне ў складзе італьянскай арміі пад французскім камандаваннем польскіх легіёнаў у канцы 1790-х гадоў, разгром Прусіі і з'яўленне ў 1807-м на палітычнай карце Еўропы Вялікага Герцагства Варшаўскага заклалі аснову для нечуванай папулярнасці сярод жыхароў былой Рэчы Паспалітай, не выключаючы і ВКЛ, асобы французскага імператара Напалеона Банапарта.

Моцныя прафранцузскія настроі захоўваліся ўсё XIX стагоддзе, абвастраючыся падчас буйных узрушэнняў, якія падточвалі магутнасць Расійскай імперыі. Вялікія надзеі ўскладала наша шляхта на поспехі французаў у Крымскай вайне 1853–1856 гадоў, а падчас паўстання 1863–1864 гадоў быў спадзеў на французскую дыпламатычную і нават вайсковую дапамогу.

Сярод іншага франкаманія на нашых землях праявілася і ў распаўсюджаным называнні дзяцей іменем Напалеон. Тым больш што з 1848 па 1870 год Францыяй кіраваў Напалеон III — пляменнік славутага палкаводца.

### Першыя ластаўкі

19 лютага 1806 года Напалеон выдаў дэкрэт, у якім абвяшчалася аб штогадовым святкаванні 15 жніўня дня святога Напалеона. Свята стала тады дзяржаўным не толькі ў Францыі, але і ў Вялікім Герцагстве Варшаўскім, а ў 1812-м і на землях былога ВКЛ.

Але першыя Напалеоны на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай пачалі з'яўляцца яшчэ раней. Самы ранні з выяўленых намі выпадкаў хрышчэння немаўляці з такім іменем на землях былога ВКЛ быў зафіксаваны 26 сакавіка 1805 года ў Навагрудскім фарным касцёле.

**Напалеон I Банапарт** (1769–1821) — імператар Францыі ў 1804–1814 і ў 1815 гадах, выключна таленавіты палкаводзец і дзяржаўны дзеяч. Ён быў чалавекам, узнесеным на самую вяршыню ўлады Вялікай Французскай рэвалюцыяй канца XVIII стагоддзя. Выхадзец са сціплай сям'і карсіканскага двараніна, Напалеон у 1789 годзе быў толькі лейтэнантам, але рэвалюцыі і звязаныя з імі ўзброеныя канфлікты заўсёды адкрываюць кар'ерныя шляхі людзям з вайсковымі талентамі. Банапарт свой шанц выкарыстаў напоўніцу. Ведзеныя ім пасяховыя войны і паралельна здзейсненыя ў Францыі і за яе межамі пераўтварэнні знішчылі старую Еўропу, якая пасля таго ўжо не мела шанцаў заставацца ранейшай. Таму Напалеон з поўным правам лічыцца адным з людзей, якія аказалі найбольшы ўплыў на ход усёй сусветнай гісторыі. І ўплыў гэты з гістарычнай адлегласці аказаўся пазітыўным. Нездарма сёння гэтага чалавека калі не шануюць, то, прынамсі, аддаюць яму належнае нават у тых краінах, якія сталі ахвярамі ягонай заваёўніцкай палітыкі.

## Першы раз імя Напалеон на землях былога Вялікага Княства дзіцяці далі ў 1805 годзе ў Навагрудку

Бацькамі хлопчыка былі гарадскі галава Навагрудка Станіслаў Камінскі і яго жонка Анеля Сідарэвіч. Сімвалічна, што ў тым жа самым касцёле ў 1798 годзе быў ахрышчаны і Адам Міцкевіч, які пазней актыўна папулярызаваў гераічны «напалеонаўскі міф».

У тыя ж гады ў метрычных кнігах фіксуюцца і іншыя выпадкі хрышчэння ў гонар французскага імператара. Сярод тых Напалеонаў першага «прызыву» нельга не ўзгадаць знакамітага мастака і музыканта Напалеона Орду, які нарадзіўся 11 лютага 1807 года ў родавым маёнтку Варацэвічы пад Янавам. Пасля Банапарта гэта самы вядомы Напалеон у нашай гісторыі.

Наданне імя Напалеон у першыя дзесяцігоддзі яго распаўсюджання было свядомым ідэйным выбарам ▶

бацькоў дзіцяці, а таксама святароў, якія здзяйснялі хрышчэнне. Выбар імя тут не меў прывязкі да царкоўнага календара, як гэта найчасцей было з іншымі імёнамі. Затое відавочнай была сувязь з антырасійскімі настроямі, што добра бачна на прыкладзе кафедральнага касцёла ў Мінску. Тут у перыяд да 1815 года гэтае імя зафіксавана ў метрычных кнігах тройчы, і ўсе тры выпадкі прыпадаюць на 1812 год. Падобна і ў францішканскім касцёле Пінска — тут быў зафіксаваны адзіны хрост падвойным іменем Напалеон-Францішак 10 лістапада 1812 года.

Называлі сваіх дзяцей у гонар французскага імператара перадусім рыма-каталікі, але былі з гэтага правіла і выключэнні. Так, за больш чым трыццацігадовы перыяд з 1800 па 1839 год 4 разы імя Напалеон далі сваім сынам святары Уніяцкай (Грэка-каталіцкай) царквы. Самы ранні факт хрышчэння хлопчыка іменем Напалеон уніятамі зафіксаваны ў царкве вёскі Свяда Барысаўскага павета (сёння вёска Слабада Лепельскага раёна) 20 красавіка 1806 года. Дзіця нарадзілася ў сям'і будучага святара гэтай жа царквы Юстына Хруцкага, а хрышчэнне правёў ягоны бацька, Ян Хруцкі.




**Медальён з выявай абдымкаў Напалеона з расійскім імператарам Аляксандрам I,** 1810 год.

Некаторыя з тых, хто быў народжаны ў 1805–1812 гады і ў сталым веку ўжо быў вядомы пад іменем Напалеон, бралі яго сабе ў якасці другога імя пастфактум. Гэта магло адбывацца, напрыклад, пры пазнейшым мірапамазанні (канфірмацыі). Так, удзельнік паўстання 1830–1831 гадоў Міхал-Напалеон Хадаровіч, ахрышчаны ў Навагрудскім фарным касцёле 5 лістапада 1805 года, у метрычнай кнізе быў запісаны толькі як Міхал.

## Дзеці Тыльзіцкага міру

Для жыхароў былой Рэчы Паспалітай называнне сыноў Напалеонамі было вельмі эфектным спосабам дэманстрацыі сваіх палітычных перакананняў, выказвання патрыятычных пачуццяў і антырасійскіх настрояў. А для тых, хто дзеля гэтага яшчэ і не надта хацеў лезці на ражон, быў зусім бяспечны варыянт — выкарыстанне падвойнага ці патройнага імя ў гонар адразу двух імператараў: і французскага, і расійскага. Пасля таго ж, як 13 (25) ліпеня 1807-га ў прускім горадзе Тыльзіце была заключана мірная дамова, якая юрыдычна зрабіла Расію саюзніцай Францыі, такая форма імені стала зусім «трэндавай» і рэспектабельнай. Прынамсі, так было да пачатку кампаніі 1812 года.

Адным з першых «дзяцей Тыльзіцкага міру» на нашых землях стаў сын віленскага шляхціча Напалеон-Аляксандр Смольскі, які нарадзіўся 28 лістапада 1807 года. Пра дэманстратыўнасць абрання




**Памешчыкі Мінскай губерні Напалеон Яленскі і Геранім Кяневіч.** Яленскі (злева) быў сынам удзельніка паўстання 1830–1831 гадоў.

«былым капітанам польскіх войскаў» Янам Смольскім і яго жонкай Тэкляй Пачобут для свайго сына імя французскага і расійскага імператараў выразна сведчыць дата хрышчэння. Бацькі адкладалі яго амаль паўгода і нарэшце здзейснілі ў віленскім касцёле Святых Янаў 3 мая 1808 года. Па сутнасці, для віленчукоў Смольскіх гэта была прыхаваная і вельмі дасціпная форма палітычнай маніфестацыі. Сапраўды, нельга ж забараніць бацькам, хросным і сябрам сям'і з размахам адсвяткаваць менавіта 3 мая радасную падзею — хрышчэнне сына, Напалеона-Аляксандра, які сімвалізуе сабой сяброўства Францыі і Расіі. А пад гэтую марку можна заадно добра адзначыць і гадавіну Канстытуцыі 3 мая 1791-га.

«Дзяцей Тыльзіцкага міру» ў 1807–1812 гадах было на нашых землях нямала. Праўда, многія з іх пазней у афіцыйных дакументах прыбіралі са свайго

імя дадатак, які стаў небяспечным, і рабіліся толькі Аляксандрамі, як гэта ў 1834-м зрабіў Напалеон-Аляксандр Заліўскі. Здараліся, аднак, і адваротныя выпадкі. Будучы маршалак шляхты Мазырскага павета Аляксандр-Напалеон Замайскі, ахрышчаны пад падвоеным іменем у касцёле мястэчка Лахва Мазырскага павета ў 1811 годзе, у афіцыйным дакуменце аб дваранскім паходжанні 1817-га быў запісаны сваім бацькам ужо толькі як Напалеон. Гэта яўна было дэманстрацыяй палітычных перакананняў.

Цікава, што згаданы Аляксандр-Напалеон Замайскі ў 1849 годзе іменем Францішак-Напалеон ахрысціў ужо ўласнага сына. І гэта таксама было часткай агульнай тэндэнцыі: імя Напалеон рабілася родавым. У сем'ях, якія аднойчы абіралі яго для сваіх дзяцей, нярэдка з'яўляліся маленькія Напалеоны і ў іншых пакаленнях.

### Як падлічыць Напалеонаў

Новая хваля папулярнасці імя Напалеон пачалася пасля задушэння паўстання 1830–1831 гадоў. Не выпадкова менавіта на гэты перыяд прыпадае і росквіт літаратуры рамантызму з вялікай колькасцю твораў, прысвечаных гераізацыі гістарычных падзей, звязаных з іменем Напалеона. Самы вядомы яго прыклад — «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, напісаны паэтам у эміграцыі ў Парыжы ў 1832–1834 гадах.

І аж да самага канца Расійскай імперыі імя Напалеон на нашых землях хоць не было вельмі частым, але сустракалася рэгулярна. Нядаўна ж мы атрымалі цудоўную магчымасць скласці пра гэта больш шырокае ўяўленне ў колькасным, рэгіянальным і іншых вымярэннях.

У мінулым годзе да 100-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны ў інтэрнэце была выстаўлена прадстаўнічая база звестак салдат і афіцэраў расійскай арміі, якія ў ёй удзельнічалі. У базе — звесткі пра дзясяткі тысяч людзей з усіх рэгіёнаў імперыі ад Варшавы да Сахаліна. Яе з'яўленне дало нам магчымасць хоць бы прыблізна паспрабаваць прыкінуць, у якіх менавіта рэгіёнах Расійскай імперыі ў другой палове XIX стагоддзя атрымала распаўсюджанне імя Напалеон і як яно размяркоўвалася ў адпаведнасці з веравызнаннем, саслоўным паходжаннем і ўмоўнай «народнасцю» яго носьбітаў.

У базе быў зададзены пошук усіх носьбітаў імя Напалеон і імя па бацьку Напалеонавіч. Гады ▶




ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

**Назвы беларускіх гарадоў на Трыумфальнай арцы ў Парыжы**, пабудаванай паводле загаду Напалеона ў гонар перамог яго Вялікай Арміі.

Закладзеная ў XIX стагоддзі традыцыя іменавання ў гонар Напалеона пакручастымі шляхамі дажыла ў Беларусі нават да нашых дзён. У кнізе Уладзіміра Лякіна «Ліцвіны ў гвардыі Напалеона», якая выйшла ў выдавецтве «Тэхналогія» ў 2017 годзе, распавядаецца цікавы выпадак. Адзін з удзельнікаў напалеонаўскіх вайсковых фармаванняў Міхал Вішнеўскі, вярнуўшыся з Францыі на радзіму ў Літвінавічы на Мазыршчыне (цяпер Калінкавіцкі раён), служыў аканомам у мясцовага пана. У канцы 1870-х, калі ён быў ужо вельмі стары, да яго прыйшлі сваякі ягонага сябра Мацвея Вішнеўскага, які таксама служыў у Напалеона і загінуў у Францыі, і папрасілі быць хросным бацькам толькі народжанага немаўляці. Міхал пагадзіўся з умовай, што дзіця назавуць Напалеонам. Пасля Напалеон Вішнеўскі меў сына Мацвея, які ўжо ў савецкі час, у 1929 годзе, вырашыў назваць свайго сына ў гонар бацькі. Але гэта аказалася цяжэй, чым пры царызме: «Сакратар, асоба важная, адукаваная, партыец з расейцаў, запісаць хлопчыка Напалеонам катэгарычна адмовіўся.
— Што гэта за імя? Няма чаго ўспамінаць усялякіх імператараў-эксплуататараў, скончыўся іхні час! Назаві лепей Уладзімірам — як правадыра сусветнай рэвалюцыі!
— Ну тады пішыце Банапартам...
— А гэта што за імя? Я такога не чуў.
— Мясцовае, накшталт Дармідонта. Пішыце смела, таварыш сакратар, быў такі слаўны чалавек. А тут у торбачцы гаспадыня вам за клопат гасцінец сабрала...
І даведка аб нараджэнні новага грамадзяніна савецкай краіны Банапарта Мацвеевіча Вішнеўскага была належным чынам аформлена і засведчана сельсавецкай пячаткай».
Банапарт Мацвеевіч Вішнеўскі пражыў усё жыццё на радзіме, працуючы ў мясцовым калгасе, які па іроніі лёсу насіў імя пераможцы Напалеона Міхаіла Кутузава. Памёр у 2011 годзе. А ягонага ўнука, народжанага ўжо ў незалежнай Беларусі, бацькі па ўжо больш чым стагадовай сямейнай традыцыі назвалі Напалеонам.

нараджэння ва ўсіх носьбітаў імя Напалеон атрымаліся ад 1870-х да 1890-х, а бацькі Напалеонавічаў нарадзіліся, верагодна, ад 1830-х да 1860-х.

Усяго сярод удзельнікаў Першай сусветнай вайны ў расійскай арміі выяўлена 235 Напалеонаў альбо Напалеонавічаў. Не ва ўсіх, праўда, дакладна пазначаныя ўсе патрэбныя звесткі, але і тых, у каго з гэтым усё ў парадку, дастаткова, каб рабіць пэўныя абагульненні.

## Самыя напалеоністыя — Літва і Беларусь

Атрыманыя вынікі даюць нам магчымасць вылучыць тры буйныя рэгіёны Расійскай імперыі, дзе імя Напалеон атрымала найбольшае распаўсюджанне:



ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

**Надмагілле першага чалавека на землях былога ВКЛ, які назваў дзіця ў гонар Напалеона, — гарадскога галавы Станіслава Камінскага на могілках горада Навагрудка.** «Тут ляжыць Станіслаў Камінскі. Памёр у 1838 годзе жніўня 3 дня, ва ўзросце 67 гадоў. Які просіць аб трох малітвах "Анёльскае прывітанне"».



WIKIMEDIA COMMONS

Напалеон Орда.

1) тэрыторыя былога ВКЛ, вядомая ў другой палове XIX стагоддзя ў Расійскай імперыі як так званы «Паўночна-Заходні край» — 137 носьбітаў (Ковенская губерня — 61 чалавек, Віленская — 38, Мінская — 19, Віцебская — 13, Гродзенская і Магілёўская — па 3);

2) так званае Царства Польскае — 23 носьбіты (Варшаўская губерня — 8, Ломжынская — 5, Пётркаўская — 4, Калішская і Сувалкаўская — па 2, Келецкая і Люблінская — па 1);

3) Каўказскае намесніцтва — 11 носьбітаў (Кутаіская і Эрыванская губерні — па 3 чалавекі, Елізаветпольская і Тыфліская — па 2, Церская вобласць — 1).

На першы погляд, дзіўнай выглядае папулярнасць імя Напалеон на Каўказе, тым больш што, мяркуючы па прозвішчах, гэта збольшага мясцовыя ўраджэнцы, грузіны і армяне. Але тлумачэнне гэтаму — простае. Грузіны былі выхадцамі з Кутаіскай губерні — земляў, якія з'яўляліся вотчынай знакамітага мегрэльскага княскага роду Дадзіяні. Гэты род з 1860-х гадоў быў у сваяцтве з Банапартамі, і менавіта таму ў Мегрэліі было папулярна ўсё звязанае з імі. У традыцыі ж армянскай антрапаніміі ўвогуле распаўсюджана нават і сёння даваць нованароджаным імёны знакамітых людзей, запазычаныя

### Беларускія Напалеоны XIX стагоддзя

**Напалеон Орда** (1807–1883) — мастак, кампазітар, піяніст і педагог. Выхадзец з палескай шляхты, нарадзіўся ў вёсцы Варацэвічы Пінскага павета (цяпер Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці). Бацька ягоны быў інжынерам-фартыфікатарам. Падчас навучання ў Віленскім універсітэце Напалеон Орда быў сябрам нелегальнага студэнцкага таварыства, браў удзел у паўстанні 1830–1831 гадоў. Больш за 20 гадоў жыў на эміграцыі ў Францыі, у 1856 годзе вярнуўся на радзіму. Замалёўваў пейзажы і будынкі, звязаныя з жыццём вядомых людзей.

**Напалеон Юльян Абуховіч** — дваранін, нарадзіўся ў 1840 годзе. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, валодаў маёнткамі Кругавічы і Навадворкі ў Слуцкім павеце. Удзельнічаў у паўстанні 1863–1864 гадоў. Уваходзіў у склад паўстанцкага атрада Уладзіслава Машэўскага. У красавіку 1863-га паранены ў баі ля вёскі Азярцы Ігуменскага павета, узяты ў палон са зброяй у руках. Утрымліваўся ў Слуцкай турме. На судзе не адступіўся ад сваіх перакананняў, прысуджаны да пазбаўлення ўсіх дваранскіх правоў, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 12 гадоў. Да 1875 года атрымаў частковую амністыю і вярнуўся на радзіму. У час яго знаходжання ў высылцы старэйшы брат Вацлаў-Багуслаў назваў двух сваіх нованароджаных сыноў у гонар брата — у 1868-м Аляксандрам-Напалеонам-Мар'янам і ў 1870-м Напалеонам-Тэадорам-Геранімам.

з іншых культур. Таму ў сітуацыі з папулярнасцю імя Напалеон на Каўказе, хутчэй за ўсё, няма прыхаванай антырасійскай скіраванасці, безумоўна ўласцівай землям былой Рэчы Паспалітай.

Што да сітуацыі на заходніх тэрыторыях Расійскай імперыі, то тут лагічна было б меркаваць, што на тэрыторыі Царства Польскага і «Паўночна-Заходняга края» папулярнасць імені мусіла б быць прынамсі падобнай, а на землях Царства Польскага, якія раней уваходзілі ў склад Вялікага Герцагства Варшаўскага, нават вышэйшай. Але ў рэальнасці ўсё якраз наадварот: статыстыка сведчыць, што ў другой палове XIX стагоддзя ў «Паўночна-Заходнім краі» імя Напалеон было амаль у 6 (!) разоў папулярнейшае пры супастаўнай агульнай колькасці насельніцтва. І гэта яшчэ прытым, што Царства Польскае было населена


**Крыпта Напалеона ў парыжскім Доме інвалідаў.** Сучасны выгляд.

пераважна рымска-каталіцкім насельніцтвам, а ў «Паўночна-Заходнім краі» яно складала менш за палову. Падобна, што на побытавым узроўні гераічны «напалеонаўскі міф» пусціў найглыбейшыя карані менавіта на землях былога ВКЛ.

Магчыма, гэта было неяк звязана з тым, дзе адбываліся асноўныя баявыя дзеянні падчас кампаніі 1812 года. Характэрна, што 131 носьбіт імя Напалеон са 186-ці прыпадае на Ковенскую, Віленскую, Мінскую і Віцебскую губерні. Прытым найбольшая іх колькасць сканцэнтравана на тэрыторыі трох паветаў: Вількамірскага і Новааляксандраўскага Ковенскай губерні і Віленскага Віленскай губерні (агулам 50 чалавек). Побач з гэтымі паветамі — тэрыторыі з нашмат меншай, але таксама значнай папулярнасцю: Ковенскі павет Ковенскай, Ашмянскі, Свянцянскі і Дзісенскі паветы Віленскай і Дрысенскі павет Віцебскай губерняў (агулам 23 чалавекі).

Менавіта на вышэйпералічаных тэрыторыях адбыліся самыя значныя падзеі вайны 1812-га, непасрэдна звязаныя з асобай французскага імператара. Адпаведна, тут была і найбольшая колькасць памятных месцаў, звязаных з падзеямі той вайны, і легендаў пра «напалеонаўскія скарбы». А ўсё гэта разам жывіла «напалеонаўскі міф» і натхняла мясцовых людзей часцей называць сваіх нашчадкаў іменем праслаўленага імператара. ◆

Аўтар выказвае шчырую падзяку Вадзіму Ададураву, Яўгену Глінскаму, Кшыштафу Касажэцкаму, Дзмітрыю Матвейчыку, Марыне Скіданавай, Юрыю Снапкоўскаму і Анатолю Сцебураку за дапамогу ў рабоце над артыкулам. Поўную яго версію чытайце ў №7 «Беларускага гістарычнага часопіса» за 2019 год.




**Гарліцкі, Анджэй. Юзаф Пілсудскі: 1867–1935.** — Мінск: Янушкевіч А. М., 2019. — 760 с.

У выдавецтве «Янушкевіч» выйшла па-беларуску фундаментальная кніга вядомага даследчыка гісторыі XX стагоддзя, прафесара Варшаўскага ўніверсітэта Анджэя Гарліцкага, прысвечаная асобе Юзафа Пілсудскага — чалавека, якому было наканавана змяніць лёс Польшчы і польскага народа. Аўтар крытычна ставіўся да героя сваёй кнігі і на падставе вялікага шэрагу гістарычных крыніц і дакументаў стварыў падрабязную, разнапланавую карціну яго жыцця.

Анджэй Гарліцкі (1935–2013) — гісторык і публіцыст, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар шматлікіх кніг па найноўшай гісторыі Польшчы. Актыўны папулярызатар гісторыі — працяглы час супрацоўнічаў з такімі прэстыжнымі польскімі часопісамі, як парыжская «Культура» і варшаўская «Палітыка». Біяграфія Юзафа Пілсудскага аўтарства Гарліцкага была першай у пасляваеннай Польшчы. Яна з вялікім поспехам шматразова перавыдавалася, апошняе выданне пабачыла свет у 2017 годзе. Здабыла славу як найбольш фундаментальнае і крытычнае даследаванне палітычнага шляху Пілсудскага.

Набыць кнігу можна ва ўсіх асноўных кнігарнях Беларусі і ў прыватных распаўсюднікаў.

# «Колькі загінула немцаў, пакуль не ўстаноўлена»

## Хто і як бамбіў беларускія гарады ў вайну: праўда і міфы

**Фронт Другой сусветнай пракаціўся па Беларусі двойчы, а па некаторых мясцінах — нават тройчы. Але на вайне гінулі не толькі на фронце, піша гісторык Антон Рудак.**

### 1939-ы: па сігналах з Мінска

Другая сусветная пачалася для Беларусі не 22 чэрвеня 1941 года, а 1 верасня 1939-га. Акурат тады на беларускія гарады ўпалі першыя бомбы. Нямецкая авіяцыя бамбіла Гродна, Кобрын, Пінск, Ганцавічы, Баранавічы, Ліду — бамбавікі арыентаваліся па радыёсігналах, якія транслявала мінская радыёстанцыя.

Асабліва моцна ўсю першую палову верасня немцы бамбілі Брэст. Першыя ўдары былі нанесеныя яшчэ 2 верасня па казармах у крэпасці. 7 верасня бамбілі ўжо цэнтр горада, куды перабралася з Варшавы камандаванне польскай арміі, у тым ліку галоўнакамандуючы, маршал Эдвард Рыдз-Сміглы.

А Брэсцкая крэпасць яшчэ раз моцна пацярпела ад нямецкіх снарадаў і бомбаў улетку 1941 года. Але не горад: немцы занялі Брэст практычна без бою. Не стаў горад арэнай баёў і ў 1944-м. Буг працякаў на захад ад горада, таму немцы не здолелі стварыць тут лінію абароны.

### 1941-ы: бамбёжкі і падпалы

Першыя нямецкія бомбы ў 1941-м упалі 22 чэрвеня на Беласток (тады ён быў беларускі), Гродна, Ліду, Навагрудак.

У Гродне ў першыя дні вайны былі зруйнаваныя палац Радзівілаў і Сянны рынак, многія іншыя будынкі ў цэнтры горада. Страты забудовы ацэньваліся ў 30% (да канца акупацыі гэты паказчык вырасце да 43%).

Ліду працягвалі бамбіць да 25 чэрвеня — калі 26-га сюды ўвайшлі нямецкія войскі, цэнтр горада ляжаў у руінах.

Навагрудак бамбілі да 28 чэрвеня, асабліва пацярпела цэнтральная плошча. Былі зруйнаваныя нямецкімі бомбамі гандлёвыя рады (тая іх частка, што стаяла пасярэдзіне плошчы), дом-музей Адама Міцкевіча з усімі зборамі, палац Радзівілаў. Драўляную забудову горада моцна панішчыў пажар.

З 23 чэрвеня нямецкая авіяцыя бамбіла Мінск. У сталіцы Савецкай Беларусі першымі цэлямі былі аэрадром і таварная чыгуначная станцыя. Але ўжо на наступны дзень з самага ранку быў атакаваны цэнтр горада, і да вечара

**Гінулі ад бомбаў і пажараў не толькі людзі і дамы, але і культурныя каштоўнасці.** Агент савецкай разведгрупы, журналіст і пісьменнік Рыгор Мурашка ў 1944-м сведчыў у сваім аглядзе ваенных стратаў Мінска: «У цэнтры горада, галоўным чынам, змяшчаліся шматлікія і багатыя прыватныя бібліятэкі навуковых работнікаў, пісьменнікаў, мастакоў і інжынераў, каштоўнасць якіх вызначалася ў мільёны рублёў. Агонь пажараў знішчыў іх цалкам. Згарэў у агні пажару Дом пісьменнікаў са сваёй выдатнай і вялікай бібліятэкай».
Нямецкія бамбардзіроўкі Мінска знайшлі адлюстраванне і ў мастацкіх творах. **Іван Шамякін у рамане «Гандлярка і паэт»**, які выйшаў у 1976-м, першым у беларускай літаратуры згадаў не толькі пра разбурэнні, нанесеныя бомбамі, але і пра безуладдзе ды марадзёрства першых дзён вайны пасля сыходу з горада савецкіх уладаў і міліцыі. У літаратараў з іншага палітычнага лагеру рэакцыі на бамбардзіроўкі Мінска дыяметральна адрозніваліся. Так, **Масей Сяднёў, які ў чэрвені 1941 года сядзеў пад следствам у мінскай турме НКВД** і вызваліўся дзякуючы прыходу немцаў, пакінуў аб тых днях верш, ён успрымаў падзеі зусім інакш:

Збамбілі ля турмы ўвесь квартал,
і я пайшоў у свет раскутым.
Як радасць для сябе, вайну я прывітаў
радкоў маіх лірычнейшым салютам.

Маліўся сіле агнявой
і дню, што лёс мой перайначыў.
Я самалёту кожнаму над галавой
жадаў найлепшае ўдачы...

**Нацысцкая прапаганда сцвярджала, што Мінск быў знішчаны ў выніку падпалу бальшавікамі, і гэтая версія трапіла нават у заходнюю прэсу**

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Так пасля сыходу нацыстаў выглядаў цяперашні праспект Незалежнасці.** Дрэвы зверху — гэта Аляксандраўскі сад. За ім праглядаюцца вежы Дома афіцэраў. Справа зверху — тэатр імя Янкі Купалы і будынак ЦК Кампартыі, у якім пры немцах размяшчаўся Генеральны камісарыят.

адбылося каля дваццаці налётаў па 35–40 самалётаў кожны. Бамбардзіроўкі працягваліся і ў наступныя два дні, але менавіта 24 чэрвеня сведкі называюць адным з самых страшных дзён у гісторыі Мінска. Падчас нямецкіх бамбардзіровак 23–26 чэрвеня 1941 года наймацней пацярпела забудова цэнтральнай часткі горада — кварталаў паміж вуліцамі Інтэрнацыянальнай і Карла Маркса.

Сярод найбольш адметных і даўніх помнікаў, якія страціў Мінск у тыя дні, — палац Сапегаў на колішняй Юр'еўскай вуліцы (ішла паміж сучаснымі праспектам Незалежнасці і вуліцай Інтэрнацыянальнай ад Леніна да Янкі Купалы) і будынак гродскага суда на Замчышчы. Ад пажараў, выкліканых бомбамі, згарэла таксама зарэчная частка горада, забудаваная пераважна драўлянымі дамамі — прыкладна ад сучаснай вуліцы Багдановіча да Першамайскай, ад Свіслачы і да Камароўкі. Паводле нямецкіх падлікаў, страты мінскай забудовы склалі 80%, жыллёвы фонд быў знішчаны на 65%.

Нацысцкая прапаганда сцвярджала, што Мінск быў знішчаны ў выніку падпалу бальшавікамі пры адступленні, і гэтая версія трапіла нават у заходнюю прэсу. Але гэта няпраўда. Такія падпалы насамрэч практыкаваліся пазней на ўсходзе Беларусі і ў Кіеве, пра што захаваліся адпаведныя сведчанні — але ў Мінску такога не было. У мемуарах захаваліся згадкі, што асобныя «энтузіясты» спрабавалі падпальваць дамы, «каб немцам не дасталося», але іх спынялі самі жыхары. З Мінска савецкія ўлады ўцякалі ў такой паніцы, што арганізаваць знішчэнне будынкаў у іх проста не было ні часу, ні магчымасці.

Савецкая авіяцыя вайну ў небе ўлетку 1941-га прайграла — большасць самалётаў, размешчаных ля мяжы, былі знішчаныя немцамі проста на аэрадромах яшчэ ў першыя дні вайны. Тым не менш былі і спробы контрудараў — напрыклад, 26 чэрвеня савецкая авіяцыя бамбіла нямецкія войскі ў раёне Радашковіч — тады здзейсніў знакаміты таран экіпаж Мікалая Гастэлы, накіраваўшы свой падбіты самалёт на калону нямецкай тэхнікі. Але пацярпела падчас тых налётаў і гарадская забудова — акурат 26 чэрвеня ад пажару, выкліканага савецкімі бомбамі, згарэла ў Радашковічах хата, дзе жыла ўдава Браніслава Тарашкевіча з сынам Радаславам. Самім жыхарам удалося ўратавацца, ▸

а восесь багаты архіў Тарашкевіча быў страчаны. 26 чэрвеня савецкія зенітныя часткі пакінулі Мінск, а 28 чэрвеня сталіца БССР была ўжо ў нямецкіх руках.

На наступны дзень, 29 чэрвеня 1941-га, з'явілася дырэктыва савецкага ўрада з указаннямі вывозіць альбо знішчаць усю маёмасць, якая можа трапіць у рукі ворага на акупаваных тэрыторыях. Гэта стала сігналам для стварэння знішчальных атрадаў, якія мусілі, сярод іншага, руйнаваць будынкі. Захаваліся сведчанні ўдзельнікаў падпалаў у Віцебску: тут спальвалі дом за домам — і цагляныя, і драўляныя, — аж да 11 ліпеня, калі ў горад увайшлі нямецкія войскі. Рабілі гэта партыйныя ды камсамольскія актывісты, а таксама простыя навучэнцы, якім выдалі запальныя сумесі. Тое самае рабілася і ў Полацку ды Оршы, пакуль яны не былі захопленыя немцамі 16 ліпеня.

У той жа час цярпелі ўсходнебеларускія гарады і ад нямецкіх бомбаў. Не прайшла бясследна для гарадской забудовы абарона Магілёва, якая доўжылася амаль месяц. У ліпені – жніўні 1941-га нямецкая авіяцыя бамбіла таксама Гомель, знішчыўшы да 50% гарадской забудовы. Агулам у 1941-м немцы, наступаючы, бамбілі дзясяткі гарадоў і мястэчак — ад Жабінкі, Кобрына, Пружанаў і Ваўкавыска — да Слоніма, Баранавічаў і Слуцка, ад Маладзечна і Дзісны — да Барысава і Жодзіна, ад Асіповічаў і Бабруйска — да Лепеля, Віцебска і Оршы. Аднак цэлямі гэтых бамбардзіровак часцей за ўсё былі толькі чыгуначныя вузлы ды вайсковыя гарадкі і ўстановы. Так, напрыклад, у Лепелі бомбу скінулі дакладна на ваенкамат, дзе загінула каля сарака чалавек.

## 1942–1943-ці: налёты і зондэркаманды

У 1942 годзе акупаваныя нацыстамі беларускія гарады пачала бамбіць савецкая авіяцыя. У сакавіку 1942 года адбыўся не надта ўдалы налёт на Мінск. Лётчыкі цэлілі ў Дом урада, дзе размяшчаліся розныя нямецкія вайсковыя ўстановы, але замест гэтага бомбы амаль цалкам знішчылі забудову прылеглай да шматпавярховага гмаху вуліцы Берсана. Савецкія бамбёжкі, як і нямецкія раней, прыводзілі да шматлікіх выпадковых ахвяр сярод мірнага насельніцтва. Так, у Віцебску 28 кастрычніка 1942 года ад савецкай бомбы загінуў на электрападстанцыі адзін з кіраўнікоў падполля Уладзімір Казлоўскі з бацькам.

У 1943 годзе савецкія бамбёжкі ўзмацніліся. 4 мая 109 самалётаў бамбілі Мінск, 190 бамбавікоў адпрасавалі Оршу. 22 і 28 мая 1943-га савецкая авіяцыя моцна панішчыла ў Магілёве кварталы драўлянай забудовы, а пры канцы зімы 1944-га — цэнтральную частку горада, забудову вуліцы Першамайскай і Савецкай плошчы (цяпер — плошча Славы). Цэлямі савецкіх бамбавікоў былі

Савецкая авіяцыя наносіла немцам адчувальныя страты. Захаваліся, напрыклад, сведчанні з «агентурных звестак па выніках савецкай бамбардзіроўкі Мінска», датаваныя першымі днямі траўня 1943-га, за подпісам упаўнаважанага асобага аддзела партызанскага атрада імя Кірава П'янкова: «Знішчаныя і разбітыя... вагонапаравознае дэпо і падвесны мост. Упалі чатыры бомбы на завод імя Мяснікова. [Пацярпелі ад бомбаў] 2-гі савецкі шпіталь і клінічны гарадок, 4 карпусы з параненымі немцамі. Разбітая хлебапякарня, на Грушаўскім пасёлку — школа, у якой знаходзіліся немцы, у пасёлку Камінтэрн — 10 карпусоў, у якіх таксама знаходзіліся немцы, радыёстанцыя... ваенна-палявая камендатура і склад са снарадамі. [Колькі] загінула немцаў — пакуль не ўстаноўлена. Загінула цывільнага насельніцтва каля трох тысяч». Звесткі пра страты сярод мірнага жыхарства ў гэтым партызанскім данясенні, верагодна, перабольшаныя — але нельга адмаўляць, што такія ахвяры былі. Налёты савецкай авіяцыі выклікалі сярод жыхароў акупаванай Беларусі супярэчлівыя рэакцыі. **Згаданае ў данясенні П'янкова бамбардзіраванне Мінска ў маі 1943 года стала штуршком да напісання Антонам Адамовічам завязкі рамана «Каханы горад».** Аўтар, які да вайны выйшаў з савецкай турмы, бо пагадзіўся стаць сексотам НКВД, а падчас акупацыі ўзначальваў у Мінску пранямецкую «Беларускую газэту», пісаў свой твор ужо ў Германіі, куды быў высланы нацыстамі з Мінска ў выніку палітычных інтрыг. Апублікаваць тэкст падчас вайны ўдалося таксама толькі ў Германіі — нацысцкая цэнзура ў Мінску яго не прапускала. «Каханы горад» — гэта гісторыя пра беларуса, савецкага лётчыка, які браў удзел у налёце на Мінск, і пра выбар, зроблены ім у гэтай цяжкай сітуацыі. Вітаўт Кіпель, які падчас акупацыі Мінска быў падлеткам, узгадвае: «Пасля траўня 1943-га бамбёжкі бывалі досыць часта, яны налятала на вакзал, на розныя ваенныя аб'екты, майстэрні, склады. Бамбёжкі ўвайшлі ў штодзённае жыццё... Цярпела і цывільнае насельніцтва, людзі гінулі, былі паховіны. І хоць людзі былі незадаволеныя, плакалі — чаму гэта на нас? — але ніхто нікога не вінаваціў, гэта ўспрымалася як стыхійнае бедства, непазбежная частка ваенных дзеянняў».


VISUALHISTORY.LIVEJOURNAL.COM

**Руіны мінскай гасцініцы «Еўропа»,** разбуранай нямецкімі бомбамі ў першыя дні вайны. Яе адбудуюць толькі праз 60 гадоў і трохі ў іншым месцы: там, дзе стаяў колішні гатэль, пасля вайны правялі вуліцу Леніна.



BOOKING.COM

вайсковыя аб'екты і ўстановы акупантаў.

У Мінску адна з савецкіх бомбаў пацэліла дакладна ў будынак на вуліцы Карла Маркса, дзе месцілася штаб-кватэра абверу (цяпер тут філалагічны факультэт БДУ), а другая трапіла ў тое крыло Дома афіцэраў, дзе знаходзіўся кінатэатр для нямецкіх вайскоўцаў.

Савецкія налёты на Мінск працягваліся аж да сыходу немцаў з горада.

Пакуль авіяцыя палявала на цягнікі і казармы, за горадам ішла вайна партызанская.

Партызаны падрывалі рэйкі, нападалі на паліцыю. У адказ эсэсаўцы бязлітасна знішчалі вёскі каля партызанскіх зон. Хатынь, Дальва — такіх вёсак былі сотні. Нам цяжка сабе сёння ўявіць гэта — як можна паліць людзей жывымі!

Што ў савецкі час замоўчвалася — гэта тое, што партызаны таксама палілі маёнткі, школы, нават храмы. Так, менавіта партызаны спалілі сядзібу Касцюшкаў у Мерачоўшчыне ля Косава, палацы і сядзібы ў Малачэўшчыне і Тулічах на Кобрыншчыне, Аранчыцах на Пружаншчыне, Велікарыце Маларыцкага раёна, Залессі на Глыбоччыне, у Сёмкаве, Забашавічах і Дукоры пад Мінскам, Кабыльніку каля Нарачы. Спаленыя партызанамі былі таксама цэрквы ў Гарадку на Маладзечаншчыне, Сваротве, Ятве і Пачапаве на Баранавіччыне, касцёлы ў Чарэі на Аршаншчыне, Камені ля Валожына. Сядзібы гінулі, бо ў іх немцы размяшчалі свае гаспадаркі, але спальванне храмаў практычнымі патрэбамі патлумачыць цяжка. Гэта былі проста акцыі запалохвання.

Беларусь была ў тыя гады пеклам на зямлі. У мястэчку Налібакі на Стаўбцоўшчыне савецкія партызаны спалілі касцёл 8 мая 1943 года — тады ж імі былі забітыя 128 жыхароў мястэчка, западозраных у супрацоўніцтве з немцамі. А варвары немцы 23 ліпеня таго ж года ў царкве ў Дорах на Валожыншчыне спалілі жыўцом 146 чалавек. Дорам не дапамагло нават тое, што з іх паходзіў адзін з кіраўнікоў беларускіх дзеячаў, што супрацоўнічалі з немцамі, Францішак Кушаль. А 8 жніўня нацысты спалілі ўжо і Налібакі, у тым ліку і частку жыхароў.

Зрэшты, нацысты ды іх памагатыя вёскі не толькі палілі — часта нямецкая авіяцыя яшчэ і бамбіла паселішчы ў партызанскіх зонах. У сваім зверстве даходзілі да таго, што практыкавалі нават вучэбныя бамбардзіроўкі вёсак. ▶



**Руіны на вуліцы Карла Маркса.**
Будынак справа — цяпер Гістарычны музей.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

### ▸ 1943–1944-ы: ізноў падпалы і бамбёжкі

Вызваленне Беларусі ад нацыстаў пачалося ўвосень 1943-га з паўднёвага ўсходу краіны. У Гомелі акупанты абвясцілі ў сярэдзіне кастрычніка эвакуацыю насельніцтва, а з канца месяца распачалі планамернае знішчэнне будынкаў. Да 26 лістапада, перш чым у горад увайшлі часткі Чырвонай арміі, было знішчана 80% гарадской забудовы.

Не было горшых знішчэнняў, як калі праходзіў фронт. Напрыклад, у Глыбокім частка гарадской забудовы была спаленая нямецкай знішчальнай камандай, а частка страчаная падчас пажару, які пачаўся ад савецкіх бомбаў 2 ліпеня 1944-га.

Так і ў суседняй з Глыбокім Плісе немцы перад адступленнем спалілі дом, дзе вырас мой дзед — і пазней ён дужа сентыментальна ўспрымаў вядомую песню Міхаіла Ісакоўскага і Мацвея Блантэра «Враги сожгли родную хату».

Саветы падчас наступлення, як і немцы ў 1941-м, бамбілі збольшага чыгуначныя вузлы — у Оршы, Полацку, Магілёве, Асіповічах, Баранавічах, Брэсце... Часам пасля заняцця саветамі гэтых станцый па іх паспявалі адбамбіцца яшчэ раз і немцы — як у Оршы і Маладзечне. Часта забудова гарадоў разбуралася таксама падчас вулічных баёў.

Апошнім часам распаўсюджваюцца плёткі, нібыта Мінск савецкая авіяцыя бамбіла ў ліпені 1944-га ўжо пасля таго, як немцы сышлі з горада, але гэта абсалютна не адпавядае рэчаіснасці. Насамрэч, да 30 чэрвеня з Мінска эвакуіраваліся ўсе цывільныя немцы, але вайсковыя часткі заставаліся на месцы. 1 ліпеня пачалі дзейнічаць падрыўныя каманды, якія знішчалі абсталяванне заводаў, мініравалі або падрывалі будынкі.

Замініраваныя былі Дом урада, Оперны тэатр і іншыя вялікія гмахі — закладзеныя тут бомбы і выбухоўку пасля з рызыкай для свайго жыцця абясшкодзілі савецкія сапёры.

Не ўдалося знайсці толькі адну бомбу, якая выбухнула 3 ліпеня і выклікала пажар у Доме Чырвонай арміі (цяпер — Цэнтральны дом афіцэраў).

2 ліпеня ў Мінск увайшлі дадатковыя нямецкія вайсковыя аўтакалоны, але разгарнуць і арганізаваць абарону гэтыя часткі ўжо не паспелі — занадта імклівым быў тэмп савецкага наступлення. Зранку 3 ліпеня ў Мінск уварваліся савецкія танкі, а ўвечары заняты Чырвонай арміяй горад бамбіла ўжо нямецкая авіяцыя, налёты працягваліся аж да 23 ліпеня. Акурат у гэты час была пашкоджаная нямецкімі бомбамі, напрыклад, забудова плошчы Свабоды — у тым ліку адметны будынак са званіцай, які стаяў побач з архікатэдральным касцёлам. Пашкоджаны, ён прастаіць да 1951 года, а пасля саветы яго знясуць.

Драўляныя дамы згаралі цалкам, а ад мураваных будынкаў пасля бамбардзіравання заставаліся «каробкі». Пасля вайны танней было пазбавіцца рэштак і збудаваць на іх месцы новыя будынкі. Так было давершана руйнаванне таго, што яшчэ заставалася стаяць.

## Няпраўда, што савецкая авіяцыя бамбіла Мінск у ліпені 1944-га ўжо пасля сыходу немцаў

У той вайне абодва бакі вялі татальную вайну, а Беларусь была адной з галоўных яе арэн. Але большасць будынкаў, зруйнаваных падчас вайны ў Мінску, пацярпелі ўсё ж ад нямецкіх бамбёжак, і наша сталіца, разам з іспанскай Гернікай і польскай Варшавай, стала адным з сімвалаў нацысцкага варварства.. ◆

# Якія памылкі прызнаў Фукуяма

**У сваёй новай кнізе амерыканскі навуковец Фрэнсіс Фукуяма прыходзіць да высновы, што дэмакратыя сама сабой не робіць краіну паспяховай. Патрэбна яшчэ строгая павага да законаў і каб людзі былі прывучаныя дысцыплінавана падпарадкоўвацца ўладзе, піша Максім Маханькоў.**

## «Канец гісторыі» не адбыўся

У пачатку 1990-х амерыканскі філосаф Фрэнсіс Фукуяма атрымаў вялікую вядомасць, напісаўшы кнігу «Канец гісторыі і апошні чалавек». Нагадаем, у гэтай культавай кнізе аўтар пісаў, што гісторыя дасягнула свайго фінальнага пункту і што сучасныя ліберальныя дэмакратыі і капіталізм — пікавы момант развіцця чалавецтва, бо ліберальная дэмакратыя — гэта і ёсць той лад, які найлепш адпавядае самой прыродзе чалавека.

Прайшло некалькі дзесяцігоддзяў, і ліберальная дэмакратыя ды капіталізм усё яшчэ застаюцца прывабнымі і эфектыўнымі. Але, з другога боку, ідэя «канца гісторыі» прадугледжвала, што ўвесь свет будзе маршыраваць за Захадам на сваю фінальную стадыю — да капіталізму і ліберальнай ▶



**Дэпутат Вярхоўнай Рады зносіць прэм'ер-міністра Украіны Арсеня Яцанюка з трыбуны.** Ва Украіне з трох слупоў, якія мусяць быць у аснове сучаснай паспяховай дзяржавы, пакуль ёсць толькі выбарнасць, а іншыя два адсутнічаюць.

WIKIMEDIA COMMONS, BY VADIM CHUPRINA




дэмакратыі. Але гэтага не адбылося. Неліберальныя аўтакратычныя дзяржавы працягваюць існаваць, сярод іх магутныя Расія і Кітай. Прытым тая ж Расія — і не толькі яна — свядома адступіла далёка назад, ужо прайшоўшы немалы кавалак, здавалася б, цвёрда наканаванага гісторыяй шляху.

Каб знайсці адказ на пытанне, чаму адны краіны перайшлі да дэмакратыі, а іншыя — не, Фрэнсіс Фукуяма напісаў кнігу «Вытокі палітычнага парадку: ад старажытных часоў да Французскай рэвалюцыі». Аўтар разважае над тым, што такое паспяховая дзяржава і адкуль яна бярэцца.

## Тры слупы, эфектыўныя толькі ў камплекце

На думку Фукуямы, кожная развітая стабільная дэмакратычная дзяржава мае тры кампаненты: моцную іерархічную структуру ўлады, выбарнае кіраўніцтва і вяршэнства права. Але чаму не ўсім дзяржавам удаецца прайсці гэты шлях? Чаму некаторыя дзяржавы так і застаюцца аўтарытарнымі? Якія гістарычныя перадумовы для гэтага? Ці можна ператварыць Самалі ў Данію?

Амерыканскі навуковец бязлітасна крытыкуе прапановы ліквідацыі дзяржаўных інстытутаў. Як сярод некаторых левых, так і сярод некаторых правых інтэлектуалаў па ўсім свеце распаўсюджана мара пра аслабленне дзяржаўных інстытутаў — нібыта гэта дапаможа пазбавіцца ад бюракратыі і дыктату. Сапраўды, кожны з нас сутыкаўся з недасканаласцю дзяржаўных механізмаў. Але, адзначае Фукуяма, жыхары шматлікіх развітых краін лічаць існаванне дзяржаўнай адміністрацыі настолькі само сабой зразумелай з'явай, што проста пачынаюць забываць, як цяжка яна стваралася і якім было жыццё без яе. Мы крытыкуем дзяржаву за неэфектыўную сістэму медыцыны і разбітыя дарогі, але забываемся, што без дзяржавы ўвогуле не было б ні першага, ні другога. Мы ўспрымаем інстытуцыі як паветра, не задумваючыся пра іх.

Досвед некаторых краін (Украіна) паказвае, што адных толькі дэмакратыі і энергічнай грамадзянскай супольнасці недастаткова для будавання эфектыўных дзяржаўных інстытутаў. А як выглядае свет без дзяржаўных інстытутаў, сапраўдны «лібертарыянскі рай», кожны можа пабачыць на прыкладзе шматлікіх афрыканскіх краін на поўдзень ад Сахары.

Ключавая ідэя кнігі — што сучасны палітычны лад развітай паспяховай дзяржавы трымаецца на трох слупах. Адзін з іх — гэта іерархічная моцная структура ўлады з кампетэнтнымі і сумленнымі чыноўнікамі, не схільнымі да кумаўства і карупцыі. Другі — гэта вяршэнства закона з яго абавязковымі абмежаваннямі для кіраўнікоў. А трэці — гэта выбарнасць, прычым спалучаная з пачуццём адказнасці перад людзьмі, выхаванымі сістэмай маралі і школай.

Гэтыя тры слупы ў розных краінах могуць суадносіцца па-рознаму. Напрыклад, у Даніі, Швецыі, Нідэрландах, Вялікабрытаніі тры пункты шчасліва супадаюць, таму яны такія развітыя, стабільныя і ўстойлівыя. У Кітаі і Расіі ёсць моцная дзяржава, але няма сапраўднай выбарнасці і вяршэнства закона. У Індыі ёсць і выбарнасць, і нават вяршэнства закона, а вось моцная дзяржаўная ўлада не склалася. Ва Украіне з трох пунктаў ёсць толькі выбарнасць, іншыя два адсутнічаюць.

## Жывёла палітычная

Чалавек — істота сацыяльная, і ад пачатку ён быў такім. Людзі — палітычныя жывёлы, і чалавечая натура мае непасрэдны ўплыў на палітыку. Раннія грамадствы былі збудаваныя на сямейных повязях. Людзі былі гатовыя на ўсё дзеля сваіх сваякоў, а да людзей з іншага клана, роду, племені літасці не мелі — згвалтаванне, рабаванне, забойства «чужых» доўгі час былі абсалютнай нормай.

Адзіны спосаб скончыць з гэтым — замяніць родавыя і племянныя адносіны на дзяржаўныя, стварыць дзяржавы (цэнтралізаваную палітычную ўладу), якія б замянілі родавую сацыяльную арганізацыю.

Іерархічная цэнтралізаваная ўлада, звычка падпарадкоўвацца загадам і ўстаноўкам — гэта, паводле Фукуямы, адзін з трох слупоў палітычнага ладу. Але наяўнасці такой дысцыпліны

недастаткова для стабільнасці, бо без выбарнасці, без вяршэнства права праблема кумаўства, кланавасці, узурпацыі ўлады не вырашаецца.

Таму дысцыпліна дзяржаўнай адміністрацыі павінна дапаўняцца вяршэнствам закона, якое абмяжоўвае носьбітаў палітычнай улады. А каб здольнасць дзяржаў прымаць рашучыя меры для навядзення парадку і дысцыпліны ўспрымалася грамадзянамі як законная, паспяховай дзяржаве патрэбная і трэцяя аснова: магчымасць свабодна і кампетэнтна выбіраць і перавыбіраць кіраўніцтва (тое, што мы цяпер называем дэмакратыяй).

У паспяховых дзяржавах апораў заўсёды тры. Сама сабою дэмакратыя без вяршэнства закона, без павагі да закона можа проста ўзмацніць сацыяльныя канфлікты. Без моцнай, дысцыплінаванай дзяржаўнай адміністрацыі, без выканання загадаў зверху данізу дзяржавы пагружаюцца ў нестабільнасць, а пры дэмакратыі ўзнікае фактычнае безуладдзе.

На працягу ўсёй кнігі Фукуяма пераконвае, што празмерна моцныя родава-сямейныя сувязі, «трайбалізм» проста несумяшчальныя з дзяржаўным будаўніцтвам. Пакуль яны не выкараненыя, дзяржаўныя інстытуты будуць працягваць заставацца слабымі і прымітыўнымі, як у Лівіі ці Афганістане.



**Фрэнсіс Фукуяма** — 66-гадовы амерыканскі палітолаг і палітэканом. Ён нарадзіўся ў Чыкага ў сям'і з японскімі каранямі. Вывучаў палітычную філасофію ў Карнельскім універсітэце, пасля — параўнальнае літаратуразнаўства ў Ельскім універсітэце, нарэшце — паліталогію ў Гарвардзе і стажыраваўся ў Парыжы. У 1990-я і 2000-я ён быў адным са значных прадстаўнікоў плыні «неакансерватызм», пасля адышоў ад іх.

## Карані — у гісторыі

Першым, піша Фукуяма, да моцнай цэнтралізаванай дзяржавы ў сучасным сэнсе гэтага слова прыйшоў старажытны Кітай — значна раней, чым еўрапейскія дзяржавы. Моцная цэнтралізаваная дзяржава там узнікла як рэакцыя на бясконцыя міжусобіцы. Менавіта ў Кітаі ўпершыню ў гісторыі з'явіліся прафесійныя чыноўнікі-бюракраты, якіх набіралі на аснове іх кампетэнтнасці, а не паводле спадчыннага прынцыпу. Але не толькі стомленасць людзей ад войнаў падвяла іх да думкі, што патрэбная такая дзяржаўная адміністрацыя. Гэта быў таксама вынік развіцця кітайскай культуры: рацыянальная бюракратыя можа ўзнікаць толькі сярод насельніцтва з пэўным узроўнем ведаў, з якога могуць выходзіць здольныя чыноўнікі.

Старажытная кітайская дзяржава была празмерна моцнай: яна трымала пад кантролем мясцовых князькоў, але пры гэтым, нібы тыя бінты на нагах кітайскіх прыгажунь, таксама не давала развівацца грамадзянскай супольнасці. Нават моцная рэлігійная арганізацыя з незалежным слоем святароў у такой моцнай дзяржаве ўзнікнуць не магла. Менавіта гэтая гістарычная спадчына, лічыць Фукуяма, тлумачыць і асаблівасці сённяшняй кітайскай аўтакратыі.

Прынцып вяршэнства закона развіўся спярша ў тых краінах, у тых культурах, дзе свецкая і рэлігійная ўлады існавалі асобна адна ад адной. Не ў Кітаі з яго надзвычай моцнай дзяржаўнай адміністрацыяй, а ў Еўропе — дзякуючы хрысціянству, піша Фукуяма.

А вось трэці слуп стабільнай дзяржавы — выбарнасць і падсправаздачнасць улады выбарцам, узнікла канкрэтна ў Брытаніі і Скандынавіі. Ва ўсёй сярэднявечнай Еўропе існавалі соймы, вечы, парламенты, картэсы. Але толькі англійскі і скандынаўскія парламенты здолелі стаць рэальнай сілай. Чаму? Фукуяма бачыць прычыну ў росце пісьменнасці пад уплывам пратэстантызму і згуртаванасці англійскага парламента.

Пераломнымі эпохамі, на якіх засяроджваецца Фукуяма, сталі Старажытны Кітай пасля эпохі міжусобных войнаў, сярэднявечная Еўропа і раннемадэрная Англія. Менавіта яны стварылі дзяржавы такімі, якімі мы іх ведаем сёння.

Стварыць сучасную паспяховую дзяржаву ў грамадстве, у якім няма для таго гістарычных традыцый, вельмі цяжка, прызнае навуковец. Гэта выснова, да якой Фукуяма прыйшоў і праз досвед уласных памылак. Ён падтрымліваў амерыканскую інтэрвенцыю ў Ірак у 2003 годзе, але калі пабачыў, да чаго гэта прывяло, змяніў сваё меркаванне. Сілавое насаджэнне дэмакратыі працуе з цяжкасцю — вось выснова з кнігі. ◆

## Адкуль бярэ пачатак міф пра беларусаў як найчысцейшы тып славянскага племені

# «Больш чыстыя»


SHUTTERSTOCK, BY LAZARENKA SVIATLANA

**У сацыяльных сетках ці ў прыватнай размове пасля лазні, калі заходзіць гаворка пра паходжанне беларусаў, нярэдка можна пачуць, што беларусы, маўляў, самыя чыстыя славяне. Не тое што суседзі: змяшаныя з фіна-уграмі рускія ці змяшаныя з цюркамі ўкраінцы. Адкуль у такіх поглядаў растуць ногі, разбіраецца кандыдат сацыялагічных навук Аляксей Ластоўскі.**

Калі сёння нехта кажа, што нейкая нацыя ці раса фізіялагічна лепшая за іншыя, гэта ўспрымаецца як звычайнае цемрашальства. Гітлераўскі нацызм з яго тэорыяй вышэйшасці «арыйскай расы» прывёў у 1930–1940-я да мільёнаў ахвяр. Але пры канцы XIX стагоддзя ніхто не ведаў, да чаго гэта прывядзе, таму на расавыя тэмы тады разважалі шмат і ахвотна. Расавыя ідэі былі цалкам рэспектабельнымі для тагачаснага інтэлектуальнага асяроддзя Заходняй Еўропы. Як, зрэшты, і іншая ў тыя часы папулярная ідэя глабальнай перабудовы грамадства на класавых прынцыпах, далейшая спроба ўвасаблення якой на практыцы прывяла да многіх мільёнаў чалавечых ахвяр на ўсіх кантынентах.

Сотню гадоў таму паняцце «арыйскай расы» выкарыстоўвалася для апраўдання каланіялізму. Прадстаўнікам «арыйскай расы», то-бок заходнім еўрапейцам, прыпісваўся стваральны і прадпрымальны дух, любоў да вольнасці і творчыя здольнасці. Адпаведна, «ніжэйшыя» расы былі гэтага нібыта пазбаўленыя, а таму мусілі падпарадкоўвацца вышэйшым.

### «Мангалоідны выраз вачэй»

Расавая праблематыка выкарыстоўвалася і ў навуковых праектах расійскай імперскай улады для апісання і класіфікацыі

падпарадкаваных ёй народаў. Першыя расава-антрапалагічныя даследаванні разгарнуліся тут у другой палове XIX стагоддзя, і беларусы не былі імі прамінутыя. Расійскія антраполагі знаходзілі ў беларусаў «скуластасць», якую прыпісвалі змяшанню з мясцовымі татарамі, «мангалоідны выраз вачэй», прыкметы мангольскай крыві і фінскага паходжання.

Гэта патрабавала інтэлектуальнага адказу з боку маладога нацыянальнага руху. І ў Беларусі арыстакратычная і наднацыянальная канцэпцыя расавага вяршэнства набыла нацыянальную афарбоўку. Яна дазваляла стварыць штучную іерархію, дзе беларусам нарэшце можна было заняць прывілеяваную пазіцыю (у адрозненне ад іх рэальнага становішча ў Расійскай імперыі).

Расійскай канцэпцыі «зліцця ручаёў у расійскім моры» была супрацьпастаўленая ідэя, што беларусы — самы чысты славянскі тып (з ёй таксама гарманіравала ідэя пра арыйскае паходжанне беларусаў). Расавыя ідэі змешваліся з новымі тэорыямі паходжання беларусаў, якія мелі галоўную практычную задачу — выбудаваць максімальную культурную і гістарычную дыстанцыю беларусаў з рускімі.

Крыніцай натхнення для іх маглі быць погляды польскага антраполага-аматара Францішка Духінскага (1816–1893). Ён абгрунтоўваў цывілізацыйную адметнасць рускіх ад іншых еўрапейскіх народаў расавым паходжаннем. Паводле Духінскага, менавіта раса вызначае апазіцыю дзвюх цывілізацый: усходняй, створанай праз мангольскую кроў, дзе дамінавалі бяспраўе і дэспатызм, і заходняй, прадукту арыйскіх народаў, дзе паважаецца вольнасць і годнасць чалавека.

Паступова такі погляд быў адаптаваны і ў беларускім нацыянальным руху, але пачынаць трэба было з доказаў чысціні славянскага паходжання беларусаў. І дапамог тут аўтарытэт мовазнаўца Яўхіма Карскага, аўтара фундаментальнай працы «Беларусы». У яе першым томе, апублікаваным у 1903 годзе, ён пісаў, што антрапалагічна беларусы з'яўляюцца «больш чыстымі» прадстаўнікамі старажытных індаеўрапеўцаў. Праўда, сам Карскі не лічыў гэтыя адметнасці беларусаў падставай супрацьпастаўляць іх рускім.

### «Народ, схаваны ў лясных пушчах»

Першым, хто выкарыстаў ідэю чысціні паходжання беларусаў, каб супрацьпаставіць іх рускім і ўкраінцам, быў заснавальнік беларускай акадэмічнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі. У этнаграфічным нарысе, апублікаваным у 1905 годзе, ён сцвярджаў, што беларусы ўяўляюць сабою «хіба самы чысты тып славянскага племя». Нават «скуластасць», якую імперскія антраполагі адносілі да выразных мангалоідных рысаў, «зусім не псуе агульнага ўражання». Беларускае племя, на думку Доўнар-Запольскага, ніколі не злівалася з іншымі народнасцямі, у адрозненне ад рускіх, якія занялі фінскія землі і змяшаліся з мясцовымі плямёнамі, а «маларускае племя ўяўляе сабой вельмі стракатую сумесь старажытнарускіх плямёнаў з цюркскімі народнасцямі». Гэтыя погляды даследчык пашыраў і ў наступных працах.

Ідэю падхапіў Мікалай Янчук, сакратар маскоўскага антрапалагічнага таварыства. ▸

### Балцкі субстрат

Моцны ўдар па ўспрыманні беларусаў як «найчысцейшых славян» нанесла так званая балцкая тэорыя этнагенезу беларусаў, якую ў 1960–1970-я гады распрацаваў і абгрунтаваў маскоўскі археолаг Валянцін Сядоў. Паводле гэтай тэорыі, узнікненне беларусаў і іх адрозненне ад рускіх і ўкраінцаў тлумачыцца тым, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі да прыходу славянскіх плямён жылі балты. Славяне каланізавалі тэрыторыі, размешчаныя на поўнач ад Прыпяці, уключаючы Верхняе Панямонне, Верхняе Падняпроўе і Падзвінне, і асімілявалі балтаў, якія жылі тут раней. Змешванне славян з балтамі прывяло да фармавання беларускага этнасу з усімі яго асаблівасцямі, і такім чынам балты нібыта адыгралі ролю субстрату (падасновы) у этнагенезе беларусаў.
Валянцін Сядоў абапіраўся перадусім на археалагічныя крыніцы, але пры гэтым сцвярджаў, што і многія элементы традыцыйнай культуры і мовы сучасных беларусаў маюць балцкія карані. Да такіх элементаў ён адносіў пакланенне вужам і камяням у традыцыйнай рэлігіі беларусаў, жаночы галаўны ўбор (намітку), нясшытае паясное адзенне (панёву), лапці прамога пляцення, слупавую тэхніку ўзвядзення пабудоў, шэраг рыс беларускай фанетыкі (цвёрды [р], аканне).
Вядома, балцкая тэорыя, як і любая іншая падобная, не з'яўляецца ісцінай у апошняй інстанцыі, у яе ёсць нямала апанентаў. Але ў сучасным беларускім грамадстве яна карыстаецца немалой папулярнасцю. Хоць некаторыя аматары гісторыі ўмудраюцца парадаксальным чынам адначасова сумяшчаць веру і ў балцкі субстрат, і ў найчысцейшую славянскасць беларусаў.

▶ У царскія часы ён таксама знаходзіў у беларусах мангалоідныя рысы, але ўлетку 1918-га, чытаючы лекцыі ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве, ужо бачыў у беларусах чыстае славянскае племя: «Беларускі народ, схаваны ў лясных пушчах і абаронены маладаступнымі багнамі, спакон веку захоўваў сябе чыстым ад уплыву чужой крыві». З іншага боку, Янчук яшчэ не ідэалізуе фізічныя рысы і асаблівасці характару беларусаў, гэты крок будзе зроблены пазней.

## Расавая тэорыя ў БССР

У Савецкай Беларусі 1920-х тэорыя «чысціні» беларусаў была ва ўсіх асноўных падручніках па гісторыі і геаграфіі. «Беларускае племя праз увесь час свайго мінулага жыцця не зліваліся з народнасцямі іншых рас», — пісаў у «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» Усевалад Ігнатоўскі.

**У Савецкай Беларусі 1920-х тэорыя «чысціні» беларусаў была ва ўсіх асноўных падручніках па гісторыі і геаграфіі**

Гэты ж тэзіс быў ключавым і для іншага важнага падручніка часоў беларусізацыі — «Геаграфіі Беларусі» Аркадзя Смоліча. «Сярод народаў Усходняй Еўропы беларус з’яўляецца найбольш чыстым прадстаўніком славянскага тыпу. Яго ўсходні сусед маскоўскі, або велікарускі народ, вырас на фінскім грунце, паўстаў ад змяшання славянскіх каланістаў з манголамі — фінамі. Беларус спрадвеку сядзіць на сваей зямлі, і гісторыя не памятае на беларускім прасторы значнейшых неславянскіх тубыльцаў».

Аргументы фізічнай антрапалогіі змешваюцца з культурнымі, і ў Смоліча ўжо падсвядома выбудоўваецца расавая вышэйшасць беларусаў над рускімі: «Будова цела ў яго (беларуса) крыху далікатнейшая, чым у маскоўца. Аб’яўляецца гэта і ў агульным яго выглядзе, і асабліва ў рысах твару — тонкіх і мяккіх, як і ў праўдзівага еўрапейца і славяніна». З гэтага пасажу вынікае і адмаўленне еўрапейскасці і славянскасці рускіх.

## Выкінем Беларусь, створым Крывію

Найбольш істотнай расавая аргументацыя была для асяродку, згуртаванага вакол постацяў Вацлава Ластоўскага і Янкі Станкевіча. Яны адкідалі сам тэрмін «Беларусь» як слабы і высунулі альтэрнатыўную ідэю старажытнай і магутнай Крывіі, непасрэднымі нашчадкамі якой з’яўляюцца сучасныя беларусы.

У 1923 годзе ў часопісе «Крывіч», які выдаваў у Коўне Вацлаў Ластоўскі, Янка Станкевіч друкуе артыкул «Маскальшчына і Еўропа», у якім надае беларусам («крывічам») статус самага чыстага славянскага народа, а рускіх («маскалёў») увогуле выдаляе са славянскай супольнасці. Паводле Станкевіча, славяне з цывілізацыйна-культурнага гледзішча і па роднасці крыві адносяцца да супольнасці арыйскіх народаў, якія падзяляюць культуру Захаду. «Іншая справа маскалі: у іх не толькі ўсходняя цывілізацыя з тонкім заходнім колерам, але, як шчыра прызнаюцца “еўразійцы”, няма маскаля, у жылах якога не цякла б мангольская кроў». У гэтым жа нумары «Крывіча» быў надрукаваны артыкул доктара А. Чужыловіча «Мова, народ, раса», дзе велікаросы абвяшчаюцца «ніжэйшай расай». Пад псеўданімам «А. Чужыловіч» у «Крывічы» друкаваўся нямецкі разведчык Эдмунд Зуземіль, які выконваў ролю куратара беларускага руху ў акупаванай германскімі войскамі Вільні падчас Першай сусветнай вайны.

Сугучныя думкі выказвае Вацлаў Ластоўскі ў артыкуле «Аб “славянстве” маскалёў» (1926). Аўтар падае прыклады прысутнасці на тэрыторыі Расіі неславянскага насельніцтва, каб прыйсці да высновы, што «цяперашняя Велікаросія — гэта не славянскі край», а велікарусы — гэта мешаніна «фінаў і татараў».

### Калі б Божачка даў беларусам рогі

Уладзімір Караткевіч у аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» (1964) каротка паказаў, хоць і іншасказальна, беларускія расавыя «пошукі» ў часы Расійскай імперыі і іх магчымы вынік: «У гімназіі... называлі нас, гледзячы на мову бацькоў, «древнейшей ветвью русского племени, чистокровными, истинно русскими людьми». Вось як, нават больш рускія, ніж самі рускія. Прапаведавалі б нам гэтую тэорыю да пачатку гэтага стагоддзя — абавязкова б Беларусь перашыбла Германію, а беларусы зрабіліся б першымі гвалтаўнікамі на зямлі і пайшлі б адваёўваць у рускіх, якія не сапраўды рускія, жыццёвы абшар, асабліва яшчэ калі б добры Божачка даў нам рогі».

Думка пра адрознасць беларусаў і рускіх падмацоўваецца эмацыйным пасажам: «Пастаўце поплеч менчука з пензенцам і параўнайце: дзве саўсім іншыя расы людзей!».

### «Гіпербарэя»

У сваім паэтычна натхнёным чытанні беларускай гісторыі («Лабірынты») Вацлаў Ластоўскі атаясамляе Крывію (прарадзіму беларусаў) з міфічнай Гіпербарэяй, прарадзімай старажытных арыяў.

Пазней, у акупаваным нацыстамі Менску, у 1943 годзе быў выдадзены падручнік па гісторыі «Беларусь учора і сяньня» Язэпа Найдзюка. Там са спасылкамі на нямецкага навукоўца Пашэ сцвярджаецца, што прарадзімай арыйцаў была Беларусь.

Янка Станкевіч, які, у адрозненне ад Вацлава Ластоўскага, здолеў пазбегнуць сталінскага тэрору, таксама мусіў адаптавацца да рэалій Трэцяга рэйху. У акупаванай нацыстамі Празе ён распрацаваў для «курсаў беларусаведы» новы курс гісторыі Беларусі. У ім паходжанне крывічоў/беларусаў наўпрост злучаецца з арыйскай расай: беларусы сталі вынікам зліцця славян і балтаў, двух «чыстых» і «найболей блізкіх» арыйскіх народаў.

Натуральна, «чыстыя арыйцы» беларусы «найбалей разняцца ад расейцаў, бо апошнія аслявянізаваныя фіны і часткова аслявянізаваныя турка-татары, значыцца, зусім не арыйцы».

Кароткі рэнесанс арыйскай праблематыкі ў працах беларускіх гісторыкаў перапыніўся з паразай Трэцяга рэйху. Пасля Другой сусветнай расавая тэматыка ў беларускіх асяродках практычна знікла, хоць той жа Янка Станкевіч і працягваў інтэлектуальную актыўнасць на эміграцыі.



Пётра Сергіевіч. **Беларус-жаўнер.** 1933 год.

### Ідэалогія вузкага кола

Было б вялікай памылкай казаць, што беларуская палітычная думка ў першай палове XX стагоддзя грунтавалася на расавай ідэі. Кола яе прыхільнікаў зводзілася да лагера Вацлава Ластоўскага і Янкі Станкевіча ды часткі нацыянал-камуністаў. І яно было дастаткова вузкае.

«Расавы» светапогляд быў чужым для большасці ўплывовых прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху — братоў Луцкевічаў, Адама Станкевіча і іншых. Яны трымаліся палітычнай канцэпцыі беларускай нацыі, для якой мае значэнне свядомасць асобы, а не яе кроў і паходжанне.

Хоць на прафанным узроўні стэрэатыпы чысціні крыві і расавай вышэйшасці жывыя дагэтуль — надта ж яны простыя і зручныя ў карыстанні, — але выйсці на ўзровень школьных падручнікаў ці дзяржаўнай ідэалогіі гэты рудымент крывавага XX стагоддзя шанцаў у Беларусі сёння, дзякуй богу, не мае. ◆

# Вампір пад Лепелем

## як у 1845 годзе сяляне з Акуліна раскапалі магілу і адсеклі галаву суседа Ларкі Пабойні

**Вынікі следства адшукала доктар гісторыі Ганна Мажэйка.**

20 лістапада 1845 года да лепельскага павятовага спраўніка паступіла прашэнне памешчыка Мікалая Грабніцкага аб расследаванні справы, звязанай з нейкім «крывасмокам»-мерцвяком, які быццам бы прыходзіў у хату селяніна Рыгора Пабойні. У той хаце, што знаходзілася ў вёсцы Акуліна ў маёнтку Павулле, які належаў Грабніцкаму, акрамя ўласна сям'і 50-гадовага Рыгора, якая складалася з яго самога, жонкі і дзяцей, жылі яшчэ тры сям'і, у тым ліку Іларыён (Ларка) Пабойня з жонкай Юстынай і дачкой Фёклай.

Раніцай 11 ліпеня 1845 года каля дарогі, што вяла да фальварка Гарбаціца, дзе сяляне адпрацоўвалі паншчыну, Ларка Пабойня быў знойдзены непрытомным. У той жа дзень ён памёр і ўжо ўвечары быў пахаваны на мясцовых могілках прыходскім святаром Стафанам Заблоцкім.

Праз тры дні жыхароў дома Рыгора Пабойні пачалі турбаваць начныя візіты памерлага. Відавочцы сцвярджалі, што спачатку нябожчык толькі заходзіў у сенцы і грукаў у дзверы і сцены. З цягам часу ягоныя дзеянні сталі больш агрэсіўнымі: ён заходзіў у хату, кідаў камяні і дровы з печы, шчыкаў удаву Юстыну, пакідаючы сінякі на яе целе, зрываў з яе адзенне. Занепакоеныя сяляне не раз звярталіся па дапамогу да прадстаўнікоў царквы: спачатку Заблоцкі, а потым нававысвечаны прыходскі святар Іван Перабіла адслужылі абедню па нябожчыку і асвяцілі дом, але гэтыя дзеянні не мелі аніякага эфекту. Справа дайшла да таго, што сяляне з гэтай самай вёскі кожную ноч па два чалавекі разам з жыхарамі дома пільнавалі прыход нябожчыка. Мярцвяк працягваў свае шкодныя дзеянні, аб'ектам якіх сталі члены ягонай сям'і і знаёмыя.

**Самым жахлівым спараджэннем першабытнага анімізму, несумненна, з'яўляецца вера ў вампіраў, ці, паводле беларускага вымаўлення, вупароў.** Гэтыя страшыдлы вельмі крыважэрныя; асабліва яны любяць кроў чалавечую, але ў выпадку чаго не грэбуюць і крывёю жывёл. Толькі людзі, якія зналіся пры жыцці з нячыстай сілай, ператвараюцца пасля смерці ў вампіраў. Па начах яны прыходзяць у хаты сваіх былых злоснікаў, а часам нават сяброў і сваякоў, кладуцца на грудзі выбранай ахвяры, прыпадаюць вуснамі да яе сэрца і высмоктваюць гарачую кроў.

Пабачыўшы вупара, можна даведацца, кім ён быў пры жыцці, бо асноўныя рысы ён захоўвае і пасля смерці, толькі ў яго вусны раздуваюцца ад частага ссання, а язык робіцца востры, як змяінае джала. Яго вупар і запускае ў грудзі чалавека, а пасля з ранкі высмоктвае кроў. Рана застаецца невялікая, так што яе і не заўважыш, тым больш што вампір яе спрытна засмоктвае. Толькі па бледным твары — як кажа павер'е — можна пазнаць ахвяру хцівасці вампіра. Тады трэба запрасіць дасведчанага чалавека, знахара, каб даведацца, хто гэты вупар. Праўда, для смельчака — гэта справа няцяжкая.

Трэба на ноч схаваць пад збан запаленую васковую свечку, стараючыся, каб свечка не патухла. А пасля поўначы — калі разгульвае нячыстая сіла — трэба часам падымаць збан і асвятляць пакой. Пры нечаканым асвятленні вупара бачна. Тады бі яго наводмаш асінавым паленам. Такім чынам яго можна «аднадзіць» ад гэтай хаты. Але каб канчаткова спыніць яго начныя хаджэнні, для гэтага павер'е рэкамендуе прыгледзецца, на каго з памерлых вядомых чараўнікоў ён падобны. Даведаўшыся, трэба адкапаць труну гэтага чараўніка, адсячы яму галаву і пакласці яе паміж ног, а цела прыбіць да зямлі асінавым калом. Гэта лічыцца радыкальным сродкам супраць вампіра.

*Адам Багдановіч. «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў».*



У роспачы сяляне адправіліся на могілкі і раскапалі магілу. Адкрыўшы труну, усе ўбачылі, што Ларка «ляжыць бокам і правай рукой трымае сябе пад бараду, сціскаючы хустку, завязаную на шыі». Было зразумела, што памерлы знаходзіцца не ў той позе, у якой быў пахаваны. Рыгор Пабойня палез у яму з заступам, каб адсекчы нябожчыку галаву, але так і не наважыўся гэта зрабіць. Адзінае, што ён змог, — прыбраць мёртваму руку ад шыі. У паўпрытомным стане Рыгор вылез, лёг ля магілы і ледзь ачуняў. Але іншы селянін, Канстанцін Авадзень, усё ж такі адсек галаву мерцвяка. Пасля таго яму зноў закапалі і ўсе пайшлі дамоў. І хоць пасля гэтага «хаджэнні» нябожчыка не спыніліся, яны сталі больш рэдкімі і не такімі шкоднымі.

### Вампіры і вупары ў беларускім фальклоры

Апісаны выпадак не быў для таго часу адзінкавым і выключным. У фальклорных матэрыялах часта сустракаюцца легенды пра «блукаючых» мерцвякоў. Фальклárыст і этнограф XIX стагоддзя Павел Шэйн апісаў гісторыю нейкага Дрыгеля з вёскі Ніўкі Мсціжскай воласці Барысаўскага павета, які пасля смерці нібыта часта прыходзіў у свой дом і варочаў прадметы. Каб спыніць гэтыя «хаджэнні», мясцовыя жыхары раскапалі магілу, адсеклі галаву мерцвяка і паклалі яму яе паміж ног.

**Было зразумела, што памерлы знаходзіцца не ў той позе, у якой быў пахаваны**

Мерцвякоў, падобных да вышэйзгаданых Ларкі і Дрыгеля, якія наносілі шкоду людзям або свойскай жывёле, часта называлі вампірамі або вупарамі. Мабыць, таму Ларка Пабойня і атрымаў мянушку Крывасмок, хоць якія-небудзь сведчанні пра тое, што ён высмоктваў кроў у жывых істот, адсутнічаюць. У этнаграфічным нарысе «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў» Адам Багдановіч называў вампіраў жахлівымі ▸

спараджэннямі першабытнага анімізму. Згодна з матэрыяламі іншага этнографа і фальклярыста, Міхала Федароўскага, вупарамі станавіліся людзі, якія прадалі душу чорту, у сувязі з чым пасля смерці яны вымушаныя рабіць тое, што ім загадвае нячысты дух.

Ва ўсходнеславянскай дэманалогіі вупар — гэта перш за ўсё памерлы вядзьмак, чараўнік або ерэтык. Тыя ж перакананні былі пашыраныя ў заходнееўрапейскай традыцыі, дзе прывід і ведзьма з'яўляліся для людзей не проста блізкімі сутнасцямі, а неад'емнымі часткамі адной сістэмы. Аднак, як відаць з апісанага вышэй выпадку, для беларускіх народных павер'яў XIX стагоддзя сувязь паміж вядзьмарствам і «хаджэннем» пасля смерці не была абавязковая.

### Чаму мерцвякі «вярталіся»

Што ж, паводле ўяўленняў людзей, прымушала памерлых «хадзіць»? У справе Ларкі-Крывасмока шматлікія сведчанні, на жаль, не даюць дакладнага адказу. Зыходзячы з наяўнай інфармацыі, можна вылучыць шэраг прычын, але немагчыма вызначыць, толькі адна з іх ці ўсе ў комплексе настолькі паўплывалі на свядомасць і ўспрыманне людзей, што яны паверылі ў «вяртанне» нябожчыка.

Па-першае, згодна са славянскай традыцыяй, прымусіць «хадзіць» памерлага мог асаблівы характар смерці: напрыклад, калі яна была заўчаснай, ненатуральнай або гвалтоўнай. Канкрэтная прычына смерці Ларкі засталася невядомай. Цырульнік, які наведаў селяніна, калі той паміраў, заявіў, што нябожчык быў хворы на сухоты і надзеі




на яго выздараўленне не было. Тое, што нябожчык пры жыцці вылучаўся слабым здароўем, пацвердзілі яшчэ два чалавекі: адміністратар маёнтка і прыходскі святар. Тым не менш для родных Ларкі ягоная смерць усё адно стала нечаканасцю.

За дзень да сваёй смерці Ларка разам з двума селянінамі адправіўся адпрацоўваць паншчыну. Калі вечарам ён так і не вярнуўся, сваякі былі ўпэўненыя, што ён, «схільны да п'янства», пайшоў піць у карчму. Падобнае здаралася не раз, і факт адсутнасці яго ноччу нікога асабліва не здзівіў. Толькі на наступную раніцу занепакоеная Юстына адправілася шукаць мужа, які ляжаў каля дарогі, «цяжка дыхаў, але ўжо нічога не мог вымавіць». Хоць не было ніякай надзеі на тое, што Ларка выжыве, абставіны, якія прывялі да ягонай смерці, засталіся незразумелымі і загадкавымі. Таму сяляне маглі паверыць, што Ларка памёр «не сваёй» смерцю.

Па-другое, згодна з народнымі павер'ямі, мярцвяк мог вярнуцца, калі яго смерць адбылася з парушэннем рытуальных нормаў. Напрыклад, вупарам мог стаць «абдзелены» — гэта значыць чалавек, які памёр без споведзі. Прыходскі святар адмовіўся прыйсці да паміраючага Ларкі Пабойні, спаслаўшыся на хваробу і дадаўшы, што селянін «быў у вялікі пост на споведзі, ды ўжо і не размаўляе, споведзі слухаць не мае магчымасці».

Па-трэцяе, важным для заспакаення душы чалавека з'яўлялася выкананне ўсіх рытуалаў падчас пахавання. Вось



Язэп Драздовіч. **Капліца ў Падгацці.**

як апісвае Павел Шэйн пахаванне селяніна ў тым жа Лепельскім павеце: «Пасля смерці цела нябожчыка пасля благаслаўлення кладуць у дашчаную труну, якую ставяць у ганаровым куце хаты і абапал запальваюць васковыя свечкі. Сваякі, асабліва жанчыны, плачуць, галосяць над нябожчыкам, пераказваючы пры гэтым усе добрыя якасці нябожчыка, як ім было лёгка жыць на свеце, пакуль ён быў жывы, і чаго яны баяцца цяпер, чаго павінны чакаць, застаўшыся без яго. Цела памерлага, не далей як на другі дзень пасля смерці, вязуць для пахавання на найбліжэйшыя могілкі». З улікам таго, што Ларка быў пахаваны ў дзень сваёй смерці, можна з пэўнай доляй упэўненасці сцвярджаць, што ягонае пахаванне прайшло з рытуальнымі парушэннямі. Такое грэбаванне пахавальнымі традыцыямі магло справакаваць яго «вяртанне».

## Следства па справе доўжылася амаль тры гады

Нарэшце, сярод паказанняў сведкаў ёсць згадка пра праблемы бытавога характару, якія ўзнікалі паміж кіраўнікамі сем'яў, што жылі ў адным доме з нябожчыкам. Па словах Рыгора Пабойні, той канфлікт быў уладжаны пасля таго, як кіраўніцтва гаспадаркай ён узяў на сябе, і «праз гэта ніякай адзін да аднаго злосці не мелі».



**Прыход ведзьмака на сялянскае вяселле.**
Васіль Максімаў, 1875 год.

Але дадзеныя словы могуць, хоць і ўскосна, сведчыць, што сяляне разглядалі крыўду і помсту з боку памерлага як магчымыя прычыны яго «хаджэння».

### Як вупарам давалі рады

Існавала некалькі спосабаў пазбаўлення ад «надакучлівых» мерцвякоў. Перш за ўсё, было шырока вядома, што яны вяртаюцца ў магілу, як толькі пачынаюць спяваць пеўні. Мерцвякоў маглі адпудзіць рытуалы і дзеянні рэлігійнага характару: гукі аргана і спевы рэлігійных гімнаў, асвячэнне магілы або месца, куды наведваўся мярцвяк, перахрышчванне пры яго з'яўленні. У выпадку з Ларкам-Крывасмокам падобныя спосабы не былі эфектыўнымі: ні абедні, якія адслужылі святары ў царкве, ні асвячэнне хаты не аднадзілі нябожчыка.

І тады прапаноўваўся радыкальны спосаб — прыйсці на магілу памерлага, адкапаць яго, адсекчы галаву і пакласці паміж ног, а ў цела забіць асінавы кол. Падобным чынам і зрабілі з памерлым Ларкам з вёскі Акуліна.

Ва ўяўленнях сялян вёскі Акуліна вампір у вобразе Ларкі-Крывасмока быў не міфалагічным персанажам, а цалкам рэальнай пагрозай. Усе, хто сведчыў па справе, настойвалі, што перажытыя імі начныя падзеі не маглі быць вынікам наўмысных дзеянняў кагосьці з жывых, што вампір насамрэч існаваў. Тое, з якой зацятасцю яны абаранялі сваю пазіцыю, паказвае, наколькі цвёрдымі былі іх перакананні. Следства па справе доўжылася амаль тры гады, і толькі 4 чэрвеня 1848 года суд прысудзіў, што ўсе сяляне вёскі Акуліна, якія ўдзельнічалі ў разрыцці магілы, павінны быць пакараныя бізунамі за свае «прымхі і забабоны». Колькасць удараў залежала ад ступені ўцягнутасці ў здзейсненае на могілках. 30 чэрвеня 1849 года прысуд быў выкананы. Але наўрад ці зямное пакаранне прымусіла сялян засумнявацца ў слушнасці ўласных дзеянняў у стасунках з містычным. ◆

# Жывая і мёртвая

## Дзве жонкі князя Януша Радзівіла на адным партрэце

**Пра ўнікальны твор са збораў Нацыянальнага мастацкага музея піша мастацтвазнаўца Надзея Усава.**

«Партрэт дзвюх невядомых княгінь» — пад такой назвай гэты твор трапіў у 1939-м у Дзяржаўную карцінную галерэю БССР у Мінску. Ён быў вывезены з Нясвіжскага палаца, калі Чырвоная армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь.

І мінула сорак гадоў, перш чым удалося высветліць, хто на партрэце. За гэты час твор павандраваў: падчас вайны яго вывезлі ў Германію, пасля з-пад Кёнігсберга ён трапіў у Маскву, адкуль толькі ў 1960-м вярнуўся ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Пасля яшчэ на пяць гадоў яго вывозілі ў Маскву на рэстаўрацыю.

Супрацоўніца Эрмітажа Алена Камянецкая высветліла, што на партрэце — Марыя і Кацярына Радзівіл, жонкі гетмана ВКЛ Януша Радзівіла. Адна з іх, Марыя, на час напісання партрэта была жывая. Гэта стала сенсацыяй.

Палатно змяшчае лацінскі подпіс мастака Ёгана Шрэтэра, месца стварэння — Вільня і дату — 1646 год.

Неверагоднае для нас спалучэнне жывых і мёртвых людзей сустракаецца на партрэтах XVI—XVII стагоддзяў, але ў беларускім музейным фондзе такі твор адзіны.

Упершыню партрэт згадваецца ў інвентары 1657 года, складзеным стрыечным братам і спадчыннікам Януша Багуславам Радзівілам:

**Ёган Шрэтэр**

быў нямецкага паходжання. Ён працаваў у Вільні, Гродне, Караляўцы-Кёнігсбергу. Магчыма, у Рэч Паспалітую прыехаў, ратуючыся ад Трыццацігадовай вайны, якая забрала ў Еўропе 8 мільёнаў жыццяў. У Вільні Шрэтэр ажаніўся, займеў дзяцей. Як прафесіянал займаў ганаровае месца сярод мастакоў: працаваў для буйных магнатаў, аздабляў касцёлы. Невыпадкова князь Януш Радзівіл менавіта яму замовіў партрэт сваіх жонак, што прызначаўся, хутчэй за ўсё, для новага палаца Радзівіла ў Вільні, які будаваў архітэктар Ян Ульрых на ўзор знакамітага палаца Фантэнбло ў Францыі.






«Абедзве жонкі нябожчыка Януша Радзівіла на адным партрэце». Глядач падумае, што дама ў чорным — першая жонка Януша, памерлая ў 1642 годзе Кацярына з Патоцкіх. І памыліцца. Шрэтэр напісаў на пярэднім плане ў чорнай сукенцы 21-гадовую Марыю Лупу.

Гэтыя жанчыны ў жыцці не сустракаліся. Але дамы XVII стагоддзя былі прагматычныя і без рэўнасці прымалі суседства памерлай папярэдніцы на партрэце. Быў нават патройны партрэт Радзівіла з жонкамі. Ён не захаваўся, але вядомы нам па акварэлі 1858 года. Януш упарта хацеў бачыць нябожчыцу-жонку побач з жывой на фамільных партрэтах. Навошта? Ёсць некалькі версій.

**Версія першая: інфармацыйная.** «Я, Януш Радзівіл, з жалем паведамляю, што жонкай маёй была Кацярына з Патоцкіх, якая адышла ў лепшы свет, а зараз стала Марыя з роду Лупу», — як бы апавядае гэты партрэт. Партрэты выконвалі ролю гістарычнага дакумента, пацвярджаючы нашчадкам тую ці іншую падзею ў жыцці роду.

**Версія другая: рэлігійная.** «Я, Януш Радзівіл, запэўніваю цябе, Кацярына, што заўсёды буду цябе памятаць як маці маёй ▶

### Гетман Януш Радзівіл

Палякі называлі яго здраднікам за жаданне разарваць унію Вялікага Княства з каталіцкай Польшчай ды злучыцца з пратэстанцкай Швецыяй. Ён жорстка змагаўся з казаччынай, руйнуючы цэлыя гарады, але быў талерантны да габрэяў. Януш ведаў еўрапейскія мовы, няблага маляваў, вучыўся ў нямецкіх універсітэтах, быў паслом у Англіі і Нідэрландах, падтрымліваў пратэстанцкія грамады княства, пасылаў мясцовую моладзь вучыцца за мяжу.

Выявы жывой і памерлай жонкі разам трапляюцца на партрэтах пратэстанцкіх сем'яў XVII стагоддзя. З інвентароў ведаем пра партрэт дзвюх жонак кальвініста Багуслава Ляшчынскага, падканцлера літоўскага. Або гравюра-партрэт нямецкага прынца Атона Гесэн-Касельскага і яго жонак Кацярыны Урсулы і Агнэсы Магдаліны пэндзля Аўгуста Эрыха. Партрэт насычаны сімволікай: жонку-нябожчыцу коле вострай пікай смерць у выглядзе шкілета, побач з жывой жонкай — букет кветак і яблыкі, век якіх, на жаль, таксама непрацяглы.

▶ спадчынніцы і любімай дачкі Ганны Марыі».

**Версія трэцяя: тэрапеўтычная.** Кацярына намаляваная ўсмешлівай: яна ў лепшым свеце, дзе няма пакут і смутку. Спакойныя і ўлагоджаныя выявы памерлых нібы даводзілі жывым, што іх родным-нябожчыкам добра.

У партрэце заўважны кантраст чырвонага і чорнага. Чырвоны колер — гэта і знак вышэйшага стану, і магічны абярэг ад сурокаў. Чорны — колер урачыстасці, але і жалобы, і аскезы. У той жа час чорны і чырвоны — добры дэкаратыўны фон для белых вытанчаных нідэрландскіх карункаў, якія ўвайшлі ў моду пры канцы XVI стагоддзя.

## Каханне з першага погляду

Першая жонка Януша Кацярына, дачка брацлаўскага ваяводы Стэфана Патоцкага, паказаная на партрэце ў сукенцы вытанчанага каралавага адцення з вузкім срэбным паяском і вышыванымі срэбнымі галунамі.

З гісторыі іх адносін выйшаў бы куртуазны раман. Януш Радзівіл закахаўся ў Кацярыну з першай сустрэчы. Але вялікі гетман і апора кальвінізму ў ВКЛ Крыштоф Радзівіл быў супраць шлюбу сына з каталічкай, і Януш пайшоў насуперак волі бацькі. Яны з Кацярынай заручыліся ў 1638-м, пры пасярэдніцтве дзядзькі Януша Альбрэхта Радзівіла. Але той, убачыўшы прыгажуню, сам у яе закахаўся і вырашыў у абыход пляменніка прапанаваць ёй руку і сэрца. Маці нявесты з энтузіязмам успрыняла прапанову багатага, хоць і старога князя і дала згоду, да адчаю закаханых... Але тут умяшаўся кароль — і закаханыя ўз'ядналіся.

Кацярына спрабавала загітаваць мужа ў каталіцтва, але дамаглася няшмат: Януш замяніў кальвіністаў на каталікоў толькі ў яе найбліжэйшым атачэнні. Каталічкай стала і іх дачка Ганна Марыя. Януш пражыў з Кацярынай чатыры гады: у 1642 годзе 23-гадовая княгіня раптам памерла і была пахавана ў Віленскім кафедральным саборы. Несуцешны Януш паўгода не выходзіў у свет, не наведваў каралеўскі двор.

На партрэце Кацярына ўбраная па модзе 1630-х. У яе руках веер, твар і рукі аздобленыя белым карункавым каўнерыкам і манжэтамі.

Яе злёгку захінае фігура другой жонкі — Марыі Лупу, якую звалі Ганарлівай.

## Шлюб па разліку

19-гадовую Марыю Януш упершыню пабачыў на вяселлі. Пра пачуцці не было гаворкі, шлюб мусіў умацаваць Радзівілаў: бацькам Марыі быў малдаўскі гаспадар*, уплывовы Васіль Лупу.

Сватоў да Марыі Януш паслаў, як толькі скончылася жалоба па Кацярыне. Бацька маладой быў згодны, але мусіў спытаць дазволу ў турэцкага султана, васалам якога быў... Справа зацягнулася, але ўрэшце скончылася поспехам: паслам Радзівіла ўручылі партрэт нявесты аўтарства галандскага майстра Абрахама ван Вестэрфельда і каштоўны заручальны пярсцёнак.

Такія партрэты адыгрывалі вялікую ролю ў шлюбных справах. Мастак мусіў дагадзіць і крэўным нявесты, падкрэсліўшы яе прыгажосць, але моцна не перабольшыць, каб жаніх не расчараваўся, пабачыўшы, што нявеста ў жыцці зусім не такая, як на партрэце. Выява Марыі так спадабалася Радзівілу, што Вестэрфельд стаў пасля яго прыдворным мастаком.

Пышнае вяселле Януша і Марыі адбылося ў лютым 1645 года ў малдаўскай сталіцы Ясы і доўжылася 12 дзён. Вянчаў маладых кіеўскі праваслаўны мітрапаліт Пятро Магіла.

Яны пражылі разам дзесяць гадоў. Марыя, працавітая і энергічная, захоўвала і ўсяляк падтрымлівала сваю веру: заснавала Успенскі манастыр у Заблудаве, апекавалася праваслаўнымі цэрквамі. Муж не пярэчыў, нават замалёўваў і апісваў для яе ў паходах праваслаўныя храмы і манастыры.

Марыю мастак паказаў у строгай чорнай сукенцы, але з дарагімі бранзалетамі і пярсцёнкамі. Упрыгожанняў у яе больш, чым у Кацярыны: мастак падкрэсліў яе высокі статус дачкі малдаўскага гаспадара. Яна ўбраная па модзе 1640-х: сукенка з карункавым

* **Гаспадарамі** называлі ўладароў Малдавіі і Валахіі. Прозвішча «Лупу» паходзіць ад румынскага слова «воўк».

## Сармацкі партрэт

Гэты мастацкі жанр быў часткай ідэалогіі сарматызму, якая ставіла шляхту Рэчы Паспалітай вышэй за іншыя станы краіны і вакольныя народы. Сармацкі партрэт быў парадным. Чалавек на ім выяўляўся ў найлепшым адзенні, рэчы вакол яго не толькі характарызавалі асобу, але і паказвалі, да якога стану яна належыць, якое месца ў грамадстве займае.

каўняром, бранзалеты з каштоўнымі камянямі, страусавае пяро ў валасах.

Калі глядзець на партрэт у бакавым святле, на сукенцы бачныя замаляваныя ўзоры шыкоўнага шыцця. Магчыма, сам мастак прыбраў пачатковую версію багатага дэкору? Або пасля смерці мужа ўдава ў жалобе загадала іх зафарбаваць? Пакуль партрэт не прасвецяць рэнтгенам, адказаць цяжка.

## Маці і мачыха

А мо партрэт пісаўся для асірацелай 6-гадовай дачкі Януша Ганны Марыі? На ім маці і мачыха, аб'яднаныя клопатам пра яе — духоўным, «з неба», і рэальным, на зямлі.

Хоць невядома, ці здолела Марыя, фанатычная праваслаўная, стаць другой маці для прыёмнай дачкі-каталічкі. Хутчэй за ўсё, іх жыццё ішло паралельна. І нават калі Януш раптоўна памёр, апекуном яго дачкі стала не мачыха, а стрыечны брат Багуслаў.

Марыя Радзівіл перажыла мужа на пяць гадоў. Яна марна судзілася з князем Багуславам, спрабуючы вярнуць каштоўнасці з свайго пасагу, якія захоўваліся ў скарбніцы Радзівілаў. Адчуўшы набліжэнне смерці, Марыя частку тых каштоўнасцяў адпісала падчарцы. Большую ж частку сродкаў перадала праваслаўным манастырам.

Князь Багуслаў Радзівіл апратэставаў яе завяшчанне, якое ўціскала правы Ганны Марыі.

## Ад Багуслава — у Нясвіж

А потым старэйшы на 20 гадоў апякун закахаўся ў «сваю Ганусю». Хоць, магчыма, меў для яго значэнне і пасаг, які не хацелася аддаваць у чужыя рукі.

Кальвінізм не дазваляў шлюбу між блізкімі сваякамі. Толькі ў 1665-м, калі Ганне было ўжо 25, што лічылася амаль непрыстойным векам для нявесты, Багуслаў наважыўся ажаніцца з пляменніцай. Дзеля вяселля нявеста папрасіла яго парушыць строгасць вопраткі кальвіністаў і замовіла модныя строі з Парыжа. «...Адзенне маладой гарэла агнём, а я быў як дзяцел», — з іроніяй пісаў Багуслаў у дзённіку.

Ганна Марыя памерла ў 27 гадоў, пакінуўшы Багуславу дачку Людвіку. З-за адсутнасці нашчадка мужчынскага полу ўсе фамільныя скарбы біржанскіх Радзівілаў перайшлі да нясвіжскай галіны роду.

**Чытайце таксама:** загадка партрэта Януша Радзівіла (№2 – 2019).

Партрэты з галерэі князя Януша дзвесце гадоў захоўваліся ў Нясвіжы нераспакаваныя. Цікавасць да іх праявілі толькі ў канцы XIX стагоддзя — рэстаўравалі і вывесілі ў палацы. Астатняе мы ведаем...

Цяпер гэты на выгляд просты, але ідэйна складаны партрэт знаходзіцца ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея сярод іншых твораў з Нясвіжскай калекцыі. Ён дагэтуль інтрыгуе мастакоў, якія выкарыстоўваюць яго гісторыю і кампазіцыю для сучасных інтэрпрэтацый. ◆

Дзякую за дапамогу і парады маім калегам — супрацоўнікам аддзела старажытнабеларускага мастацтва Мастацкага музея Алене Карпенка, Юрыю Піскуну, Станіславу Чавусу, а таксама Марыі Дзенісюк, якая ласкава дапамагла адшукаць неабходныя аналагі.

# Ад Pingwina да «Белага полюса»

## беларуская гісторыя марозіва




**Пару месяцаў таму беларускі спажывецкі рынак быў ускалыхнуты з'яўленнем новага марозіва з пялёсткамі васількоў і насеннем лёну ў жытнім кубачку. Прадукт гомельскай фабрыкі адразу ж здабыў папулярнасць, марозіва «Белы полюс» стала ўспрымацца як сімвал Беларусі. З гэтай нагоды мы папрасілі, каб доктар гісторыі Алесь Белы пазнаёміў нас з гісторыяй беларускага марозіва.**



SHUTTERSTOCK, BY ONEINCHPUNCH

Увечары заміж марозіва выкарыстоўваюць граніту; яна таксама астуджае, але менш шкодная, таму што лягчэй растае ў роце; яе ўжываецца вельмі шмат у Італіі, бо для замарожвання ім трэба менш лёду, солі і салетры.

*Вінцэнта Завадская. Кухарка літоўская*

## Родам з Італіі

Гісторыкі харчавання любяць шукаць і знаходзіць карані любых страў у глыбокай старажытнасці. Марозіва — не выключэнне. Дэсерты з садавіны з лёдам, штосьці накшталт прымітыўных *sorbet*, былі вядомыя ўжо ў еўрапейскай антычнасці, іх любілі і Аляксандр Македонскі, і імператар Нерон. Праўда, ад сучасных ахалоджаных малочна-яечных крэмаў гэтыя дэсерты былі яшчэ вельмі далёкія.

У сярэдзіне XVI стагоддзя італьянскія вучоныя-эксперыментатары адкрылі, што калі змяшаць лёд ці снег з дастатковай колькасцю марской солі або салетры, то такая сумесь здольная замарозіць змешчаную ў яе ёмістасць з вадой. Гэты эфект быў апісаны Джамбатыстам дэла Порта ў 1558 годзе і стаў тэарэтычнай асновай для будучага мастацтва вырабу марозіва: дастаткова было дадаць у такую ёмістасць сумесь з садавіны — і можна было лёгка атрымаць «фруктовы лёд». Але на практыцы італьянскія і французскія кандытары пачалі так рабіць амаль праз 100 гадоў, у сярэдзіне XVII стагоддзя. Услед за такім адносна прымітыўным прадуктам навучыліся рабіць *sorbet* з садавіны, а затым і больш блізкае да сучаснага марозіва з вяршкоў, якое трымала форму так доўга, што яго ўжо можна было есці лыжкай.

Моду на марозіва пашыраў двор французскага караля Людовіка XIV, які зрабіў фруктовыя лёды масавай летняй забавай арыстакратыі. У 1676-м марозіва зрабілася галоўным таварам для цэхаў французскіх ліманаднікаў, якіх на той момант у адным Парыжы налічвалася больш за 250 чалавек. А ў XVIII стагоддзі марозіва ў Францыі перастала быць толькі летнім далікатэсам і пачало прадавацца круглы год.

## Далікатэс для арыстакратыі

Усходняя Еўропа адставала ў гэтай індустрыі ад Захаду на шмат дзесяцігоддзяў. Лічыцца, што ў кулінарных кнігах, выдадзеных на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, марозіва ўпершыню згадваецца ў кнізе Войцеха Вялёндкі «Дасканалы кухар» (1783), дзе падаюцца рэцэпты тортаў з марозівам з мясцовых ягад і садавіны: парэчкавым, малінавым, вішнёвым. «Дасканалы кухар» — гэта кампіляцыя некалькіх тэкстаў, перакладзеных з французскай мовы, і ўся тагачасная «субкультура марозіва» ў Рэчы Паспалітай мела выразна французскі (у меншай ступені — італьянскі) імідж.

Слова «лёды» (*lody*), якое з канца XVIII стагоддзя замацавалася ў польскай мове за марозівам, у рукапіснай кнізе з радзівілаўскай кухні *Moda bardzo dobra smażenia różnych konfektów* (каля 1686 года) яшчэ азначала цукровую пену для аздаблення дэсертаў, якая візуальна імітавала лёд.

Ксёндз Енджэй Кітовіч, які пакінуў падрабязнае апісанне побытавых звычаяў у часы панавання Аўгуста III Саксонскага, згадваў таксама і «цукровае марозіва — цукровыя масы з дадаткам вяршкоў, сокаў і г. д., застылыя ў розных фігурах: дыняў, кавуноў і г. д., створаныя майстэрствам кандытараў». Вазы з такім марозівам узвышаліся над сталом часам на паўметра. Праўда, гэтыя прысмакі падаваліся не кожны дзень, а толькі на найважнейшых банкетах.

У часы Кітовіча і Вялёндкі заходнееўрапейскія кандытары ▶



DWORYPOGRANICZA.PL

## А што ж такое лядоўня?

У сучаснай беларускай мове слова «лядоўня» апошнія гадоў 20–25 найчасцей ужываецца ў значэнні «халадзільнік» — як электрабытавая прылада, якая дапамагае ахалоджваць і доўгатэрмінова захоўваць прадукты. А даўней так называлі адмысловыя памяшканні, часам даволі зграбнай архітэктуры, у шляхецкіх маёнтках, дзе прадукты захоўваліся ахаладжанымі або нават замарожанымі дзякуючы тоўстым мураваным сценам і нарыхтаваным узімку вялікім запасам лёду. Да шырокага распаўсюджання «машынак для кручэння лёдаў» у сярэдзіне XIX стагоддзя лядоўні былі неабходнай рэччу для атрымання тагачаснага марозіва.



ФОТА AZARKINM

**Лядоўня ў вёсцы Задзвея** Баранавіцкага раёна.



RACYJA.COM

**Лядоўня ў вёсцы Паўлінава** Баранавіцкага раёна.

ўжо рабілі марозіва са смакамі, якія іх калегі ў нашай частцы свету не маглі нават уявіць: кветак апельсіна, фіялак, ружовых пялёсткаў, міндалю, грэцкіх і лясных арэхаў, шафрану, кавы, карамелі... Да нас усе гэтыя смакі трапяць амаль на 100 гадоў пазней, ужо пасля напалеонаўскіх войнаў.

Мімаходзь згадвае марозіва Адам Міцкевіч у XII кнізе «Пана Тадэвуша»:

А Войскі з думкай,
што зайздроснікаў пагодзіць
Разумным прыкладам,
пачаў ізноў выводзіць
Гісторыю Налібацкую з даўніх часаў
Пра спрэчку Рэйтана
і князя фон Дынасаў,
Але, марожанае скончыўшы і воды,
Усе на двор выходзяць
дзеля ахалоды.
*(Пераклад Пятра Бітэля)*

### На натуральным лёдзе

Марозіва ў Расійскай імперыі (уключаючы Беларусь) першай паловы XIX стагоддзя заставалася яшчэ дастаткова прымітыўным. У яго склад не ўваходзілі некаторыя кампаненты, якія ў краінах-лідарах (Францыя, Італія, Аўстрыя) шырока выкарыстоўваліся яшчэ ў XVIII стагоддзі: найперш, вяршкі і яечныя бялкі, а таксама цынамон*, ваніль і іншыя дадаткі. Сама ж магчымасць зрабіць марозіва залежала ад наяўнасці натуральнага лёду. У заможных шляхецкіх гаспадарках яго можна было ўзяць у лядоўні — з запасаў, зробленых узімку.

Марозіва і роднасныя яму прадукты былі тады 3-х асноўных відаў: 1) сарбета (або шэрбет) — вадкасць, часткова прымарожаная, але яшчэ не зацвярдзелая, якую ўсё-такі пілі, а не елі; 2) «паўмарозіва», або граніта, — параўнальна менш густая маса, прыгатаваная з фруктовых сокаў (у XIX стагоддзі яе ў Расеі часам называлі не зусім дакладным французскім тэрмінам *fromage a la glace* ( «лядовы сыр») і 3) уласна марозіва — густая маса, здольная прымаць розныя формы ў адпаведнасці з пажаданнямі кандытара або заказчыка.

* **Цынамон** — старая беларуская назва прыправы, якую мы часцей называем «карыца».

### «Кручэнне лёдаў»

У сярэдзіне XIX стагоддзя па ўсім свеце пачалі імкліва распаўсюджвацца «машынкі» для вырабу марозіва, заснаваныя на эфекце, адкрытым у Італіі яшчэ за 300 гадоў перад тым. У розных краінах атрымлівалі патэнты на гэтыя ручныя механічныя прылады, больш ці менш падобныя адна на адну: англічане Нэнсі Джонсан у 1843 годзе і Уільям Фулер у 1853-м, расіянін Іван Ізлер у 1845-м і інш. Гэтыя марожаніцы ўяўлялі сабой цэбры або бочкі, запоўненыя лёдам з соллю або салетрай. Унутры марожаніц былі ўсталяваныя

на восі металічныя цыліндрычныя пасудзіны, а ў іх — рамачная мяшалка з шасцю крыламі для збору ледзяной масы са сценак пасудзіны.

Падрыхтаваную па рэцэптах масу — сумесь малака, ягад, вяршкоў, цукру, спецый і г. д., папярэдне астуджаную, — улівалі ў гэтую цыліндрычную банку. Круцячы корбу, ледзяную масу перамешвалі і астуджалі раўнамерна, дзякуючы чаму марозіва набывала кансістэнцыю масла. Корбу круцілі да таго часу, пакуль шчыльнасць марозіва не пачынала замінаць кручэнню, прыкладна 10–15 хвілін. Затым, каб марозіва набыло належны смак і кансістэнцыю, пакідалі «машынку» ў прахалодным месцы на 1–2 гадзіны.

Вандроўныя марожаншчыкі з'явіліся на вуліцах Пецярбурга ў другой палове 1840-х, а неўзабаве яны ўжо зрабіліся абавязковым элементам веснавога і летняга пейзажу ўсіх буйных гарадоў імперыі. Перад сабой прадаўцы халоднага прысмаку штурхалі вазок, у якім стаялі марожаніцы. Прадавец «круціў марозіва» ўручную. Дэсерт накладалі драўлянымі лыжкамі ў посуд пакупніка, у крайнім выпадку — на кавалак хлеба. На адну капейку можна было атрымаць адзін шарык. Часам ужо прыгатаванае марозіва насілі на галаве ў велізарных цэбрах, набітых лёдам, рослыя мужыкі, паставіўшы іх сабе на колца, сплеценае з ручнікоў накшталт чалмы і надзетае на адкрытую галаву або на шапку. Праз плечы ў іх былі перакінутыя ручнікі. Насілі гэтыя цэбры марожаншчыкі вельмі спрытна, часам нават не прытрымліваючы іх рукамі, і гучна-працяжна выкрыквалі: *«Мороженое хорошо!»* або *«Сахарно-морожено!»*. Апошні «слоган» хутка скарацілі да *«Сахар-мароз!»*.



У польскіх скансенах яшчэ можна ўбачыць машынкі **«каб лёды круціць».**

Гэты покліч, «Сахар-мароз!», аднойчы неяк асабліва дапяў нашага славутага паэта Уладзіслава Сыракомлю, які ў 1859 годзе напісаў аднайменны верш — прыкрую сатыру на расійскае панаванне над Літвой, якое пры новым імператары Аляксандры II на пэўны час набыло мяккую, «саладжавую» форму. Мароз наш «лірнік вясковы» атаясамліваў з Сібір'ю — адвечным месцам ссылкі літвінаў-палонных і вязняў і заклікаў не давяраць тым, хто быў зачараваны ягонай падступнай салодкасцю. Як, напрыклад, віленскім літаратарам на чале з Адамам Кіркорам, якія толькі што склалі віншавальны адрас-альбом да новага імператара, чый памяркоўны лібералізм, як хутка высветлілася, не датычыў Літвы. Зрэшты, у чым тут было вінаватае марозіва? Або чыгунка? Або тэлеграф? Проста літоўская шляхта апынулася чужой на гэтым свяце жыцця



**Пецярбургскі марожаншчык 1860-х.** Фотаздымак атэлье *Monstein*.

і прагрэсу, але Сыракомля не здолеў стрымаць роспачы і раздражнення, увасобленых для яго ў замарожаным прысмаку — радасці для іншых-абыякавых.

Выраз «круціць лёды» (*kręcić lody*) доўгі час існаваў і ў польскай мове, і нават (у форме «накруціў лёдаў») набыў іранічна-асуджальны пераносны сэнс: так казалі пра тых, хто на нейкай сумнеўнай справе хутка і не зусім сумленна разбагацеў.

### Марозіва — у масы!

Зрабіўшы пэўны тэхналагічны скачок у сярэдзіне XIX стагоддзя, вытворчасць марозіва ў Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, на доўгі час застыла прыкладна на тым самым саматужным узроўні. На Захадзе ж яна імкліва развівалася — асабліва ў ЗША з-за нацэленасці амерыканцаў на масавую і танную вытворчасць усяго на свеце. Амерыканцы атрымалі найбольш разнастайных патэнтаў у гэтай галіне, ад такіх ▶



Об'явление Народного Комиссариата Финансов Белоруссии.

Вследствие постановления Народного Комиссариата Финансов Р. С. Ф. С. Р. от 3-го мая 1922 г. за № 7353 Наркомфинбел об'являет, что к числу предметов роскоши относится также и мороженое, поэтому лица, производящие мороженое и торгующие им, обязаны выбирать добавочные промысловые патенты на производство и торговлю мороженым, как предмет роскоши.

Наркомфинбел ТАЛУНТИС.
Зав. налог. управл. СМИРНОВ.
Зав. отд. Гос. нал. ПАВЛИНСКИЙ.

На пачатку НЭПа марозіва савецкая ўлада лічыла **прадметам буржуазнай раскошы.**




банальных, як лыжачка для формы з марозівам (Альфрэд Краль, 1897 год), да абсалютна геніяльнага вафельнага ражка, які цалкам выпадкова быў вынайдзены на Сусветным кірмашы ў Сент-Луісе ў 1904 годзе.

### Эскімо Мікаяна

У 1930-я гады імкліва даганяць амерыканцаў кінуўся СССР, дзякуючы ініцыятыве аднаго з самых разумных сталінскіх наркамаў — Анастаса Мікаяна. У 1936 годзе пасля наведвання ЗША і азнаямлення з тамтэйшымі харчовымі тэхналогіямі ён у адной са сваіх прамоў сказаў: «Марозіва варта і можна зрабіць масавым прадуктам штодзённага харчавання, выпускаючы яго па даступных цэнах. Марозіва трэба рабіць улетку і ўзімку, на поўдні і на поўначы». Стараннямі Мікаяна гэтая галіна савецкай прамысловасці імкліва мадэрнізавалася. Тады пачалі вырабляць знакамітае савецкае марозіва-эскімо на палачцы, пакрытае пластом шакаладнай глазуры, якая не толькі паляпшае смак, але і абараняе ад хуткага раставання на спякоце («эскімо» — французская назва арктычнага народа эскімосаў).

У 1937 годзе на Маскоўскім холадакамбінаце №8 імя Мікаяна была ўведзена ў эксплуатацыю ўзорная фабрыка марозіва магутнасцю 25 тон за суткі на амерыканскім абсталяванні. У той самы год масавая вытворчасць найноўшага марозіва пачалася і ў сталіцы Савецкай Беларусі. Захавалася адна з першых рэкламных абвестак навінкі ў «Звяздзе», датаваная 1 лістапада 1937 года — акурат пасля «ночы расстраляных паэтаў». На жаль, часы тады былі такія, што не ўсе грамадзяне Краіны Саветаў змаглі адчуць радасць ад новага масавага прадукту — быццам пацвярджаючы ў чарговы раз сумныя прароцтвы Сыракомлі з верша «Сахар-мароз!».

Калі ў 1932 годзе ў СССР было выраблена ўсяго 300 тон марозіва, то да 1940-га агульны аб'ём вытворчасці вырас больш як у 270 разоў і склаў 82 тысячы тон. У вайну вытворчасць упала ледзь не да нуля, але ўжо да 1950-га даваенная вытворчасць была перакрытая на 16,5%, а ў 1964-м — на 244% (выраблена 282 тысячы тон). У 1980-я гады ў СССР



**Марозіва для старога Хатабыча** — персанажа, створанага фантазіяй віцебскага габрэя Лазара Лагіна (Гінзбурга). Кадр з класічнага савецкага дзіцячага фільма.

**«Беларускае — значыць якаснае».** У гэтым упэўненыя людзі ў Расіі і Украіне. Тамтэйшыя вытворцы і маркетолагі робяць стаўку на беларускую мову — хай сабе нярэдка і калечаную — на ўпакоўцы прадукцыі.




Чалавеку заўсёды здаецца, што ў дзяцінстве марозіва было смачнейшым.
«У Полацку згаданым часам марозіва было трох гатункаў: малочнае за 9 капеек, з вяршкоў — за 13, і эскімо, якое каштавала 11 капеек. Эскімо нам найбольш смакавала. Прадавалі звычайна нейкі адзін гатунак. Яшчэ да адкрыцця шапіка, дзе прадавалі марозіва, збіраўся гурт дзятвы, і мы гучна маракавалі — якое сёння прывязуць, а таксама спрачаліся — колькі можна з'есці за раз. Хаця больш як адну порцыю ніхто з нас не еў. Лічылася, што, калі з'ясі дзве, адразу захварэеш на ангіну. Марозіва, дарэчы, мы заўсёды лізалі. Бо, паводле бацькоўскай версіі, будзеш хапаць ротам — ізноў-такі захварэеш.
Марозіва прывозілі ў вялікіх зялёных скрынях. Унутры ляжаў сухі лёд, і калі скрыню адчынялі, з яе ішла белая пара».

*Вінцэнт Мудроў. Эскімо на палачцы*

НАРКАМХАРЧПРОМ БССР
МЕНСКІ МАЛОЧНЫ КАМБІНАТ
ДА XX ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА
значна расшырае АСАРТЫМЕНТ МАРОЖАНАГА
ВЫПУСКАЕЦЦА
(У ФАСАВАНЫМ ВЫГЛЯДЗЕ)
эскімо, сняжынка, бомбы | арктыка, брыкеты, тарты, (шакаладныя)
(РАЗВЯСНОЕ)
шакаладнае,
цукатнае,
міндальнае
і інш.

Прымаюцца ПАПЯРЭДНІЯ ЗАКАЗЫ з БЯСПЛАТНАЙ ДАСТАЎКАЙ уласным транспартам камбіната ў любой колькасці і асартыменце.
ДЛЯ ВЕЧАРОЎ, БАНКЕТАЎ ДАСТАЎКА БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЦА К ЧАСУ ПА ЖАДАННЮ.
ЗАКАЗЫ ПРЫМАЮЦЦА НА КАМБІНАЦЕ — МАСКОЎСКАЯ, 22, МАГАЗІНАМ «ГАСТРАНОМ» (рог Савецкай і Камсамольскай), МАГАЗІНАМ МАСЛАПРОМ № 2 (Ленінская вул.).
ПА ЖАДАННЮ ЗАКАЗЧЫКА БУДЗЕ ВЫСЛАН НА ДОМ ПРАДСТАЎНІК КАМБІНАТА ДЛЯ АФАРМЛЕННЯ ЗАКАЗУ. Даведкі па тэл. 25-971. МЕНМОЛКАМБІНАТ.

**Рэклама найноўшага савецкага марозіва ў «Звяздзе» 1 лістапада 1937-га**, акурат пасля «ночы расстраляных паэтаў».

Загадка.
У рот просіцца,
у роцэ тае,
Хто паспрабуе,
Той адгадае.

НАРКОМХАРЧПРОМ БССР
МЕНСКІ
МАЛОЧНЫ КАМБІНАТ
Маскоўская, 22.
ДА ПЕРШАМАЙСКІХ СВЯТ
значна павялічыў асартымент
МАРОЖАНАГА
У продажы ёсць:
ЭСКІМО ў шакаладзе,
АРКТЫКА, БРЫКЕТЫ,
ТАРТЫ з марожанага,
марожанае ў развеж.
Прымаюцца папярэднія заказы.
За ўсімі даведкамі звоніць па тэлефонах №№ 22-303, 20-908.
ДЫРЭКЦЫЯ.

выпускалася ўжо больш за 400 тысяч тон салодкага ласунку штогод. У БССР марозіва не было дэфіцытам, яно заўсёды было ў крамах. Але звычайна па чарзе: адзін тыдзень — толькі крэм-бруле, другі — толькі на палачцы ў глазуры. ▶

Цяперашнюю разнастайнасць формаў і смакаў у тыя часы было не ўявіць. Затое тады марозіва строга важыла 100 грамаў, тады як цяпер вытворцы зменшылі вагу і да 80, і да 70-ці.

### На захадзе — сваім шляхам

Сваім шляхам да часу ішло развіццё вытворчасці марозіва ў Заходняй Беларусі, якая да вайны ўваходзіла ў склад Польшчы. Там таксама пастунова ішла мадэрнізацыя, але яна была



**Шкляны выраб гуты «Нёман»,** міжваенны час. З такога посуду тады елі марозіва.





UWAGA! LODY UWAGA!

„PINGWIN"

nie są firmą chrześcijańską

ODPIS.

Cech Cukierników Warszawskich

Do

WARSZAWA, dnia 21 czerwca 1939 r.

CECHU CUKIERNIKÓW w Toruniu

Na pismo z dnia 16-go czerwca uprzejmie zawiadamiamy, że firma „PINGWIN" nie jest czysto chrześcijańską lecz mieszaną.
Łączymy wyrazy koleżeńskiego pozdrowienia

w z. Starszego Cechu
(-) Aleksander Puchalski

Nakład: 500 szt.



**Характэрная адзнака перадваеннага грамадскага клімату:** варшаўскі цэх цукернікаў выпусціў немалым накладам улётку, у якой папярэджваў спажыўцоў, што *Pingwin* — «не зусім хрысціянская» фірма. Сапраўды, гэта была кампанія з пераважна габрэйскім капіталам. Так выглядаў перадваенны «чорны піяр», з яўным прысмакам ксенафобіі.

### «Пінгвін»

У маі кожнага года на вуліцах заходнебеларускіх гарадоў з'явіліся марожаншчыкі з вазкамі.
У вазках стаялі кублы з марозівам, у кантэйнерах з пакрышаным лёдам.
У 1930-х гадах порцыя каштавала каля 10–20 грошаў. Марожаншчыкі накладвалі яго на прастакутную плоскую вафлю, згортвалі яе, выраўнівалі і затым накладалі на гэта другую вафлю. Акрамя звычайнага марозіва, быў вельмі папулярным *Pingwin* — першае прамысловае марозіва на палачцы ў абгортцы. Яго з пачатку 1930-х гадоў імпартавалі са Швецыі, а потым сталі вырабляць мясцовыя заводы Фухса. Цікава, што гэта амаль супала па часе з тэхналагічнымі інавацыямі Мікаяна ў СССР. «Пінгвін» выпускаў марозіва са смакам арэхаў і карамелі з апельсінавымі цукатамі і разынкамі, яно мела выгляд цаглінкі на палачцы, а ўпакаванае было ў пергаментную паперу.
Гэта быў прадукт выдатнай якасці, успаміналі сучаснікі. Адметным знакам гэтай маркі былі пінгвіны.



**Прадаюць марозіва.** Фота з міжваенных часоў: або этнічная Польшча, або Заходняя Беларусь — месца невядомае.



З АРХІВА СЯМ'І ДРОЗД

**Прадавец «лёдаў» у Глыбокім,** 1930-я гады.

справай не дзяржавы, а прыватнага капіталу — па меры таго, як ён назапашваў неабходныя сродкі.

Вытворчасцю «лёдаў» — ды і ўвогуле нешараговай прадпрымальнасцю — у міжваеннай Польшчы асабліва славіліся давыд-гарадоцкія мяшчане. Перад вайной Давыд-Гарадок, які сёння нават не райцэнтр, быў трэцім па велічыні горадам Палескага ваяводства (11 тысяч жыхароў) пасля Брэста-над-Бугам і Пінска. Прыстасоўваючыся да сезону, некаторыя «гарадчукі» ўзімку шылі боты, вясной вырошчвалі і прадавалі насенне, а летам «круцілі» марозіва.

Адзін мясцовы праваслаўны, родам з татараў, трымаў уласныя цукерні з добрым асартыментам марозіва ў Кракаве і Варшаве (сёння мы б сказалі: меў гандлёвую сетку).

А браты Граноўскія з таго ж Давыд-Гарадка фактычна трымалі манаполію на гандаль марозівам у Гдыні. У летні сезон на вуліцы гэтага тады адзінага польскага порта выязджала да 50 вазкоў з іх таварам, напаўняючы прастору крыкамі: «Лёды, лёды!».

Гарадчукі старэйшага і сярэдняга пакалення згадваюць, што вельмі смачнае марозіва рабілі ў Давыд-Гарадку яшчэ і ў савецкі час, аж да 1960-х гадоў. Традыцыі захоўваюцца, і часам нават доўга пасля сыходу людзей, якія іх стварылі. ◆

SHUTTERSTOCK, BY VADL

**Традыцыі захоўваюцца, і часам нават доўга пасля сыходу людзей, якія іх стварылі.**

# Польская вёс на беразе Бас

## З гісторыяй больш чым у паўтар




WIKIMEDIA COMMONS

**Адно з самых незвычайных польскіх паселішчаў у гісторыі мае назву Адампаль, або Паланэзкёй. Незвычайнасць — у тым, што яно было заснавана не на этнічных польскіх землях, а ў Турцыі, непадалёк ад Стамбула, на азіяцкім узбярэжжы праліва Басфор. Піша Сяргей Егарэйчанка.**

Усе нацыі схільныя перабольшваць уласную цярпімасць да іншых народаў і рэлігій і недаацэньваць талерантнасць іншых. Пра гэта ўспамінаеш, калі чытаеш пра гісторыю вёскі Паланэзкёй, якая цяпер ператварылася ў прадмесце 20-мільённага Стамбула.

### Адкуль палякі ў Турцыі

Самім фактам свайго існавання Адампаль быў абавязаны антырасійскаму паўстанню 1830–1831 гадоў, якое ахапіла і беларускія землі. Пасля яго задушэння тысячы кіраўнікоў і простых удзельнікаў паўстання, цудоўна ўсведамляючы свае перспектывы ў новых рэаліях, былі вымушаныя пакінуць зямлю продкаў і адправіцца ў эміграцыю.

Але нямала былых паўстанцаў засталося і на радзіме, дзе яны патрапілі пад рэпрэсіі. У якасці пакарання ўлады Расійскай імперыі адпраўлялі іх на катаргу ў Сібір ці на Каўказ у «штрафбаты», якія дзейнічалі на пярэднім краі баявых дзеянняў. Многія з гэтых людзей трапілі ў чаркескі палон, стаўшы рабамі, якіх выкарыстоўвалі на катаржных працах. Многіх нявольнікаў чаркесы прадавалі сваім адзінаверцам — туркам, і такім чынам яны траплялі на тэрыторыю Асманскай імперыі.

Разам з тым нямала палякаў трапляла ў Турцыю і як вольныя людзі. Традыцыйна Турцыя была супернікам Расійскай імперыі, а таму даволі лаяльна ставілася да яе праціўнікаў, даючы ім прытулак на сваёй тэрыторыі. Праўда, матэрыяльнае



# ка
# сфора
## ра стагоддзя

WIKIMEDIA COMMONS



WIKIMEDIA COMMONS

**На гербе Паланэзкёя — польскі арол і турэцкі паўмесяц.**

становішча такіх эмігрантаў звычайна было вельмі складаным: яны не мелі ні зямлі, ні іншых сродкаў для існавання.

### Вёска імя Адама Чартарыйскага

Сярод былых паўстанцаў, якія пасля паразы эмігравалі ў Еўропу, быў і князь Адам Чартарыйскі, якога многія ў выпадку поспеху выступлення бачылі польскім каралём. Яму была добра вядомая сітуацыя з палякамі ў Турцыі, і як чалавек з выключным палітычным досведам ён паспрабаваў скарыстаць яе ў сваіх інтарэсах.


SHUTTERSTOCK, BY EUPMRT

У 1841 годзе Чартарыйскі даручыў аднаму са сваіх найбліжэйшых паплечнікаў, Міхалу Чайкоўскаму, далікатную місію: той мусіў стварыць у Турцыі пляцоўку для рэалізацыі польскіх стратэгічных мэтаў без прыцягнення ўвагі Францыі, якая вяла сваю палітычную гульню з Расіяй. Пляцоўка мусіла аб'яднаць палякаў-эмігрантаў, якія заставаліся вернымі сваім нацыянальным ідэалам і ўмелі трымаць у руках зброю.

На грошы Чартарыйскага Чайкоўскі выкупіў у туркаў з рабства палонных палякаў, а таксама заняўся пошукамі тэрыторыі для заснавання аўтаномнай польскай дыяспары на Басфоры.

Такая пляцоўка была знойдзена ў Бейкозе, за сто кіламетраў ад Стамбула. У той час яна насіла неафіцыйную назву «Цыганскі табар», бо была месцам, дзе часта спыняліся цыганы. Атрымаўшы дазвол турэцкіх уладаў і фінансаванне Чартарыйскага, Чайкоўскі выкупіў гэтую зямлю і заснаваў там вёску, якая атрымала ў гонар Адама Чартарыйскага назву Адампаль. Неўзабаве на новапрыдбанай зямлі з'явіліся першыя дамы. А афіцыйнай датай заснавання вёскі лічыцца 19 сакавіка 1842 года.

### Без грошай, кніг і жанчын

Нягледзячы на тое, што турэцкі ўрад выдаў адозву да сваіх грамадзян, заклікаючы іх выпусціць на волю палонных за мінімальны кошт, гэта ў выніку каштавала Чартарыйскаму круглую суму. І хоць ініцыятары ▶


FACEBOOK.COM/ADAMPOLPOLONEZKOY/

**Ганна Дахода і Ян Дахода**, пачатак XX стагоддзя. Ян Дахода прыехаў у Адампаль пасля Крымскай вайны ў 1856 годзе і стаў заснавальнікам сям'і Даходаў, якая адыграла значную ролю ў развіцці Адампаля. Ягоныя нашчадкі жывуць у Паланэзкёі і сёння.

▶ стварэння польскай калоніі ў Турцыі неаднаразова заклікалі іншых заможных суайчыннікаў дапамагчы ў яе фінансаванні, тыя зусім не спяшаліся даваць грошы на місію Чайкоўскага. Увесь цяжар фінансавання Адампаля так і давялося несці на сабе Чартарыйскаму, таму грошай катастрафічна не хапала. Першыя пабудовы ў Адампалі нават не мелі падмуркаў.

Сітуацыя была настолькі цяжкай, што з першых дванаццаці пасяленцаў у Адампалі праз некалькі гадоў засталося толькі тры. Але ўжо праз дзесяць гадоў пасля заснавання вёскі справы пачалі крыху лепшаць.

Нягледзячы на камяністую і неўрадлівую глебу, насельнікі Адампаля спрабавалі займацца земляробствам, жывёлагадоўляй і лясным промыслам. Традыцыйна яны спецыялізаваліся на гадоўлі свіней для продажу немусульманам, якія жылі ў гэтым рэгіёне.

Апроч грошай, ім не хапала і шмат чаго іншага. Так, пасяленцы адчувалі востры недахоп кніг на польскай мове, інструментаў і нават... жонак. Вядома, што першымі пасяленцамі былі польскія жаўнеры-мужчыны, у масе сваёй адзінокія. Сітуацыя пачала выпраўляцца толькі ў 1850-х, калі ў Адампаль пачалі прыбываць таксама жанчыны-полькі.

## Росквіт калоніі

Другая хваля іміграцыі палякаў у Адампаль адбылася ў 1856 годзе, пасля Крымскай вайны супраць Расіі. У Адампалі асела некалькі дзясяткаў ветэранаў польскай дывізіі генерала Уладзіслава Замойскага, якая ваявала ў складзе турэцкага войска, а таксама жаўнеры, якія змагаліся супраць Расіі ў шэрагах казацкага палка, створанага Чайкоўскім. У 1859 годзе ў Адампаль дадаткова перасяліліся яшчэ каля дваццаці польскіх эмігрантаў, якія першапачаткова планавалі асесці ў куды больш урадлівым і спрыяльным для жыцця рэгіёне Фесалія — але штосьці пайшло не так.

Паступова паселішча разрасталася. У Адампалі пачалі сяліцца не толькі палякі, але і прадстаўнікі іншых славянскіх народаў. Шматлікую групу ўтваралі казакі. Умовай для новых пасяленцаў-мужчын была прыналежнасць да славянскай сям'і, а таксама вызнаванне каталіцызму. Умовы для жанчын былі нашмат менш жорсткімі, таму з цягам часу ў Адампалі пасяліліся і ўтварылі сем'і не толькі полькі, але і армянкі, грачанкі, казачкі і нават турчанкі.

Нягледзячы на стракаты нацыянальны склад, насельнікаў Адампаля аб'ядноўвалі польская



WIKIMEDIA COMMONS

мова і шанаванне польскіх традыцый. Праз сорак гадоў пасля заснавання паселішча пераўтварылася ў амаль што тыповую польскую вёску. Штодзённая цяжкая праца прынесла свой плён — з цягам часу матэрыяльнае становішча мясцовых жыхароў адчувальна палепшала.

Даволі хутка Адампаль стаў сімвалам польскай эміграцыі. Доўгі час асноўную частку насельніцтва складалі былыя жаўнеры, якія марылі пра барацьбу за незалежнасць Польшчы і выступалі за ўзброеную барацьбу палякаў супраць Расійскай імперыі.

Аднак з часам ваяўнічасць пасяленцаў пачала згасаць. Напрыканцы XIX стагоддзя ў Адампалі жыло каля 150 чалавек, большасць з якіх была людзьмі, якія паспелі пусціць карані на гэтай не надта гасціннай зямлі. Маладыя адампальцы паступова пачалі ўспрымаць Польшчу як прыгожы міф, успрымаючы як сваю малую радзіму менавіта Адампаль.

**Від на Адампаль.** Другая палова XX стагоддзя.

FACEBOOK.COM/ADAMPOLPOLONEZKOY

### Праз выпрабаванні

Завяршэнне Першай сусветнай вайны прынесла адраджэнне незалежнасці Польскай Рэспублікі. Некаторыя жыхары Адампаля скарысталіся з гэтай нагоды, вярнуўшыся на зямлю продкаў, аднак большая частка вырашыла застацца ў сваім новым доме. Іх жыццё ў гэтыя бурлівыя гады не было спакойным. Падчас грэка-турэцкай вайны 1920–1922 гадоў фронт некалькі разоў праходзіў праз Адампаль, жыхары былі вымушаныя хавацца ў Стамбуле. Нягледзячы на тое, што вёска не асабліва пацярпела ў выніку баявых дзеянняў, некалькі дамоў усё ж такі былі спаленыя разам з вясковым архівам. Тры жыхары Адампаля загінулі, апынуўшыся ў нядобрую гадзіну на шляху банды дэзерціраў.

Не дадало спакою жыхарам Адампаля і абвяшчэнне Турэцкай Рэспублікі, якое адбылося ў 1923 годзе. «Бацька ўсіх турак» Мустафа Кемаль будаваў дзяржаву на прынцыпах нацыянальнай еднасці. Польская вёска, жыхары якой падкрэслена вызнавалі каталіцызм і размаўлялі па-польску, шмат каму муляла вока. Даходзіла да таго, што гучалі прапановы перайменавання Паланэзкёя (як афіцыйна называлі Адампаль у Турцыі ад пачатку XX стагоддзя, даслоўна гэта абазначала «Польская вёска») у Кіразкёй («Чарэшневая вёска»). Перашкодзіла гэтаму толькі ўмяшанне польскага пасла. Але турэцкія ўлады ліквідавалі польскую школу і не давалі дазволу на службу ксяндза ў Адампалі.

У канцы 1930-х значная частка жыхароў Адампаля-Паланэзкёя вырашыла, што ў выпадку прыняцця імі турэцкага грамадзянства ўлады пагодзяцца на кампраміс у пытанні культурнай аўтаноміі вёскі. Афіцыйны статус грамадзян Турэцкай Рэспублікі быў нададзены адампальцам у 1938 годзе, аднак урад усё адно не спяшаўся ісці на саступкі ў пытаннях адукацыі і веравызнання. Не змяніла прынцыпова сітуацыі і Другая сусветная вайна. Пасля яе ўлады так і не дазволілі аднавіць польскую школу і душпастарскую дзейнасць ксяндза. Жыхары Паланэзкёя былі вымушаныя задаволіцца душпастарскай місіяй у Стамбуле.

**Брэнд Паланэзкёя няблага прадаецца. У нашы часы гэта адна з папулярных турыстычных мясцін**

У 60-я гады моладзь паступова пачала з'язджаць з роднай вёскі, прагнучы добрай адукацыі і добрых заробкаў. Найбольш папулярнымі кірункамі сталі ФРГ і Аўстралія. ▶

### Турыстычная Мекка

Але пры гэтым і сам Адампаль-Паланэзкёй імкліва змяняўся. У 1960 годзе была пракладзена новая дарога са Стамбула замест старой, разбітай, а ў 1973-м вёска была электрыфікаваная. Змяніўся і сам імідж Адампаля. Яшчэ ў 50-х — пачатку 60-х яго ведалі толькі як даволі паспяховы сельскагаспадарчы цэнтр, але ўжо пры канцы 60-х – пачатку 70-х гадоў вёска стала і значным турыстычным аб'ектам. Тады і многія адампальцы, у тым ліку моладзь, зразумелі, што цяпер няма вялікага сэнсу з'язджаць, калі сам брэнд Паланэзкёя няблага прадаецца. Жыхары Адампаля і прадпрымальныя туркі, якія пачалі масава сяліцца тут, адкрывалі гатэлі, кавярні, рэстараны, месцы для сямейнага адпачынку.

Зрэшты, гэта ўсё цалкам укладалася ў традыцыі Адампаля. Яшчэ ў 1849 годзе Міхал Чайкоўскі пісаў у лісце да Адама Чартарыйскага: «У паселішчы зараз усё ў парадку і ідзе досыць добра, але ў той жа час мы маем вельмі шмат візіцёраў і падарожнікаў, якім не можам адмовіць у гасціннасці, што патрабуе ад нас вялікіх выдаткаў». У розныя часы адампальцы прымалі ў сваёй вёсцы сусветных знакамітасцяў, сярод якіх былі венгерскі кампазітар Феранц Ліст (1847 год) і французскі пісьменнік Гюстаў Флабэр (1850), прэзідэнты Турцыі Мустафа Кемаль Атацюрк (1937) і Кенан Эўрэн (1985), прэзідэнты Польшчы Лех Валенса (1994) і Аляксандр Квасьнеўскі (1996, 2000). Марылі адампальцы ўбачыць на сваёй зямлі і яшчэ аднаго знакамітага суайчынніка, папу Яна Паўла II, які наведваў Турцыю ў 1979 годзе, але былі вымушаныя задаволіцца сустрэчай з ім у Стамбуле.

У нашы часы Паланэзкёй — папулярнае месца адпачынку. Цяпер тут жыве каля чатырохсот чалавек, але толькі траціна з іх — палякі.

Польскай мовай валодаюць толькі прадстаўнікі старэйшага пакаленння, якія з жалем зазначаюць, што *Polonia* знікне ў Адампалі разам з іх смерцю.




Пасля палявання, 1930-я гады. **Паляванне на дзіка было адным з галоўных заняткаў мужчын у Адампалі.**

### Вядомыя людзі, звязаныя з Адампалем (Паланэзкёем)

Як гэта часта бывае, памежжа культур высякае ў людзях інтэлектуальныя іскры.
У Паланэзкёі нарадзілася вядомая турэцкая оперная спявачка Лейла Генджэр (1928–2008), якую называлі турэцкай дзівай. Яна мела польска-літоўскія карані па маці, Аляксандры Ангеле Мінакоўскай, якая пры нараджэнні была нават ахрышчаная паводле каталіцкага абраду, але пасля прыняла іслам.
Пэўны час у Адампалі жыў прадзед па мацярынскай лініі вядомага турэцкага паэта-камуніста Назыма Хікмета (1902–1963) Канстанцін Бажэцкі (1826–1876), які перабраўся ў Турцыю пасля еўрапейскай «Вясны народаў» 1848 года. Пазней ён прыняў іслам, паступіў на службу ў турэцкае войска і быў аўтарам французскамоўнай манаграфіі «Старажытныя і сучасныя туркі».
Таксама ў Адампалі жыла, памерла і пахаваная Людвіка Снядэцкая (1802–1866), жонка Міхала Чайкоўскага. Яна была дачкой вядомага польскага біёлага Енджэя Снядэцкага і каханай жанчынай — праўда, без узаемнасці — славутага паэта Юльюша Славацкага.

Падобна, што ў нечым старажылы Паланэзкёя маюць рацыю, і ўжо ў хуткім часе апошнім аплотам польскасці тут стануць могілкі. Але створаны іх продкамі рамантычны вобраз эміgranцкага паселішча, «апошняй незалежнай польскай гміны», як называлі Адампаль яшчэ ў пачатку XX стагоддзя, доўгі час будзе прываблiваць сюды тысячы турыстаў са ўсяго свету.

На гербе Паланэзкёя побач знаходзяцца польскі арол і турэцкі паўмесяц, польская мова вельмі папулярная ў аздабленні шыльдаў турыстычных аб'ектаў, а мухтарам (старастам) паселішча традыцыйна абіраецца паляк. ◆

# «Халера ясная!»

## Хвароба, якой мы не баімся, але часта ўспамінаем



**Калі б вы апынуліся ў Беларусі часоў паходу Напалеона на Расію і сказалі каму-небудзь, што ў яго «да халеры грошай» і тады «якой халеры ён так кепска апрануты», то вас бы ніхто не зразумеў. Тады гэтай страшнай хваробы, якую пасля назвалі «чумой XIX стагоддзя», у нас проста не ведалі, расказвае Андрэй Вашкевіч.**

### Мутацыя ў дэльце Ганга

Халера — вострае інфекцыйнае захворванне. Выклікае яго халерны вібрыён — бактэрыя, якая звычайна выконвае вельмі важную для экасістэмы планеты функцыю — «з'ядае» дзясяткі мільёнаў тон хіцінавых покрываў рачкоў, якія жывуць у акіяне. Бактэрыя гэта доўгі час была няшкоднай для чалавека, бо з ім мала сутыкалася, але ў пачатку XIX стагоддзя чалавек пачаў актыўна засвойваць цёплыя мангравыя балоты дэльты Ганга, дзе халерны вібрыён жыве ў вялізнай колькасці.

Да таго ж у 1815 годзе выбухнуў інданезійскі вулкан Тамбора, які закрыў сваім попелам планету ад Сонца, і наступныя некалькі гадоў па ўсёй Зямлі былі анамальна халоднымі. Змены клімату і шчыльны кантакт з людзьмі прывялі да таго, што халерны вібрыён перажыў мутацыю і прыстасаваўся да чалавека.

Халерны вібрыён, калі размножыцца ўнутры чалавека, выпрацоўвае магутны таксін, на які арганізм рэагуе выдзяленнем вялікай колькасці вады. У хворага пачынаецца страшны панос. За некалькі гадзін чалавек можа страціць нават 14 літраў вадкасці і памірае ад абязводжвання.

Людзі спачатку не ведалі, адкуль бярэцца халера (вібрыён трапляе ў чалавека праз ваду), і думалі, што ўся справа ў міязмах — смярдзючым паветры. Адным словам — калі не чуеш дрэннага паху, то і не захварэеш. Бактэрыю *Vibrio cholera* адкрыў толькі ў 1855 годзе, пасля трэцяй хвалі пандэміі, італьянскі біёлаг Філіпа Пачыні.

### Прынеслі вайскоўцы

Калі дакладна з'явілася халера на Беларусі — невядома. На суседняй Валыні яе выпадкі фіксаваліся ўжо ў канцы лета 1830 года. Лічыцца, што яе разнеслі па нашых землях расійскія войскі, якія ў пачатку 1831 года былі перакінутыя сюды з Азіі і Прычарнамор'я, каб задушыць паўстанне.

**Хворы за некалькі гадзін можа страціць да 14 літраў вадкасці і памірае ад абязводжвання**

Халера касіла не толькі простых людзей, але і вышэйшых чыноў. У канцы мая 1831 года ад яе памёр пасланы душыць бунт расійскі генерал Іван Дзібіч-Забалканскі (насамрэч немец Ганс Дзібіч), а ў пачатку чэрвеня ў Віцебску халера ўсяго за 15 гадзін забіла брата самога цара Мікалая I, Канстанціна Паўлавіча.

Другі раз халера наведала нашыя землі ў 1848 і 1854–1855 ▶

гадах. Гэта таксама, хутчэй за ўсё, было звязана з тым, што праз нашыя землі праходзіла маса расійскіх салдат, якія ў 1848 годзе душылі «вясну народаў» у Еўропе, а ў 1854-м ішлі на Крымскую вайну.

### Калі халера лютуе

Гэта быў сапраўдны апакаліпсіс. Людзям страшна было бачыць, як чалавек, які толькі ранкам паеў папулярнага «бацвіння», раптам падаў на зямлю і ў страшных муках хутка паміраў. Ідзе сабе чалавек, тут у яго пачынаецца моцны боль у жываце — і літаральна праз некалькі гадзін ён ужо ляжыць на зямлі, высахлы і пасінелы.

Што маглі супрацьпаставіць халеры ўлады? Нічога такога, што сапраўды мела сэнс. Напрыклад, пры ўездах у гарады яны паставілі каранціны, дзе ўсіх вымушалі акурвацца каля спецыяльных вогнішчаў, каб забіць шкодныя міязмы. Каля гэтых акурвальных вогнішчаў часта ўзнікалі бойкі, нават з панажоўшчынай. А ратавацца ад халеры гэта памагала як хваробе кашаль.

Каб змагацца з наступствамі халеры, улады ўвялі інстытут спецыяльных служачых, якіх называлі гіцлямі (у часы Вялікага Княства Літоўскага гіцлем называлі памочніка ката). Гэта былі апранутыя ў чорнае людзі ў масках, якія ездзілі на конях і мелі «на ўзбраенні» доўгі кій з кручком. Калі гіцаль бачыў памерлага ад халеры чалавека, то гэтым кручком чапляў яго і цягнуў да спецыяльнай ямы, куды скідаў цела. Такія халерныя ўзгоркі ў некаторых месцах Беларусі людзі дасюль называюць могліцамі. У гарадах стараліся выдзеліць для пахаванняў нейкія адныя могілкі. Напрыклад, у Мінску ахвяр халеры найбольш хавалі на Залатой Горцы. А паколькі абязводжаны чалавек мог адразу і не памерці, то людзей нярэдка закопвалі яшчэ жывымі.

Эпідэміі халеры зрабілі вялікі ўплыў на беларускую народную мову.

**Адна халера** — тое самае, усё роўна.
**Да халеры** — вельмі шмат.
**Халера яго ведае, халера яго знае** — цяжка сказаць.
**Халера недзе носіць** — знаходзіцца невядома дзе.

У той жа час у многіх выпадках слова **«халера»** (ці яго форма **«халерыя»**) набывае і адкрыта лаянкавы, праклёнлы сэнс. Варыяцый у гэтых праклёнах можа быць безліч, згадаем толькі некаторыя:

**От, халерыя!**
**Каб цябе сплюндрыла, халера!**
**Вось гад паганы, трасца яму і халерыя ў бок!**
**Каб вас халера павыдушвала!**
**Каб цябе халера забрала да чорта ў дупу!**

Пашыранае таксама ў народнай мове і прыслоўе **«халерна»**, якое мае значэнне «вельмі»: **«халерна шмат»**, **«халерна цяжкі»**.



**Іван Дзібіч-Забалканскі** — расійскі генерал, які душыў паўстанне 1830–1831 гадоў. Адна з першых высокапастаўленых ахвяр халеры ў Беларусі.

### Забойствы па «чалавекалюбстве»

Халера ўмомант адрадзіла сярод вяскоўцаў старадаўнія паганскія звычаі і павер'і. Людзей, якія прыходзілі ў вёску і не маглі толкам патлумачыць, хто яны такія, падазравалі ў вядзьмарстве і меркавалі, што яны разносяць халеру. З імі ашалелыя ад страху людзі распраўляліся вельмі жорстка. У некаторых губернях



**Выворванне халеры** падчас эпідэміі ў ваколіцах украінскага Екацярынаслава (цяпер Дняпро).

Расіі прайшлі магутныя халерныя бунты, калі цёмныя людзі забівалі дактароў, разбівалі бальніцы і карэты хуткай дапамогі.

У Беларусі халерных бунтаў не было, аднак на некаторы час нашыя землі быццам вярнуліся ў Сярэднявечча. Адрадзіўся стары звычай, што сімвалічную пошасць у асобе чалавека трэба пахаваць у зямлі разам з пеўнем ды варонаю, тады хвароба адыдзе.

Даследчыкам вядомыя некалькі спраў, калі вяскоўцы закопвалі ў зямлю сваіх знаёмых. У 1831 годзе сяляне вёскі Кавалевічы на Слонімшчыне жыўцом закапалі сялянку Праскоўю Шведаву. Пры гэтым здзейснілі гэты акт адразу адзінаццаць сялян. У 1855-м тая самая гісторыя паўтарылася ў вёсцы Акановічы пад Карэлічамі. Сем сялян, сярод якіх былі нават фельчар ды паліцэйскі сотнік, разам з некалькімі памерлымі закапалі на могілках жывую 70-гадовую сялянку Люцыю Манько. Захавалася даволі падрабязнае апісанне гэтай гісторыі, з якога вынікае, што закапаная жыўцом жанчына ўспрымалася не як ведзьма, якой трэба было перашкодзіць, а як сімвалічная ахвяра, якая цаной свайго жыцця павінна была спыніць хваробу.

Улады каралі злачынцаў даволі мякка, найчасцей




**Разгром халернага барака** ў ваколіцах украінскага Екацярынаслава (цяпер Дняпро).

WIKIMEDIA COMMONS

абмяжоўваючыся біццём бізунамі і царкоўным пакаяннем. У тагачасных дакументах нават сустракаецца выказванне, што сяляне закопвалі людзей у зямлю па «чалавекалюбстве», напоўненыя жаданнем перашкодзіць халеры.

Гэта быў не адзіны яшчэ паганскі звычай. Выкарыстоўвалася «выворванне» халеры пры дапамозе плуга. Сяляне таксама займаліся тым, што ткалі чырвоную нітку, абносілі ёй вёску і ставілі спецыяльны крыж. Такі абхрысціянены паганскі звычай таксама павінен быў абараніць паселішча ад пошасці, якая перакрочыць цераз чырвоную нітку нібыта не магла. Цікава, што на Гродзеншчыне чырвонай ніткай абносілі вёскі яшчэ ў часы апошняй вайны і нават у канцы 1940-х гадоў, у часы ўвядзення калгасаў.



**Дзяўчына да і праз некалькі гадзін пасля з'яўлення першых сімптомаў халеры.** Літаграфія сярэдзіны XIX стагоддзя.

## Не лечаць, а калечаць

Выдадзеная ў Варшаве ў 1849 годзе газета-лістоўка з рэкамендацыямі, як лячыцца ад халеры, сёння чытаецца дзе з усмешкай, а дзе і з жахам.

Першае, што раіла газета: «Мець неабмежаваную веру і спадзяванне на Пана Бога», які, нават насылаючы хваробы, робіць гэта для дабра людзей. Далей пісалася, што найбольш хварэюць п'яніцы і тыя, хто аддаецца граху абжорства, таму трэба менш есці. Трэцяя парада — піць свежую, чыстую, халаднаватую ваду. Пра яе кіпячэнне — ні слова. А гэтая парада проста смяротна небяспечная! Бо халерны вібрыён жыве акурат у свежай вадзе.

Далей рэкамендавалася не прастываць (маўляў, халера бярэцца ад дрыжыкаў) і зрабіць запасы антыхалерычных сродкаў: каменнай солі, хрэну, чорнай рэдзькі і гарчыцы. Калі ж чалавек ужо захварэў і ў яго пачынаецца халерычны панос і абязводжванне, то лячыць яго трэба так. Спачатку даць яму мятных капляў, а калі ад абязводжвання ў хворага пачнуцца сутаргі — трэба расцерці яго цела пярцовай гарэлкай, сумессю на дэнатураце і паставіць гарчычнік на вобласць сэрца, аж пакуль у пацыента «не перастане ціснуць унізе і не пройдзе вялікі сум». ▶

Калі гэтыя сродкі не дапамагалі, то рэкамендавалася абкласці хворага мяшкамі з гарачым пяском, гарачымі цаглінамі або зрабіць яму паравую лазню, абкруціўшы гарачымі мокрымі прасцінамі. Можна было дзейнічаць на кантрасце — абліць чалавека вельмі халоднай вадой, а пасля добра расцерці. Які эфект давала такое лячэнне, можаце здагадацца.

Былі і спецыяльныя парады: парашок для выклікання ванітавання (для і так абязводжанага чалавека) або стаўленне п'явак і кровапусканне. Халернаму хвораму можна было паставіць 20 п'явак за вушы (калі дыханне халоднае), можна было 15 п'явак каля сэрца (калі цісне ў сэрцы) або на жывот. Калі ж п'явак не было, то прапаноўваўся сродак, які прыйшоў хіба што з самых сярэднявечных часоў, — чалавеку на спіне рабілі ножыкам 6–8 надрэзаў і прыкрывалі іх шклянкай, папярэдне паклаўшы туды палаючую паперку. У шклянцы згараў кісларод, і з цела выціскалася шмат крыві.

А самым эфектыўным сродкам ад халеры, як пасля выявілася, было проста ўвесь час даваць хвораму падсоленую гатаваную ваду, каб аднавіць страчаныя запасы вадкасці ў целе.

### Халера як прысуд — 92% смяротнасці

Самыя вялікія страты насельніцтва ў XIX стагоддзі Беларусь панесла ў час вайны 1812 года. Але другое месца ўстойліва займаюць эпідэміі халеры 1831, 1848 і 1855 гадоў.

Колькі памерла жыхароў Беларусі ад халеры ў 1830–1832-м — дакладна невядома. Але несумненна, што лік ідзе на многія дзясяткі тысяч чалавек. Па наступных эпідэміях

## Юваль Ной Харары пра эпідэміі мінулага і будучыні



Многія баяцца, што які-небудзь незнаёмы нам брат Чорнай смерці ўжо падчэквае нас за наступным паваротам. Ніхто не можа гарантаваць, што пандэміі не вернуцца, але ёсць важкія падставы меркаваць, што ў гонцы паміж дактарамі і вірусамі дактары цяпер бягуць хутчэй.
Новыя інфекцыйныя хваробы з'яўляюцца ў асноўным у выніку выпадковых мутацый у геноме патагенных мікраарганізмаў. Гэтыя мутацыі дазваляюць патагенам пераскокваць з жывёл на людзей, прабіваць імунную сістэму чалавека ці станавіцца непрыступнымі для лекаў.
Але дактары год за годам пашыраюць і паглыбляюць свае веды, працуючы над стварэннем усё больш эфектыўных лекаў і метадаў лячэння. У выніку, хоць у 2050 годзе мы, безумоўна, сутыкнёмся з больш жывучымі мікробамі, медыцына да таго часу будзе, хутчэй за усё, здольная даваць ім рады больш паспяхова, чым сёння.
У 2015 годзе дактары абвясцілі аб адкрыцці найноўшага тыпу антыбіётыку — тэіксабактыну, да якога бактэрыі яшчэ не маюць устойлівасці. Шэраг навукоўцаў лічыць, што тэіксабактын можа адыграць пераломную ролю ў барацьбе з высокаўстойлівымі мікраарганізмамі. Медыкі таксама распрацоўваюць новыя, рэвалюцыйныя метады лячэння, радыкальна адрозныя ад ранейшых. Напрыклад, у некаторых эксперыментальных лабараторыях ужо асвойваюць нанаробаты, якія ў адзін цудоўны дзень змогуць падарожнічаць па сасудах, ставіць дыягназы і знішчаць мікробаў і ракавыя клеткі.
Хай у мікраарганізмаў ёсць назапашаны за чатыры мільярды гадоў вопыт барацьбы з арганічным праціўнікам, затое ў супрацьстаянні з біянічным драпежнікам яны пачаткоўцы, і таму ім будзе ўдвая цяжэй стварыць эфектыўную абарону.
Хоць у нас няма абсалютнай упэўненасці, што хваля якой-небудзь новай Эболы або невядомага грыпу не пракоціцца па свеце, несучы смерць мільёнам, усё ж мы не прымем яе як непазбежную прыродную катастрофу. Мы хутчэй палічым яе чыімсьці недаравальным пралікам і запатрабуем пакараць вінаватых. Калі пры канцы лета 2014 года цягам некалькіх страшных тыдняў здавалася, што Эбола бярэ верх над ахоўнікамі сусветнага здароўя, тэрмінова былі створаны камісіі для расследавання. [Былі выяўленыя прычыны, чалавецтва] здолела досыць аператыўна прыняць адэкватныя меры. У чалавецтва ёсць веды і інструменты для прадухілення эпідэмій, і калі яны ўсё ж здараюцца, то гэта вынік чалавечай некампетэнтнасці, а не гневу Божага.
Так што ў бітве з натуральнымі ворагамі, такімі як СНІД і Эбола, чаша вагаў схіляецца на карысць чалавецтва.
Сур'ёзныя эпідэміі будуць пагражаць чалавецтву ў будучыні, мусіць, толькі ў тым выпадку, калі чалавецтва само будзе ствараць іх ва ўгоду якой-небудзь бязлітаснай ідэалогіі. Эпоха, калі чалавецтва было практычна бездапаможным перад прыроднымі эпідэміямі, хутчэй за ўсё, у мінулым.

*Юваль Ной Харары. Homo Deus. Кароткая гісторыя будучыні*



**Суп з бактэрый у адной кроплі вады.** Пад канец XIX стагоддзя бактэрыяльнае паходжанне халеры было канчаткова даказана.

у выпадку Гродзеншчыны ўжо можна зрабіць пэўныя высновы. Даследчык гісторыі і гаспадаркі Гродзеншчыны генерал Павел Баброўскі ацэньваў колькасць памерлых ад халеры ў гэтым рэгіёне ў 1840–1850-я гады больш чым у 13 000 чалавек. Выходзіла, што ў 1848-м і 1854–1855-м смяротнасць ад халеры на Гродзеншчыне складала 11–12% ад усіх смерцяў. У 1855-м па ўсёй Гродзенскай губерні захварэлі на халеру 14 857 чалавек, з іх вылечыліся 9 500, а памерлі 5 357 чалавек.

Нашмат горш было з салдатамі царскай арміі.

Празмерная скучанасць, недахоп чыстай вады і адсутнасць нармальнай каналізацыі прыводзілі да таго, што халера проста выкошвала расійскія батальёны. Напрыклад, падчас паўстання 1830–1831 гадоў расійскія войскі панеслі страты ад хваробы ў некалькі разоў большыя, чым ад куляў і шабляў польскага войска. А калі жаўнер з падазрэннем на халеру трапляў у шпіталь, то лёс ягоны быў практычна вырашаны. Напрыклад, паміж 1848 і 1860 гадамі ў вайсковы шпіталь у Брэсце паступіла 2 988 хворых на халеру салдат, з іх памерла 2 764 чалавекі, а выжыла толькі 224! Смяротнасць склала прыкладна 92 %!

**Паміж 1848 і 1860 гадамі ў вайсковы шпіталь у Брэсце** паступіла 2 988 хворых на халеру салдат, з іх памерла 2 764 чалавекі, а выжыла толькі 224.

Чаму так адбывалася? Салдаты елі з аднаго посуду. Хворых салдат спецыяльна не ізалявалі, трымалі ў вельмі гарачых працепленых памяшканнях (хваробу выганялі потам), лячылі ў асноўным гарчычнікамі і толкам не забяспечвалі чыстай вадой ды мыйнымі сродкамі. Нават сеннікі і пасцельныя рэчы памерлых жаўнераў пасля самага элементарнага прання выкарыстоўвалі паўторна.

Да разумення таго, што халера лечыцца аднаўленнем воднасалявога балансу ў арганізме (чалавеку трэба піць падсоленую ваду), а найперш патрабуе вельмі строгіх санітарных мераў, медыкі прыходзілі павольна, доследным шляхам. Толькі са з'яўленнем у гарадах водаправодаў, а ў медыкаў элементарных ведаў па мікрабіялогіі і санітарыі эпідэміі страцілі аснову для развіцця. Апошні ўсплёск халеры на беларускіх землях меў месца ў 1894 годзе, калі ў неўраджайныя гады ў Беларусь пацяклі людскія патокі з цэнтральнай Расіі. Эпідэмію ўдалося хутка спыніць, але ў некаторых вёсках, напрыклад Багноўцы пад Беластокам, памерлі дзясяткі людзей.

Эпідэмія халеры ў XIX стагоддзі добра прадэманстравала, наколькі безабаронныя людзі перад бактэрыямі, якія муціруюць.

**Эпідэмія ўмомант адрадзіла самыя дзікунскія павер'і. У многіх раёнах Беларусі людзей закопвалі жыўцом, каб «адкупіцца ад хваробы»**

Сёння халера як рэальная праблема беларусамі забытая, але яна пакінула пра сябе памяць у народнай мове. А таксама шматлікіх прыдарожных капліччках і крыжах, на якіх чалавек прасіў Бога, каб той абараніў яго ад «духу смертнага»... ◆

**Першы савецкі перапіс насельніцтва 1926 года зафіксаваў на тэрыторыі БССР амаль 7 тысяч этнічных літоўцаў. У асноўным яны жылі ў вёсках на цяперашніх Магілёўшчыне і Віцебшчыне. Адкуль яны там узяліся і куды пасля дзеліся, піша кандыдат гістарычных навук Юрый Унуковіч.**

Гэта не рэшткі аўтахтоннага балцкага насельніцтва, не да канца выцесненага і асіміляванага падчас засялення тэрыторыі Беларусі славянамі, як, магчыма, той-сёй падумаў. Літоўскія анклавы ва ўсходняй Беларусі ўзніклі ў XIX стагоддзі ў выніку масавых перасяленняў сялян з этнічнай Літвы. А штуршок да гэтага дала адмена прыгоннага права. Яна рэзка павялічыла ўзровень мабільнасці насельніцтва і прывяла да яго масавай міграцыі ў іншыя рэгіёны Расійскай імперыі. Тысячы людзей, натхнёныя адвечнай сялянскай марай пра ўласную зямлю, накіроўваліся туды, дзе была магчымасць яе атрымаць задарма ці купіць танней.

Яшчэ ў 1816–1819 гадах імператарам Аляксандрам I былі падпісаныя ўказы пра скасаванне прыгону ў Эстляндскай, Курляндскай і Ліфляндскай губернях, што падштурхнула мясцовых сялян да першых перасяленняў. Тады следам за латышамі і эстонцамі ў суседнія беларускія губерні пацягнуліся і літоўцы з Ілуксцкага павета Курляндскай губерні. Знакаміты беларускі этнограф і фальклярыст Рамуальд Падбярэскі яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя згадваў у адной са сваіх прац, што «невялікая жменя літоўцаў, невядома якім лёсам, зайшла і пасялілася ў Лепельскім павеце».

**Касцёл Святога Казіміра ў мястэчку Расна** (Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці). Да 1930-х гадоў у ім праходзілі набажэнствы на літоўскай мове. Зачынены і разбураны ў 1937-м. У Расне цяпер жыве каля 700 чалавек.

## Гнаў зямельны голад

Сапраўдны ж бум перасяленняў беззямельных і малазямельных літоўскіх сялян на прасторы Віцебшчыны, Міншчыны і Магілёўшчыны адбыўся ў 1870–1880-х гадах. Гнала іх перанаселенасць сваіх губерняў, а таксама абмежаванні ў набыцці там зямлі для сялян-каталікоў. У той час многія памешчыкі беларускіх губерняў, якія не здолелі эфектыўна весці гаспадарку ў новых, ужо капіталістычных умовах, акурат распрадавалі свае стратныя і занядбаныя фальваркі. Зямля каштавала тут значна танней, чым пад Коўнам. Таму літоўскія сяляне — звычайна гэта былі згуртаваныя аднавяскоўцы — з дапамогай крэдытаў Віленскага і Маскоўскага пазямельных банкаў набывалі выстаўленыя на продаж надзелы і перабіраліся туды.

У асноўным літоўскія сяляне перасяляліся з Вількамірскага, Нова-Аляксандраўскага, Панявежскага паветаў Ковенскай губерні, Віленскага, Троцкага і Свянцянскага паветаў Віленскай губерні, а таксама Ілуксцкага павета Курляндскай губерні. Сяліліся ж яны ў Аршанскім, Быхаўскім, Горацкім, Магілёўскім, Сенненскім, Чавускім і Чэрыкаўскім паветах Магілёўскай губерні, Віцебскім, Лепельскім і Полацкім паветах Віцебскай губерні, Барысаўскім павеце Мінскай губерні.

### Успамінае Валянціна Дзявейкене

Мы, літоўцы, нават і на маёй памяці (а я радзіўшыся ў 1921-м) усе былі [у вачах мясцовых беларусаў] «літоўскія паны». Нашы дзеці былі ў ладных клумпях [драўляных чаравіках], прыгожых жупанчыках, а не ў лапцях, не ў сярмягах, падпярэзаных путамі. Нашы пакоі ім [навакольным беларусам] здаваліся «панскімі». Засцілалі не тымі самымі сярмягамі, у якіх хадзілі апранутыя цэлы дзень, а ўсе мелі пакрывалы, уцепленыя пакуллем. Падкладка — ільняная, а верх найчасцей ваўняны. Мы не ляжалі на раскіданай жытняй саломе — мелі «сеннікі», набітыя сенам, а на іх — прасціны. Наколькі помню, быў і куфар для тканіны, і шафа для таго, каб павесіць лепшае адзенне. Усе мелі ложкі, на вагах [жэрдках, прымацаваных да столі] — калыскі для дзяцей. [У суседніх вёсках] мала ў каго былі ложкі. У іх агульныя «палаткі» — лежакі з шырокіх дошак, дзе ляжыць уся сям'я: бацька з маці, малыя дзеці і сын з нявесткай. Пад тымі «палаткамі» — яма [ток — земляная падлога], а там, калі холадна, авечка з ягнятамі ўнесеная. Хаты малькаўцаў былі з падлогамі.

*Malkavos beržyno šviesa («Святло малькаўскага беразняку»). Vilnius, 2004.*

## Колькі іх было?

Усеагульны перапіс Расійскай імперыі 1897 года налічыў у Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай губернях 6 622 літоўцаў. З іх у гарадах жылі толькі 632 чалавекі (менш за 10%), астатнія былі сялянамі. Найбольш літоўцаў жыло ў Аршанскім і Сенненскім паветах Магілёўскай губерні — адпаведна 1 450 і 797 чалавек. У астатніх паветах іх колькасць вагалася ад 200 да 500 чалавек.

Паводле звестак першага савецкага перапісу насельніцтва 1926 года, у БССР колькасць ►

## Знакамітыя літоўцы — выхадцы з Магілёўшчыны

**Вікенцій Скардзіс (Вінцас Скарджус)** (1897–1967) — гісторык, публіцыст, паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў вёсцы Сафійск (цяпер Магілёўскі раён). Кандыдат гістарычных навук. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Беларускай акадэміі навук, займаўся вывучэннем гісторыі літоўцаў БССР. У 1935 годзе выдаў кнігу «Літоўцы ў Савецкай Беларусі». У 1937-м арыштаваны, у 1938-м асуджаны «асобай нарадай» як член «літоўскай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 5 гадоў высылкі ў Казахстан. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

**Юозас Манюшыс** (1910–1987) — літоўскі савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Малькаўка (цяпер Мсціслаўскі раён). У 1927–1931 гадах вучыўся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме. У 1938-м скончыў Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. З 1967 па 1981 год — старшыня Савета міністраў Літоўскай ССР, у 1981–1985 — дырэктар Інстытута эканомікі Акадэміі навук Літоўскай ССР.

**Марыя Кіндурыце-Сівіцкіне** (1925–2018) — літоўскі філолаг, дыялектолаг. Нарадзілася ў вёсцы Малькаўка. Займалася вывучэннем беларуска-літоўскіх і руска-літоўскіх моўных кантактаў. У 1956-м абараніла кандыдацкую дысертацыю «Літоўская гаворка ў беларускім атачэнні (гаворка вёскі Малькаўка Магілёўскай вобласці)». Выкладала ў Віленскім універсітэце. Брала ўдзел у падрыхтоўцы і напісанні кнігі ўспамінаў і фальклору выхадцаў з вёскі Малькаўка «Malkavos beržyno šviesa» («Святло малькаўскага беразняку»), якая выйшла ў 2004-м у Вільні.

літоўцаў складала 6 864 чалавекі. Гарадское літоўскае насельніцтва складала 2 118 чалавек (31%), сельскае — 4 746 (69%). Першае месца па колькасці сельскага літоўскага насельніцтва займалі Раснянскі раён Калінінскай акругі (536 чалавек), Дубровенскі раён Аршанскай акругі (459 чалавек), Лёзненскі раён Віцебскай акругі (388 чалавек) і Лупалаўскі раён Магілёўскай акругі (319 чалавек). Там літоўцы жылі цэлымі вёскамі, сярод якіх траплялiся даволі буйныя, такія як Сафійск Магілёўскай акругі ці Малькаўка Калінінскай акругі.

Гісторык Вікенцій Скардзіс, сам выхадзец з гэтай супольнасці, налічваў у тагачаснай БССР не менш за 50 літоўскіх вёсак.

**Юозас Манюшыс з вёскі Малькаўка Мсціслаўскага раёна стаў кіраўніком Саўміна Літвы**

### Як вучыліся і маліліся

У часы забароны адукацыі на літоўскай мове, якая была ўведзена ў 1864-м, сярод літоўцаў атрымала пашырэнне патаемнае навучанне ў хатняга настаўніка («дарэктара»), якім звычайна быў самы адукаваны чалавек у вёсцы. Галоўнай мэтай такіх настаўнікаў было навучыць дзяцей чытаць на роднай мове. Асноўнымі сродкамі навучання былі малітоўнікі і іншыя рэлігійныя кнігі, якія кантрабандным шляхам дастаўлялі сюды ксяндзы і кнiганошы з Усходняй Прусіі (гл. пра гэта падрабязней артыкул Сяргея Астанковіча ў №5 «Нашай гісторыі» за 2019 год). У газеце «Цявінес саргас» («Вартаўнік Айчыны»), што выдавалася ў прускім Тыльзіце, паведамлялася пра кнiганошу, які ў канцы XIX стагоддзя двойчы наведваў літоўцаў у ваколіцах Бабінавіч, Сянна, Талачына, Чачэрска, Радамлі і Шклова!

У пачатку XX стагоддзя адбыўся ўздым літоўскага нацыянальнага руху, чаму не ў малой ступені садзейнічала адмена ў 1904-м уладамі царскай Расіі забароны на літоўскі друк лацінскім шрыфтам, а ў 1906-м — на выкладанне ў школах на літоўскай мове. Неўзабаве пасля таго спробы адкрыць літоўскія школы былі зроблены і на ўсходзе Беларусі. У 1906 годзе без дазволу мясцовых улад у вёсцы Малькаўка




Кнігі на літоўскай мове, **выдадзеныя ў Мінску ў 1920–1930-х.**



**Вяселле ў вёсцы Сівіца** (Барысаўскі раён), дзе ўперамешку жылі беларусы, літоўцы і латышы. 1950-я.

Чавускага павета стала працаваць літоўская школа, якая, праўда, у канцы 1907-га была выяўлена і зачынена. Настаўнік, запрошаны з Літвы, актыўна праводзіў нацыянальна-выхаваўчую работу сярод мясцовых літоўцаў. Арганізаваць падобныя школы літоўцы намагаліся і ў іншых месцах.

З забеспячэннем рэлігійных патрэб было прасцей, бо дзяржаўныя ўлады тут асабліва не заміналі. Мясцовыя ж ксяндзы былі настолькі радыя, што літоўцы-перасяленцы папоўнілі паству нешматлікіх каталіцкіх парафій у пераважна праваслаўных усходніх беларускіх паветах, што гатовыя былі ісці насустрач іх пажаданням. Ды і як было не ісці, калі, напрыклад, літоўцы вёскі Малькаўка складалі дзве траціны парафіян Радамльскай парафіі?

Праблемай магло быць толькі неваладанне літоўскай мовай самімі святарамі. Але і яна вырашалася, бо нямала каталіцкіх святароў Магілёўскай дыяцэзіі былі этнічнымі літоўцамі з Ковенскай і Віленскай губерняў. Вядома, што ўжо ў канцы XIX стагоддзя набажэнствы на літоўскай мове праводзіліся ў касцёлах мястэчак Талачын Аршанскага павета і Бобр Сенненскага павета. У іншых касцёлах, як, напрыклад, у мястэчку Бабінавічы Аршанскага павета, набажэнствы па-літоўску адбываліся штонядзелю і на вялікія святы. У касцёлах, парафіі пры якіх налічвалі меншую колькасць літоўцаў, адно набажэнства магло праходзіць на польскай мове, другое — на літоўскай. Такі парадак быў заведзены, напрыклад, у Шклове.

### Паміж камунізмам і традыцыяй

Усталяванне савецкай улады прынесла літоўцам усходняй Беларусі і новыя магчымасці, і новыя праблемы. У межах палітыкі беларусізацыі, якая праводзілася ў Савецкай Беларусі ў 1920-я гады, правa на развіццё ўласных мовы і культуры атрымалі і іншыя нацыянальныя супольнасці. Літоўцы не сталі выключэннем. Стала магчымым адкрыццё літоўскіх школ, выпуск выданняў на літоўскай мове, утварэнне так званых літоўскіх нацыянальных сельсаветаў. Але ўсё публічнае культурнае жыццё было магчыма толькі ў моцна ідэалагізаваным бальшавіцкім рэчышчы: нацыянальным паводле формы, камуністычным паводле зместу.

Першыя дзве літоўскія пачатковыя школы былі арганізаваны ў 1925/26 навучальным годзе ў вёсках Рукшаніцы і Усомля Полацкай акругі. Пасля яны сталі ствараццa і ў іншых літоўскіх вёсках. Да 1933/1934 гадоў колькасць такіх школ дасягнула 12-ці, ▶

# Апошняя літоўка вёскі Суслаўка, 2005 год

## Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці



**Літоўскі малітоўнік канца XIX стагоддзя** ў вёсцы Суслаўка (Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці). 2005 год.

а наведвалі іх больш за 370 вучняў. Пачатковай адукацыяй справа не абмежавалася. Важнае значэнне мела адкрыццё літоўскіх сямігадовых школ у вёсках Малькаўка Мсціслаўскага раёна і Дыманова Лёзненскага раёна. Апошняя ў 1934-м стала поўнай сярэдняй школай і доўгі час заставалася адзінай літоўскай агульнаадукацыйнай навучальнай установай ва ўсім Савецкім Саюзе. Для патрэб літоўскай адукацыі ў 1932 годзе пры Беларускім дзяржаўным выдавецтве быў нават заснаваны асобны літоўскі сектар, які найбольш увагі надаваў выпуску літоўскіх буквароў і падручнікаў.

Аднак камуністычны пафас школьнай адукацыі і яе антырэлігійны характар насцярожвалі набожных літоўцаў, якія не спяшаліся аддаваць сваіх дзяцей у падобныя школы. Літоўскія сяляне наіўна патрабавалі ад камуністаў заснавання такіх школ, дзе іхнія

ФОТЫ ЮРЫЯ УНУКОВІЧА

дзеці маглі б навучацца «пацерам і малітвам». Па-ранейшаму традыцыйным месцам збору для літоўскіх сялян заставаўся касцёл, дзе ў святочныя дні збіраліся літоўцы з самых аддаленых вёсак. Напрыклад, на каталіцкі фэст у тагачасным райцэнтры Расна з'язджаліся літоўцы з Дрыбінскага, Лупалаўскага, Чавускага, Мсціслаўскага і іншых раёнаў.

Нямала літоўцаў збіралася і на рэлігійныя святы ў мястэчку Радамля Чавускага раёна, дзе значную частку мясцовых каталікоў складалі менавіта літоўцы. Літоўцы вёскі Сафійск нават мелі ўласную капліцу, дзе штогод 6 жніўня святкавалі Спас — свята Перамянення Божага. На гэты фэст з'язджаліся літоўцы ледзь не з усёй БССР у колькасці да паўтары тысячы чалавек. Так было да сярэдзіны 1930-х, пакуль мясцовыя касцёлы і цэрквы не пачалі актыўна зачыняць і знішчаць.



**Драўляны крыж на літоўскіх каталіцкіх могілках у вёсцы Малькаўка** (Мсціслаўскі раён Магілёўскай вобласці).

## Свой «Бяржынас»

Да 30-х гадоў літоўская супольнасць усходняй Беларусі амаль не асімілявалася, бо мела магчымасць жыць дастаткова замкнёна, без асаблівых кантактаў з навакольным насельніцтвам. Актывіст літоўскай секцыі Саюза ваяўнічых бязбожнікаў, даследаваўшы ў 1930 годзе літоўскае насельніцтва вёскі Сафійск Лупалаўскага раёна, узрушана адзначаў: «Да рэвалюцыі і ў сучасны час [літоўцы] жывуць у грамадзе, склад якой выключна літоўскі. У вёсцы няма іншых нацый. Нягледзячы на русіфікацыю ў мінулым, мова шмат перамешана з рускімі і беларускімі словамі, але большая частка гаворкі засталася ў поўнай чысціні... Нацыянальная замкнёнасць адчуваецца вельмі моцна. Існуе літоўскі нацыянальны шавінізм, беларусаў называюць "чумокас", што азначае непрыстойнае слова "пастух". Няма сувязяў з беларускай вёскай. Рэлігійнасць вельмі моцная: 6 жніўня праводзіцца трохдзённае мясцовае свята, 25 і 26 снежня ніхто не працуе нават у калгасе, 24 снежня на антырэлігійным вечары літоўцаў было вельмі мала. Усе святкавалі Куццю. Аднекуль атрымліваюць аплаткі».

Але ўпартасць беларускіх літоўцаў не дапамагла, калі з поўным размахам разгарнуўся сталінскі тэрор. Ён прайшоўся па гэтай супольнасці асабліва бязлітасным каткам. Тыя нацыі, якія мелі па-за межамі СССР «буржуазную» дзяржаўнасць, знаходзіліся ў зоне асаблівай рызыкі, іх найпрасцей было абвінаваціць у шпіянажы на карысць гістарычнай радзімы.

Удары сыпаліся адзін за адным. На мяжы 20-х і 30-х гадоў нямала літоўскіх гаспадарак ▶

▸ былі раскулачаныя. Ужо ў 1929–1930 гадах многіх літоўцаў дэпартавалі ў Сібір і на Поўнач. Шмат беларускіх літоўцаў, у першую чаргу інтэлігенцыя, сталі ахвярамі масавых рэпрэсій 1930-х. Таму не дзіўна, што перапіс насельніцтва 1937 года, — вынікі якога адразу былі абвешчаныя варожымі і на паўстагоддзя засакрэчаныя, — зафіксаваў заўважнае скарачэнне колькасці літоўскага насельніцтва ў БССР. Паводле яго, у той страшны год у БССР жыло толькі 5 422 літоўцы, што было на 20% менш, чым у 1926-м. А рэпрэсіі ж пасля таго яшчэ працягваліся.

Пасля вайны многія літоўцы з усходніх абласцей Беларусі, якім пашчасціла ацалець, вярнуліся на сваю гістарычную радзіму ў Літву, якая таксама часова стала савецкай. Выхадцы з літоўскіх вёсак Магілёўшчыны нават заснавалі ў Літве зямляцкі клуб «Бяржынас» («Беразняк»), сябры якога дагэтуль ладзяць сустрэчы, спраўляюць юбілеі, арганізоўваюць вандроўкі ў свае родныя мясціны ў Беларусі. У 2004 годзе ў Літве нават выйшаў зборнік успамінаў і фальклору жыхароў літоўскай вёскі Малькаўка цяперашняга Мсціслаўскага раёна пад назвай «Святло малькаўскага беразняку».


ФОТА ЮРЫЯ УНУКОВІЧА

Касцёл Святых Пятра і Паўла ў Шклове, у сценах якога ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя гучала літоўская мова.

Тыя літоўцы, што засталіся ў Беларусі, у другой палове XX стагоддзя растварыліся сярод беларусаў. У іх не засталося аніводнага грамадскага інстытута, вакол якога можна было гуртавацца і на які абапірацца. Не было ні літоўскай школы, ні касцёла — хоць бы якога, не кажучы пра літоўскі. Літоўцамі людзі сябе адчувалі, пакуль гаварылі па-літоўску. Гаварыць можна было толькі ў сям'і. Але і тут мова знікала за два-тры пакаленні.

У наш час апошнія сляды колішняй літоўскасці ўсё яшчэ можна сустрэць у некаторых раёнах усходняй і цэнтральнай Беларусі: у Малькаўцы (Мсціслаўскі раён), Сафійску (Магілёўскі раён), Суслаўцы (Дрыбінскі раён), Каралёўцы (Чавускі раён), Усомлі (Полацкі раён), Сівіцы (Барысаўскі раён) і іншых. Але, як правіла, жыхары гэтых вёсак літоўскай мовы ўжо не ведаюць, а толькі ўспамінаюць, як на ёй размаўлялі іх дзяды і прадзеды, якія калісьці перасяліліся на беларускую зямлю ў пошуках лепшай долі... ◆

## Найбольш значныя вёскі ўсходняй Беларусі, у якіх жылі літоўцы



# Князі і сяляне:
# першыя беларускія аўтаўласнікі



**Oldsmobile Limited Touring** (ЗША). 1910 год.

**Як аўтамабілі прыйшлі ў Беларусь, піша кандыдат гістарычных навук Андрэй Кіштымаў.**

## Бенц, Пежо, Форд

Ужо перасеклі Еўропу чыгункі, але на вакзал пасажыры ўсё роўна дабіраліся на «аўсяным маторы», не было замены каню. Многія інжынеры спрабавалі выкарыстоўваць для сухапутных экіпажаў паравы рухавік. Часам такія спробы мелі поспех, але, тым не менш, груваcткі ды нязручны ў эксплуатацыі паравік быў непрыдатны для гэтай мэты, нягледзячы на ўсе свае «конскія сілы».

А сучасны аўтамабіль сваім нараджэннем абавязаны з'яўленню кампактнага і ўніверсальнага рухавіка ўнутранага згарання. На права назваць сябе «бацькам» аўтамабіля прэтэндавалі больш за сто чалавек у многіх краінах свету. Гэтая спрэчка не скончана і сёння. Як бы там ні было, у 1885–1886 гадах першыя аўтамабілі з'явіліся ў Германіі (Карл Бенц і Готліб Даймлер), у 1889–1890 — у Францыі (Арман Пежо), у 1892–1893 — у ЗША (Генры Форд).

У Расійскую імперыю першы аўтамабіль — прыплыў. Увосень 1891-га ў адэскім порце выгрузілі двухмесны самаходны экіпаж фірмы «Панар-Левасор» з рухавіком «Даймлер» у 2 конскія сілы (для прыкладу: сучаснае аўто сярэдняга класа мае рухавік магутнасцю 100–200 конскіх сілаў). Яго набыў у Францыі рэдактар газеты «Одесский листок» Васіль Наўроцкі. Праз тры гады на ўласным аўто стаў раз'язджаць адзін маскоўскі купец, а 9 жніўня 1895 года першы аўтамабіль убачылі пецярбуржцы. Гэта быў чатырохмесны «Маторваген» архітэктара Жыгарава. Пры вазе крыху больш за 800 кг гэты аўтамабільчык развіваў хуткасць да 25 вёрст у гадзіну (каля 26,5 км/г).

## 1895

На дарогах Беларусі першы аўтамабіль атрымаў «прапіску» ў 1895 годзе. Менавіта тады Ковенская акруга шляхоў зносін, у якую ўваходзілі і ўсе беларускія губерні, акрамя Магілёўскай, набыла тэхнічную навінку.

Пасля гэтага колькасць аўтамабіляў расла даволі хутка. З'явіліся яны і ў асабістым карыстанні. Нягледзячы на тое, што аўто было дарагім задавальненнем, сярод іх уладальнікаў у Беларусі можна знайсці прадстаўнікоў усіх слаёў грамадства — ад арыстакратаў да сялян. Дзве машыны былі ▸

Калі ў 1901 годзе з-за мяжы ў Расійскую імперыю прывезлі 40 аўтамабіляў на агульную суму 42 тысячы рублёў і 7 матацыклаў на 1 тысячу рублёў, то ў 1911-м — 2717 аўтамабіляў на 9915 тысяч і 1134 матацыклы на суму 315 тысяч рублёў. Прыведзеныя звесткі даюць магчымасць падлічыць, у што абышоўся б у сярэднім свайму ўладальніку новы аўтамабіль або матацыкл.
Сярэдняя цана аўтамабіля выходзіць больш за 3600 рублёў, матацыкла — 277 рублёў. Прытым што сярэдні гадавы заробак рабочага складаў амаль 140 рублёў, а гадавая арэнда кватэры (4–6 пакояў) у губернскім горадзе каштавала 300–500 рублёў.

▶ ў Радзівілаў у Нясвіжы. Два аўтамабілі знаходзіліся ў распараджэнні княгіні Ірыны Паскевіч у гомельскім маёнтку: французскі «Рэно» і амерыканскі шасціцыліндравы «Рэа». Мяркуючы па запісцы аканома, нават у красавіку 1918 года абодва аўтамабілі былі ў спраўным стане, але з адсутнымі запчасткамі, «раскрадзенымі бальшавікамі».

Двума аўтамабілямі — 50-сільным «Мерседэсам», набытым у 1912 годзе, і 20-сільным «Бенцам», набытым на год раней, валодаў гаспадар маёнтка Юстыніянава Дрысенскага павета Іван Грабніцкі. У Мінскім павеце аўтамабілем валодаў селянін Рыгор Ракаў, а ў Віцебскім іншы селянін, Рыгор Церахаў, меў «Бенц» у 16 конскіх сіл.

Не менш стракатым за склад першых уладальнікаў аўтамабіляў быў беларускі аўтапарк. Акрамя вышэйзгаданых марак, у беларускіх гарадах, мястэчках і памешчыцкіх маёнтках можна было сустрэць і нямецкія «Даймлеры», «Опелі» ды «Аргусы», і італьянскія «Фіяты», і амерыканскія «Форды» ды «Олдсмабілі», і французскія «Ларэн-Дзітрыхі», «Панар-Левасоры», «Берліё» ды «Дыён-Бутоны».

## Матацыклісты: машыністы, землямеры, лекары

Сярод уладальнікаў матацыклаў панавала не меншая разнастайнасць. Сярод іх можна было сустрэць машыніста Лібава-Роменскай чыгункі А. Г. Арамовіча з Мінска на матацыкле «Расія» рыжскага завода Лейтнера, віцебскага губернскага землямера Д. К. Рыбчынскага на матацыкле «Тэрод», віцебскага павятовага лекара К. І. Урбановіча на матацыкле маскоўскага завода «Дукс» і шматлікіх іншых грамадзян самага рознага сацыяльнага стану і прафесійных заняткаў.

Сёння цяжка ўявіць, які эфект на абывацеля рабіў цуд тэхнікі, што абыходзіўся без звыклых жывых конскіх сілаў. Як рэагавалі бабруйскія паненкі, бачачы паручнікаў 158-га пяхотнага Кутаіскага палка Лапухіна і Піменава, што раз'язджалі па горадзе на ўласных матацыклах! Зрэшты, бравым армейцам мог скласці канкурэнцыю старадарожскі купец Якаў Ільіч Вейсбрам са сваім трохколавым аўтамабілем «Цыкламер».

Тагачасную сітуацыю са складам аўтамабільнага і матацыклетнага парка можна





Фаэтон Automobilfabrik F. Komnick (Германія), мадэль 1908 года, рэкламаваўся як **«аўтамабіль для турызму»**.





Мінск. **Стаянка таксі каля Аляксандраўскага сквера.**




**Матацыкл маскоўскага завода «Дукс».** 1908 год.

ахарактарызаваць адназначна — нашэсце «іншамарак». Але пры гэтым каля двух дзясяткаў фабрык і заводаў, часам невялікіх майстэрань спрабавалі наладзіць выпуск аўтамабіляў у царскай Расіі. Найбольшых поспехаў дамаглося Аўтамабільнае аддзяленне рыжскага Расійска-Балтыйскага вагоннага завода. З 1909 па 1915 год завод выпусціў каля 1200 аўтамабіляў рознага прызначэння, якія атрымалі прызнанне як у Расіі, так і за мяжой. На беларускіх землях «Руса-Балты» выкарыстоўваліся як машыны вайсковага ведамства і казённых устаноў. Пры гэтым цікава, што пакуль не выяўлена аніводнага прыватнага ўладальніка аўтамабіляў гэтай маркі.

### Першую кнігу пра аўто напісалі ў Баранавічах

Вайскоўцы адразу звярнулі ўвагу на такую навінку, як аўтамабіль. Яшчэ ў 1897 годзе ў Гродзенскай губерні падчас Беластоцкіх манеўраў аўтамабілі прайшлі першую праверку на прыдатнасць да службы.

З 1910 года ў складзе вайсковых чыгуначных батальёнаў еўрапейскай часткі Расійскай імперыі пачалося фармаванне дадатковых аўтамабільных рот. У Беларусі такі чыгуначны батальён з аўтамабільнай ротай размяшчаўся ў Баранавічах.

**Можна сабе ўявіць, як рэагавалі бабруйскія паненкі, бачачы паручнікаў Кутаіскага палка Лапухіна і Піменава, што раз'язджалі па горадзе на ўласных матацыклах**

Менавіта гэтай акалічнасці мы абавязаны з'яўленнем першай кнігі пра аўтамабілі, выдадзенай у Беларусі. Яе аўтар, капітан Арлоў, назваў сваю працу па-вайсковаму дакладна: «Аўтамабільная справа. У дачыненні да праграмы аўтамабільнага класа вучэбнай каманды чыгуначнага батальёна».

Мелі свае аўтамабілі і цывільныя ведамствы. Два 25-сільныя аўтамабілі фірмы «Кейс» належалі Рэчыцкай павятовай земскай управе. Мінскага губернатара на цёмна-сінім «Бенцы» вазіў шафёр Уладзімір Былінін. А 22 кастрычніка 1914 года падчас другога наведвання Мінска імператарам Мікалаем II картэж з некалькіх аўтамабіляў прайшоў ад Брэсцкага вакзала да дома губернатара на Саборнай плошчы. На першым аўто ехаў губернатар Аляксей Гірс, на другім — цар, а далей ішлі аўтамабілі світы.

### Першая аўтааварыя на вуліцы Падгорнай

Цікавая старонка — выкарыстанне аўтамабіля ў якасці грамадскага транспарту. Падобна на тое, што нашы продкі адразу добра зразумелі: «Аўтамабіль — не раскоша, а сродак перамяшчэння». У 1906 годзе мінчук Іван Фёдараў звярнуўся ў гарадскую ўправу з просьбай дазволіць яму перавозку на аўтамабілі пасажыраў. І такі дазвол ён атрымаў.

Але той жа Фёдараў стаў вінаватым у першай вядомай у Мінску аўтакатастрофе. 20 жніўня 1906 года ягоная машына — шасцімесны «Мерседэс» — на Падгорнай вуліцы (цяпер вуліца Карла Маркса) урэзалася ў тэлеграфны слуп. Адбылося гэта на ўчастку паміж цяперашнімі вуліцамі Чырвонаармейскай і Янкі Купалы — на стромкім спуску да парку Горкага. Пасажыраў выкінула на брук, пры гэтым адзін з іх быў смяротна паранены. ▸

▶ Пасля першага, не вельмі ўдалага досведу таксаматорны рух у Мінску аднавіўся толькі ўвосень 1912 года. У 1913-м у распараджэнні мінчукоў было шэсць аўтамабіляў-таксі марак «Оверлэнд», «Дарак», «Мерседэс», «Олдсмабіль», «Форд» і «Опель» магутнасцю ад 20 да 35 конскіх сілаў. Гарадская ўправа прызначыла і спецыяльнае месца стаянкі таксаматораў — ля сквера на рагу вуліц Захар'еўскай і Петрапаўлаўскай, побач з гарадскім тэатрам (цяпер Тэатр імя Янкі Купалы).



WIKIMEDIA COMMONS

## Як з'явіліся маршруткі

У канцы 1913 года мінчук Выгоцкі звярнуўся ў гарадскую думу па дазвол пусціць аўтобус на 20 чалавек для перавозкі пасажыраў па горадзе і ваколіцах. А ўвесну 1914 года паміж цэнтрам горада і Камароўкай (тады — гарадской ускраінай) пачаў курсіраваць шасцімесны маршрутны аўтамабіль. Пачалося выкарыстанне аўтамабіляў і для далёкіх міжгародніх перавозак. Рэгулярныя рэйсы ў пачатку стагоддзя звязвалі Камянец, Жабінку і Брэст; Парэчча і Друскенікі; Ляхавічы, Слуцк, Старыя Дарогі і Бабруйск; Барысаў і Зембін; Пінск і Магілёў; Гродна і Коўна. Акрамя таго, улады выдалі дазвол на адкрыццё маршрутаў Гродна — Сувалкі, Брэст — Слуцк — Бабруйск — Магілёў, Драгічын — Высока-Літоўск — Ружаны — Слонім, Пружаны — Запруды, Янаў — Федзькавічы, Беласток — Баранавічы, Гродна — Ліда, Гомель — Беліца — Чарнігаў, Гомель — Доўск, Гомель — Прапойск (цяпер Слаўгарад), Доўск — Магілёў, Чэрыкаў — Рослаў, Брэст — Ковель.

Найбольш удалым выявіўся досвед арганізацыі міжгародняга руху ў Слуцкім павеце. Да 1915 года там не было чыгункі, а значыць, попыт нашмат апярэджваў прапанову. Па дазвол на адкрыццё руху са Слуцка ў Бабруйск, Старыя Дарогі і Ляхавічы звярнуўся купец 2-й гільдыі Некрыч. Да таго ён меў 20-гадовы досвед эксплуатацыі на гэтых маршрутах конных паштова-пасажырскіх дыліжансаў. Саўладальнікам адкрытага ў маі 1909 года «Прадпрыемства тэрміновых аўтамабільных зносін» стаў слуцкі патомны ганаровы грамадзянін Этынгер.

Як тады былі практычна арганізаваныя аўтобусныя перавозкі і колькі гэта каштавала, пакажам на прыкладзе дзвюх ліній. На лініі Слуцк — чыгуначная станцыя «Старыя Дарогі» (47 вёрст) дзейнічалі тры аўтобусы фірмы NAG (хуткасць да 40 км/г). На лініі Слуцк — чыгуначная станцыя «Ляхавічы» (80 вёрст) эксплуатаваліся 2 аўтобусы фірмы «Дзюркон» (хуткасць да 50 км/г). Яны змяшчалі 6–8 пасажыраў першага класа, 12–15 — другога і 10 — трэцяга. Такса складала, адпаведна, 4 рублі 25 капеек, 3 рублі 35 капеек і 2 рублі 20 капеек.

Многа гэта ці мала? Для параўнання: магілёўскія рамізнікі


**Mercedes-Simplex** (Германія). 1904 год.
PINTEREST.COM




Фаэтон **Berliet Victoria 15 CV** (Францыя). Мадэль 1897 года.

за гадзіну параконнага сэрвісу бралі 40 капеек, аднаконнага — 30 капеек. Столькі ж — за правоз з цэнтра да параходнай прыстані з багажом. Вясной і восенню, падчас бездарожжа, за правоз па небрукаваных вуліцах плату бралі ўдвая большую.

Летам рух ажыццяўляўся штодня з кожнага канцавога пункта. Узімку ўсе рэйсы адмяняліся. Зімовыя дарогі былі занадта сур'ёзным выпрабаваннем для тагачаснай тэхнікі.

Дарэчы, да маршрутчыкаў і за царом ставіліся досыць сурова. Напрыклад, перад Першай сусветнай вайной нейкі Іваноў зрабіў спробу канкурыраваць з Некрычам і Этынгерам на лініі Слуцк – Старыя Дарогі і Слуцк – Ляхавічы. Ён меў намер пусціць па гэтых маршрутах чатыры легкавыя аўтамабілі і адзін грузавы. Аднак яго хадайніцтва Міністэрства шляхоў зносін адхіліла «з прычыны адсутнасці ў просьбіта сродкаў для ажыццяўлення названага прадпрыемства». Тады ж, увесну 1914-га, як чалавеку, «недастаткова забяспечанаму ў матэрыяльным плане», міністэрства адмовіла Моўшу Башыну з Ружанаў. Ён хацеў адкрыць рэгулярны аўтамабільны рух паміж Ружанамі, Пружанамі і Слонімам. Дададмо, што сам просьбіт пры гэтым быў непісьменным.

**Міністэрства адмовіла Моўшу Башыну, які хацеў адкрыць рэгулярны аўтамабільны рух паміж Ружанамі і Слонімам, таму што Башын быў непісьменны**

## Першыя СТА

«Мінск-аўтамабіль» — так назваў свой гараж і майстэрню на рагу вуліц Падгорнай і Петрапаўлаўскай (цяпер Маркса і Энгельса) 38-гадовы інжынер Зыгмунт Свянціцкі. Ён прапаноўваў аўтазапчасткі, шыны і самі аўтамабілі. Кліенты маглі зрабіць замову па тэлефоне. Сваю дзейнасць «Мінск-аўтамабіль» вёў у Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губернях.

Яшчэ адным гаражом з трыма аўтамабілямі і майстэрняй у Мінску валодаў Васіль Цярэшчанка.

У Віцебску продажам і рамонтам аўтамабіляў займаўся афіцыйны прадстаўнік нямецкай аўтамабільнай фірмы «Франц Комнік» з Эльбланга, уладальнік слясарнай майстэрні, германскі падданы Гуга Ленгенфельд.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны ў Беларусі было больш за трыста аўтамабіляў. Па маіх падліках, толькі ў распараджэнні прыватных уладальнікаў Мінскай губерні ў 1910–1915 гадах знаходзілася 32 аўтамабілі і 8 матацыклаў, а ў Віцебску, Віцебскім, Дрысенскім, Лепельскім і Полацкім паветах прыватным асобам належала 25 аўтамабіляў і 18 матацыклаў.

Для параўнання: сусветны аўтапарк у 1913 годзе налічваў 2 мільёны аўтамабіляў, а ў Расійскай імперыі іх было каля 16 тысяч.

Сёння Беларусь — сапраўдная аўтамабільная дзяржава, адна з нямногіх краін свету, якія маюць уласную аўтамабільную прамысловасць. Але не будзем забывацца, што ўвогуле яе аўтамабільная гісторыя пачалася больш за 100 гадоў таму. ◆

# Чаму пасварыліся Міцкевіч і Пушкін

## Сяброўства геніяў перарасло ў спрэчку панславіста з нацыяналістам



Аляксандр Герасімаў. **Аляксандр Пушкін і Адам Міцкевіч.** 1956 год.

**У гісторыі нярэдкія выпадкі, калі прадстаўнікі імперскага народа і паняволенага ў спакойны час сябруюць. Але ў пераломныя моманты жыццё разводзіць іх па розныя бакі барыкадаў. Як у выпадку Аляксандра Пушкіна і Адама Міцкевіча, піша Ганна Севярынец.**

### Сяброўства геніяў

Пушкін сябраваў з Міцкевічам, калі той у 1820-я гады жыў у Пецярбургу. У сяброўстве двух геніяў не было ані зайздрасці, ані суперніцтва, кожны з іх падкрэсліваў веліч іншага. «А ведаеш, брат, гэты паляк заткне цябе за пояс», — сказаў аднойчы Пушкіну паэт Васілій Жукоўскі. «Ён ужо заткнуў мяне», — адказаў Пушкін.

Іншым разам, сустрэўшы Міцкевіча ў модным салоне, Пушкін прыціснуўся да сцяны і ўсклікнуў: «З дарогі, двойка, туз ідзе!» — на што Міцкевіч імгненна зрэагаваў: «Казырная двойка і туза б'е».

А неяк пасярод салоннай гутаркі Міцкевіч спытаўся ў Пушкіна, ці чытаў ён тагачасных літаратурных аўтарытэтаў. Пушкін нікога з названых не чытаў, таму цішком збег з салона. «Не тое дзіўна, што ён нічога не чытаў, а тое дзіўна, што стварыў тое, што стварыў, не чытаўшы», — дзівіўся Міцкевіч. Пушкін праз два дні прыйшоў да яго дадому і папрасіў скласці яму спіс абавязковага чытання.

Але кранальнаму сяброўству прыйшоў канец, калі сябры не паразумеліся ў прынцыповых палітычных пытаннях.

### «Паклёпнікам Расіі»

У верасні 1831 года Пушкін быў, здавалася б, цалкам шчаслівым. Паўгода, як ён законны муж першай прыгажуні Пецярбурга і Масквы Наталлі Ганчаровай. Яны здымаюць дачу. Спакойная і гаспадарлівая Наталля захоўвае творчую цішу вакол мужа. Нарэшце скончаны «Яўгеній Анегін» — восем гадоў працы! Маецца дзяржаўная замова на «Гісторыю Пятра I». Ёсць і служба — гістарыёграфам. Бурлівая маладосць саступае месца цвярозай спеласці. Колішні паэт-бунтар п'е на сняданак каву з вяршкамі і ад коркі да коркі прачытвае афіцыйную прэсу.

Тым часам на захадзе імперыі палае радзіма Адама Міцкевіча. Паўстанцы церпяць паразу, у чэрвені расійскія войскі ўрываюцца ў Вільню, у жніўні яны дасягаюць Варшавы.

Аблога Варшавы выклікала актыўную рэакцыю Еўропы. Усё гучней выказвалі «заклапочанасць» еўрапейскія салоны, лідары

### Клеветникам России

О чем шумите вы, народные витии?
Зачем анафемой грозите вы России?
Что возмутило вас? волнения Литвы?
Оставьте: это спор славян
между собою,
Домашний, старый спор,
уж взвешенный судьбою,
Вопрос, которого не разрешите вы.
Уже давно между собою
Враждуют эти племена;
Не раз клонилась под грозою
То их, то наша сторона.
Кто устоит в неравном споре:
Кичливый лях, иль верный росс?
Славянские ль ручьи сольются
в русском море?
Оно ль иссякнет? вот вопрос.
…
Бессмысленно прельщает вас
Борьбы отчаянной отвага —
И ненавидите вы нас...
…
Иль русского царя уже
бессильно слово?
Иль нам с Европой спорить ново?
Иль русский от побед отвык?
Иль мало нас? Или от Перми
до Тавриды,
От финских хладных скал
до пламенной Колхиды,
От потрясенного Кремля
До стен недвижного Китая,
Стальной щетиною сверкая,
Не встанет русская земля?..
Так высылайте ж к нам, витии,
Своих озлобленных сынов:
Есть место им в полях России,
Среди нечуждых им гробов.

меркаванняў падтрымлівалі паўстанцаў. У іх ліку быў і Міцкевіч, які яшчэ ў 1829-м выехаў з Пецярбурга ў Еўропу.

А ў расійскім друку ў гэты час з'яўляецца рэзка антыеўрапейскі верш Пушкіна «Паклёпнікам Расіі». Паэт у катэгарычнай форме адмовіў еўрапейскім палітыкам у праве ўмешвацца ў «спор славян между собою», сцвярджаючы, што для Расіі гэта пытанне жыцця і смерці («славянские ль ручьи сольются в русском море? оно ль иссякнет? вот вопрос»). Калі ж Еўропа вырашыць умяшацца, паслаўшы на дапамогу палякам войскі, то, маўляў, «есть место им в полях России, среди нечуждых им гробов».

### «Пушкін мне так згідзеў»

У пачатку 1830-х расійская інтэлектуальная эліта не была суцэльна праімперскаю. Таму і пазіцыя Пушкіна ў «польскім пытанні» не была прынятая з безумоўным захапленнем. Палова пецярбургскіх салонаў зачыніла перад ім дзверы. Унучка фельдмаршала Кутузава Дар'я Фікельмон дэманстратыўна адмовілася вітацца з ім. Былыя дзекабрысты Грыгорый Рымскі-Корсакаў і Мікалай Тургенеў заявілі, што больш не будуць набываць кніг паэта. А публіцыст Мікалай Мельгуноў з горыччу ўсклікнуў: «Пушкін мне так згідзеў як чалавек, што я страціў да яго павагу нават як да паэта».

Нават найбліжэйшы сябар Пушкіна, князь Пётр Вяземскі, напісаў яму: «Як засмуцілі мяне гэтыя вершы! Улады, дзяржаўны парадак часта павінны выконваць сумныя, крывавыя абавязкі, але ў Паэта, дзякуй Богу, няма абавязку іх апяваць».

Праўда, не менш было ў Пецярбургу і тых, хто ў захапленні пляскаў Пушкіну ў ладкі. «Вось вы, нарэшце, і нацыянальны паэт», — напісаў яму легендарны філасаф і скандаліст Пётр Чаадаеў. Лагодна нарэшце паглядзеў на былога ліцэіста-хулігана і імператар Мікалай I.

### Пушкін і Міцкевіч: ідэалагічная дуэль

Брашура з антыпольскімі вершамі Пушкіна і Жукоўскага з'явілася ў верасні 1831-га. Неўзабаве ў Пецярбургу пачалі хадзіць па руках вершы Міцкевіча «Аляшкевіч» і «Помнік Пятру Вялікаму», напісаныя ў адказ. У іх паэт абрынуўся на рускую імперскасць з усёй горыччу літвіна: «Бог зрынуў калісь асірыйскі трон, змяшаў з зямлёю грэшны Вавілон». Пецярбург ён называў горадам, дзе кіруе сатана.

Пушкін не замарудзіў з рэакцыяй, напісаўшы знакаміты верш «Ён паміж намі жыў». Паэт наўпрост звяртаўся да Міцкевіча і заклікаў яго марыць пра тое, як «народы, распри позабыв, в счастливую семью соединятся». Міцкевічу такая ідэя не была чужой. Але для яго яна была марай аб усеагульнай роўнасці народаў, для Пушкіна ж — марай пра тое, як усе славянскія ручаі зліюцца ў адзіным рускім моры.

Дый славутая паэма Пушкіна «Медны коннік» была фактычна разгорнутым адказам Міцкевічу. На старонках яе чарнавікоў трапляецца намаляваны ▶





**Выява Міцкевіча, зробленая рукой Пушкіна на палях рукапісу.**

профіль Міцкевіча, паміж старонак закладзеныя пераклады Міцкевічавых паэм і рукапісы тых самых «антырускіх» вершаў, прысвечаных «сябрам-маскалям», найперш самому Пушкіну.

Маладое сяброўства геніяў перарасло ў напружаную спрэчку панславіста з нацыяналістам. Асабістых адносінаў між імі больш не было. У 1830-я Міцкевіч стаў палітычным уцекачом: парушыўшы рэжым высланага, ён збег з Расіі ды жыў у Парыжы. Ліставацца з ім Пушкін, пошта якога заўсёды перлюстравалася ледзь не самім імператарам, не мог. Адзіным спосабам абмеркаваць несупадзенне поглядаў для іх засталіся вершы. Яны імгненна рабіліся вядомымі, кожны з паэтаў ведаў: думка, выказаная вершам, абавязкова дойдзе да іншага.

Гэта было важна як для Пушкіна, так і для Міцкевіча: абмяняцца думкамі і пераканаць адзін аднаго.

Але паэты ўсё далей разыходзіліся светапоглядна. Пушкін разважаў над пытаннямі даўнейшай гісторыі славян і ўсё глыбей схіляўся да панславізму і манархізму. Сакраментальнае «самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць» цяпер было для яго прымальнай формулай існавання моцнай дзяржавы рускіх — і астатніх славянскіх народаў. Міцкевіч таксама эвалюцыянаваў у сваіх поглядах: колішні палымяны патрыёт «Літвы», завяршаў жыццё ён зацятым польскім нацыяналістам.

Але калі ў 1837 годзе да Францыі данеслася трагічная вестка пра смерць расійскага генія, іншы геній адгукнуўся на яе прачулым некралогам. А падпісаны ён быў: «Сябар Пушкіна». Паміж геніямі — свае рахункі.

«О, як гэты раз’юшаны шавініст ненавідзеў непакорныя Расіі народы! Як ён марыў прыбраць іх пад скіпетр расейскага цара!..
І ніхто з абаронцаў гэтага “Цуда-юда” не мае права сказаць, што ён сапраўды не такі, што гэта выпадковыя радкі ў яго творчасці. Не, далёка не выпадковыя! Выпадковымі можна лічыць у яго якраз такія думкі, якія мы называем дэмакратычнымі, свабодалюбівымі».

З дзённікаў Міхала Дубянецкага, аднаго з вядучых беларускіх інтэлектуалаў 1970–1980-х, які працаваў інструктарам сектара друку ЦК КПБ, а пасля дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

### Чаму так сталася?

У гісторыі бывае, што юны бунтар і пясняр свабоды праз гады апынаецца ля трона, каб складаць «шынельныя оды». Кагосьці ламаюць, а да некага каштоўнасці моцнай патрыярхальнай улады прыходзяць негвалтоўна, разам з дарослым, кампрамісным і няпростым жыццём.

Пушкін усё жыццё трымаў руку на пульсе «польскай праблемы». Не толькі з-за Міцкевіча. Пытанне было на вастрыі часу: Пушкін нарадзіўся праз чатыры гады пасля паўстання Касцюшкі, а загінуў паміж яшчэ двума паўстаннямі. Ды і сур’ёзная цікавасць Пушкіна да гісторыі Расіі непазбежна выводзіла яго на «літоўска-польскае» пытанне: з нескаронаю Літвой ён сутыкнецца, калі будзе пісаць «Барыса Гадунова». Праблема зусім не братэрскіх адносін паміж славянамі паўстане перад ім і падчас працы над паэмай «Палтава».

Сваёй «рускасцю», крэўнай уключанасцю ў рускую гісторыю праз продка, імператарскага ўлюбёнца Абрама Ганібала, Пушкін надзвычай ганарыўся. Ён быў сапраўды рускім патрыётам — і сёння не задумаўся б, адказваючы на пытанне, «чый Крым». Ён дбаў пра веліч і моц Расіі і ў творчасці. Жанравая і тэматычная беднасць, другаснасць тагачаснай рускай літаратуры былі ягоным штодзённым клопатам.

Пушкін усведамляў сябе нацыянальным геніем — без аніякай сарамлівасці. Таму, думаецца, для яго было важна ва ўсіх замежнапалітычных пытаннях займаць «прарускую» пазіцыю.

Адзначым яшчэ: доўгая праца ў архівах з пугачоўскай і пятроўскай тэмамі, досвед галавы вялікай сям’і, памятныя з маладосці няўдачы рамантычнага супрацціву ўладам і досвед кампрамісаў з імі (за паслухмянасць Пушкін атрымліваў адносную свабоду выказвання) — усё гэта, відаць, і вызначыла кірунак ягоных «польскіх» думак. У сваім панславізме Пушкін быў абсалютна шчырым — і ў той жа час «паднявольным»: адчуваць сябе выразнікам думак і спадзяванняў цэлага народа няпроста. ◆

Не толькі Пушкін трапляў у скандалы, звязаныя з «польскім пытаннем». Шырока вядомы выпадак з Мікалаем Някрасавым, які публічна чытаў оду Мураўёву-вешальніку, апяваючы «разумную» жорсткасць віленскага генерал-губернатара. Часопіс Някрасава «Современник» знаходзіўся пад пастаяннай пагрозай закрыцця. Магчыма, так рэдактар хацеў яго ўратаваць. Пасля оды Някрасаву зладзілі абструкцыю: студэнты рвалі на кавалкі яго партрэты, сябры публічна асуджалі. На думку біёграфа Някрасава Карнея Чукоўскага, выпадак з одай Мураўёву скараціў жыццё паэта.

# Верны пудзель Магілёў

## Чаму сабаку герцага Энгіенскага звалі ў гонар беларускага горада



**— Магілёў, давай, скокні да мяне! — выцягнуўшы рукі праз рашотку, крычаў Стэнлі Іпкіс, герой Джыма Керы ў фільме «Маска», свайму разумнаму і вернаму джэк-расэл-тэр'еру. — Ну, давай, Магілёў!.. У заходнім свеце гэта мянушка зусім звычайная. І як у кожнай мянушкі, у гэтай ёсць гісторыя, расказвае гісторык Аляксей Бацюкоў.**




Герцаг Энгіенскі Луі Антуан быў апошнім прадстаўніком роду Кандэ з малодшага адгалінавання Бурбонаў. Адразу пасля ўзяцця Бастыліі герцаг эмігруе і будзе ваяваць на баку контррэвалюцыйных сіл. Неаднаразова адзначаны за асабістую мужнасць, ён выходзіць на сціплую пенсію. Бярэ шлюб з пляменніцай колішняга французскага кардынала Рагана, у сядзібе якога і будзе жыць — у бадэнскім гарадку Этэнхайм, каля самай мяжы з Францыяй.

Менавіта тады ў сям'і герцага з'яўляецца верны сябар — пудзель *Mohiloff*, падарунак шведскага караля. Чаму шведскі кароль даў менавіта такое імя пудзелю, здагадацца лёгка. Гэта была даніна павагі легендарным продкам, заваяванні якіх дасягалі самых глухіх краёў Еўропы, і іх геаграфічныя арыенціры як трафеі клаліся ў супольную памяць нашчадкаў вікінгаў. Пудзелі ў той час былі папулярнай пародай. На французскі манер сабачку сталі зваць Маілё.

Герцаг Энгіенскі з верным Магілёвам надзіва шмат падарожнічаў па прыфранцузскіх землях як для чалавека, які адмовіўся ад амбіцый і дажывае век на пенсію ад англійскага ўрада. Да таго ж, таемныя агенты даносілі пра сакрэтныя сустрэчы герцага з невядомымі, загадкавыя ад'езды з дому на 10–12 дзён... І французы знайшлі гэтаму тлумачэнне. Высілкамі легендарнага інтрыгана Шарля Талейрана герцагу прыпісалі ролю таго самага Бурбона, якога раялісты меркавалі паставіць на чале Францыі, забіўшы Напалеона.

Талейран пры гэтым цудоўна ведаў, што насамрэч герцаг Энгіенскі ездзіў да каханкі. Адсюль і налёт загадкавасці, з якою ён пакідаў мілую кампанію жонкі і яе дзядзькі.

Напалеон тады яшчэ меў рэпутацыю рамантычнага выратавальніка рэвалюцыі. Але ён востра ўспрымаў сваю другаснасць у параўнанні з прынцам па крыві. І паўсюль бачыў здрады. Чуткі пра ўдзел

герцага ў змове правакуюць Напалеона на жорсткае рашэнне. У Бадэн адпраўляецца атрад з 300 французскіх драгунаў, якія арыштоўваюць герцага Энгіенскага і вывозяць у Францыю. Пазней Напалеон у адказ на папрокі расійскага імператара Аляксандра I будзе зласліва пярэчыць.

«Я хачу вас пераканаць, — перадасць праз Талейрана Напалеон, — што калі б вы, шаноўны сябар, ведалі, што дзесьці за расійскай мяжой знаходзяцца забойцы вашага бацькі, і перасеклі б мяжу, каб арыштаваць іх, дык я б вам не пярэчыў». Гэта быў каласальны ўдар па сумленні расійскага імператара, які ў свой час з захапленнем прыняў уладу з рук забойцаў уласнага бацькі — дагэтуль набліжаных прыдворных.

Арыштаванаму герцагу Энгіенскаму прапанавалі ўзяць у доўгае падарожжа да Парыжа двух сяброў, але хто мог быць даражэйшы, чым верны пудзель Магілёў?

Усяго некалькі дзён падарожжа, хуткі суд — без адваката і суддзяў. Ваенны трыбунал. Герцаг асуджаны на смерць. Тыя з удзельнікаў, што хоць крыху захавалі розум, галосяць: паглядзіце — у Парыж са змоўшчыкамі ездзіў сустракацца зусім іншы чалавек. Герцаг Энгіенскі напісаў Напалеону ліст: «Пачытайце. Нарэшце, проста не спяшайцеся!»

Але адразу пасля суда, ноччу, Антуана Энгіенскага, Бурбона, вывелі пад сцены Венсэнскага замка на расстрэл. Побач, перад падрыхтаванай магілай, сядзеў верны пудзель Магілёў.

Салдатам было нязручна цэліць у цемры, то герцага папрасілі трымаць у руцэ запалены ліхтар.

«Дзякуй Богу, — сказаў пры канцы жыцця герцаг, — я паміраю як воін».

І сам скамандаваў салдатам: «Плі!»



Некалькі дзён потым сабачка прасядзеў каля магілы апошняга з роду Кандэ. Яго нарэшце забярэ да сябе камендант замка. Неўзабаве ў пудзеля пачнецца ўласнае літаратурнае жыццё. Раялісты будуць пісаць шчымлівыя апавяданні пра трагічную ноч у Венсэнскім лесе. Сярод персанажаў будзе выдзяляцца гэты маленькі мопс — так-так, паступова парода сабакі памяняецца, і ўжо нельга здзіўляцца папулярным антыкварным французскім цацкам XIX — пачатку XX стагоддзя — фарфоравым статуэткам мопса Маілё.

Іншыя будуць чытаць гэтыя апавяданні сваім дзецям перад сном, а дзеткі будуць прасіць: «Прачытай, тата, яшчэ раз пра Рэйн». «Ну, добра», — скажа тата і ў пакойчыку прагучыць:

«Маленькі мопс, якому не хапала дыхання, бег за карэтай свайго захопленага гаспадара да самага Рэйна. Гэта быў Маілёф, маленькі гадаванец герцага Энгіенскага. Калі салдаты заўважылі сабачку, яны проста кінулі яго ў раку. Але, нягледзячы на кволае цельца і кароткія лапкі, сабака змагаўся з плынню і дасягнуў нарэшце французскага берага. Верны мопс бег за карэтай, пакуль салдаты нарэшце не злітасцівіліся і не дазволілі яму далучыцца да свайго гаспадара».

Забойства Луі Антуана Энгіенскага жорстка ўдарыць па самім Напалеоне. Колішні выратавальнік рэвалюцыі ў вачах многіх стане ўвасабленнем сляпой і бязлітаснай дыктатуры. Лічыцца, што гэты неабачлівы расстрэл паскорыць фарміраванне Трэцяй антыфранцузскай кааліцыі з яе Аўстэрліцам. А тады была Чацвёртая, і Бярэзіна, і Ватэрлоа. ◆

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ,

АБО НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І ПРАГРАМІСТАЎ

ЧАСТКА 2



















ПАРАЛЕЛЬНА СА СВЕТАМ ЛЮДЗЕЙ ІСНУЕ ВЫМЯРЭННЕ, ДЗЕ ЖЫВУЦЬ ГЕРОІ МІНУЛАГА. ГЭТА СУПЕРБЕЛАРУСЬ.
КОЖНЫ ЗНАХОДЗІЦЬ ТУТ СПРАВУ ДЛЯ СЯБЕ. У IT-МЕГАПОЛІСЕ ПОЛАЦКУ ПРАЦУЮЦЬ НАВУКОЎЦЫ...


СУПЕРМЕНСК ЯДНАЕ ЎСІХ, ХТО ЛЮБІЎ ЗМАГАННЕ...


"НАША НІВА" ЗБІРАЕ ІНТЭЛЕКТУАЛАЎ: ПАЭТАЎ, ПІСЬМЕННІКАЎ...


У КАРАЛЯ ПАНЕ КАХАНКУ РАДЗІВІЛА ЗБІРАЮЦЦА ГУЛЯКІ...
ЭХ, ДРОБ-НЕНЬ-КІ ДОЖД-ЖЫК
СКА-ЧА ЛЯ ТЫ-НА, ДЗЕ ЧЫР-ВА-НЕ-Е КВЕТ-КА
ШЫП-ШЫ-НАА!.. ДЗЕ ЧЫР-ВА-НЕ-Е КВЕТ-КА
ШЫП-ШЫ-НА!


... і гэтак далей. Такіх месцаў у Супербеларусі вельмі шмат. Усе мы розныя, але яднае нас адно – у цяжкія моманты гісторыі мы прыходзім вам на дапамогу!


Не, чакайце... Гэта ўсё ж нейкі развод!... Не можа быць такога!..


...Усяслаў быў старажытным полацкім князем, тады па-іншаму гаварылі... А чаму вы гаворыце па-сучаснаму?


А што можа быць прасцей – вывучыць беларускую мову? Часу ў мяне шмат і папрактыкавацца ёсць з кім...
Янка, Алаіза, Якуб, іншыя калегі...


А чаму раней пра Супербеларусь ніхто не чуў?
Ёсць толькі адно месца, дзе нашы сусветы судакранаюцца – твая сядзіба. Каб адчыніць браму між вымярэннямі, нам патрэбен сувязны на вашым баку. І абсталяванне...
Штосьці я не бачыў тут ніякага абсталявання ...
Як гэта? А ясень? А лямпа? Гэта што?


Ясень? Гэта ж проста дрэва!
Гэта для вас ён дрэва, а для нас – брама!
Ну, брама, гэйт, партал... Расце ён у вашым свеце, але кодзім мы яго са свайго боку. У ім усё праграмнае забеспячэнне. Але ясень мусіў дасягнуць пэўнай велічыні, каб хапала энергіі на партал. А лямпа – ключ, які актывуе браму...


А РАНЕЙ БРАМУ АДЧЫНЯЛІ?
ДОБРА, ШТО ЛЮЦЫЯН, БЫЛЫ ПРАВАДНІК, НОВАЕ ДРЭВА ПАСАДЗІЎ НА ТЫМ МЕСЦЫ І СЫНУ ІНСТРУКЦЫІ ПАКІНУЎ.
ТАК, БЫЎ СТАРЫ ЯСЕНЬ. ЗГАРЭЎ РАЗАМ З ХУТАРАМ У 1919-М, АД ТАГО ЧАСУ І СЯДЗЕЛІ БЕЗ ПАРТАЛУ.
А, ДЫК ГАСПАДАР ХУТАРА – СЫН ВАШАГА ПРАВАДНІКА...
ЗНОЎ ГЭТЫ ГУК... А... ШТО ГЭТА З ВАМІ?
УСЯСЛАЎ, ПАЧАЛОСЯ! ТРЭБА ВЯРТАЦЦА, У НАС МАЛА ЧАСУ!
ТАК, СУВЯЗЬ ПАКУЛЬ НЕСТАБІЛЬНАЯ. МЫ ПА СПРАВЕ. СТО ГАДОЎ ТАМУ, КАЛІ БРАМА ЗАЧЫНІЛАСЯ, АДЗІН З НАШЫХ ЗАСТАЎСЯ ТУТ.


ПАМАЖЫ НАМ ЯГО ЗНАЙСЦІ. АПОШНІ РАЗ ЯГО БАЧЫЛІ Ў МЕНСКУ ВЯСНОЙ 1918-ГА.
ДЫК СТО ГАДОЎ ЖА ПРАЙШЛО – ХІБА МОЖНА СТОЛЬКІ ПРАЖЫЦЬ?


НАВАТ У ЧАЛАВЕЧЫМ АБЛІЧЧЫ МЫ НЕ ПАМІРАЕМ. АЛЕ БЕЗ СУВЯЗІ З СУПЕРБЕЛАРУССЮ ГУБЛЯЕМ СІЛЫ І МОЦНА СТАРЭЕМ...
ЯК ЯГО ЗАВУЦЬ?
У НАШЫМ СВЕЦЕ – ВІТАЎТ. У ВАШЫМ – ТРЭБА ШУКАЦЬ.


ВОСЬ МАТЭРЫЯЛЫ, ЯКІЯ ТАБЕ ДАПАМОГУЦЬ! А ЦЯПЕР – БЫВАЙ!
ДАПАМАЖЫ НАМ, МАКСІМ!
Я ДАПАМАГУ ВАМ, АБАВЯЗКОВА ДАПАМАГУ!


КАЛІ ГЭТА ЎСЁ ПРАЎДА... ДЗЕ Ж ЦЯБЕ ШУКАЦЬ, ВІТАЎТ?.. Я НАВАТ ІМЯ ТВАЙГО НОВАГА НЕ ВЕДАЮ...


ХМ, ЗНІКЛІ, БЫ Й НЕ БЫЛО ТУТ НІКОГА, БЫ Й НЕ БЫЛО СУПЕРБЕЛАРУСІ...
ЦУДЫ НЕЙКІЯ ДЗЕЮЦЦА, ДЫ Й ТОЛЬКІ...


НУ,ПАГЛЯДЗІМ, ШТО ТУТ...
КЛІК!

# Наша Пластыляндыя

Аўтар: Алесь Кудрыцкі

Я купец Гаўрыла са славутага горада Полацка. А ты хто такі?

Мяне завуць Танака. Можна з вамі?

Які тавар вязеш? Колькі заплаціш мне за дарогу?

Тавару не маю, грошай таксама.

Хм... А што ты ўмееш?

Ды нічога...

Нашто нам трэба такі няўмека, без тавару ды без грошай?

А можа, возьмем яго? У дарозе лішнія рукі не перашкодзяць.

Угаварылі. Гайда з намі!

Ура!

Але ты мусіш рабіць усё, што я скажу.

Мы сплаўляемся па рэках з паўночнага мора ў паўднёвае, па шляху з варагаў у грэкі. Я вязу на продаж мёд, воск і арэхі.

Маё імя — Стэфан Слімаксан.

А гэта мой брат Олаф. Мы варагі. Мы жывём за халодным морам.

А што вы везяцё?

Гэта сакрэт.
Мы яго табе пакажам.
Але нікому не кажы.

Мы вязём на продаж бурштын. Гэта камень, які можна знайсці на беразе халоднага мора. Ён вельмі каштоўны і прыгожы.

Купец Гаўрыла паказаў Танаку на карце шлях з варагаў у грэкі.









А вось цяпер паглядзім, чый карабель самы шпаркі!

Працяг будзе...

www.tanaka.by

## Сацсеткі служаць аўтарскаму праву

Да II Еўрапейскіх гульняў у Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы зладзілі выставу па гісторыі беларускага спорту. Сярод іншага там быў прадстаўлены партрэт славутага беларускага гімнаста, шасціразовага чэмпіёна Алімпійскіх гульняў 1992 года ў Барселоне Віталя Шчэрбы аўтарства... А вось з аўтарствам якраз і ўзнік канфуз. Супрацоўнік бібліятэкі, гісторык **Анатоль Сцебурака**, паглядзеўшы выставу адразу пасля яе адкрыцця, напісаў у сябе ў фэйсбуку:

«Шаноўныя знаўцы сучаснага беларускага мастацтва! Хто ведае аўтара гэтага партрэта? На выставе ў НББ ён прэзентуецца як ананімны (!). А мяне бянтэжыць факт, што ўжо праз якіх 20 год мы не можам прыгадаць імя творцы».

Сучасныя камунікацыйныя тэхналогіі дазваляюць у выпадку чаго паклікаць на дапамогу калектыўны розум вельмі хутка, а галоўнае — эфектыўна. Гэты выпадак бліскуча тое пацвердзіў.





SHUTTERSTOCK, BY NAITO29

У той жа дзень аўтар карціны стараннямі гісторыка **Антона Дзянісава** быў устаноўлены, ім аказаўся мастак Міхаіл Будавей. Пасля чаго подпіс на стэндзе быў неадкладна выпраўлены.

## «Ад перапою балелі галовы...»

Лагойская раённая газета **«Родны край»** ужо другі год мае пастаянную рубрыку, у якой перадрукоўваюцца некаторыя публікацыі, што выходзілі ў яе папярэдніцы дзясяткі гадоў таму. У нумары ад 22 чэрвеня — сюжэт, які дазваляе зазірнуць за кулісы правінцыйнага спартыўнага жыцця той пары.

У чэрвені 1960 года адбыўся футбольны матч паміж зборнай гарадскога пасёлка Лагойск і «адной з каманд г. п. Плешчаніцы». Цяпер гэта быў бы ўнутрыраённы міжсабойчык, але да 1962-га існаваў асобны Плешчаніцкі раён, суперніцтва з якім было для лагайчан прынцыповым. Таму яны гэтага паядынка «з нецярпеннем чакалі» і небеспадстаўна разлічвалі на перамогу сваіх землякоў, бо перад гэтым «лагойскія футбалісты выйгралі ў мінскай каманды з лікам 8:0».

Але вынік матча з Плешчаніцамі стаў для лагойскіх заўзятараў шокам: іхняя каманда бязвольна саступіла з лікам 2:6. Прытым тое, што каманда яўна слабейшая за сапернікаў і пройгрыш цалкам па справе, прысутным на стадыёне было відаць няўзброеным вокам.

Па гарачых слядах у раённай газеце быў зроблены разбор палётаў пад назвай «Чаму прайгралі лагайчане», які вывеў на святло непрыглядныя факты. Бо мясцовае спартыўнае кіраўніцтва замест таго, каб апраўдвацца і ківаць на нешчаслівую карму, рэзала праўду-матку:

«— Як магло здарыцца, што нашы футбалісты прайгралі з такім буйным лікам? — з абурэннем пытаюць аматары футбола.

Вось што гаворыць аб гэтым старшыня раённага Савета саюзаў спартыўных таварыстваў і арганізацый тав. Ермакоў:

— Раней мы ўключалі ў склад каманды падстаўных ігракоў, на гэты раз наша каманда выступіла ў сваім складзе, таму і атрымалі паражэнне».

Якасць жа мясцовых кадраў сапраўды засмучала:

«Сярод ігракоў каманды няма дысцыпліны. Так, у мінулую нядзелю на футбольнае поле выйшаў у нецвярозым стане Слонскі (калгас "Бальшавік"). А ў Лагойскага і Аксенчыка ад перапою балелі галовы. Абыякава гулялі некаторыя іншыя ігракі. Ясна, што з такім складам каманды на выйгрыш разлічваць нельга».

Застаецца толькі здагадвацца, патрапілі суседзі выйграць у такой лагойскай каманды ўласнымі сіламі ці ім для гэтага таксама спатрэбіліся падстаўныя гульцы. ◆





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

# EGCG



## Korean Green Tea Catechin

antioxidant protection

Серыя касметыкі EGCG KOREAN Green Tea Catechin на аснове канцэнтраванай сілы 4 кампанентаў зялёнага карэйскага чаю:

- *BioGenic EGCG-200*
- *Ферментаваны экстракт зялёнага чаю*
- *Гідралат зялёнага чаю*
- *Экстракт ствалавых клетак зялёнага чаю*

*а таксама:*

- *Натуральны японскі зялёны чай Matcha*






УЗМАЦНЯЕ АБАРОНУ СКУРЫ АД НЕГАТЫЎНАГА ЎЗДЗЕЯННЯ:




Белита-М®
COSMETICS